**Дзяржаўны камітэт па архівах і справаводству**
**Рэспублікі Беларусь**

# МАЛЫ ГЕРБОЎНІК НАВАГРАДЗКАЙ ШЛЯХТЫ

**Мінск 1997**

ББК 63.2(4Беи)
М 20
УДК 929.5(476)

Рэцэнзент — кандыдат гістарычных навук
**А.М. Міхальчанка**

Аўтарскі калектыў:
**А. Гануш, А. Леўчык, С. Рыбчонак,
А. Шпунт, Зм. Яцкевіч**

Складальнік **С.А. Рыбчонак**

**Малы гербоўнік Наваградзкай шляхты**. Склад. С.А. Рыбчонак; маст. А. Леўчык: -Мінск., БелНДІДАС,1997. – 161 с.
М 20

Кніга з'яўляецца першай спробай у беларускай гістарычнай навуцы стварэння генеалагічнага выдання кшталту гербоўніка. Змешчаны матэрыялы па генеалогіі 202 родаў, якія паходзілі з Наваградзкага ваяводства, або стала пражывалі ў ім, падаюцца звесткі пра гербы, якімі яны карысталіся, валоданне маёнткамі, наданне пасад і ўрадаў, іншая інфармацыя.

Разлічана на гісторыкаў, этнографаў, краязнаўцаў, усіх тых, хто цікавіцца каранямі сваіх продкаў і даўняй гісторыяй Беларусі.

Мастак *А.Леўчык*
Макет *У.Вяроўкін-Шэлюта*

Выданне падрыхтавана пры дапамозе Мінскага генеалагічнага таварыства (MGG)

М 9290500000

ББК 63.2(4Беи)

# ДА ЧЫТАЧА

Перад вамі - першае навуковае выданне, падрыхтаванае Беларускім генеалагічным таварыствам (БГТ). Наша таварыства было створана 6 верасня 1994 г., каб спрыяць развіццю генеалагічнай навукі на Беларусі, каардынаваць дзейнасць гісторыкаў і генеалогаў-аматараў па вывучэнню сямейнай гісторыі, прапагандаваць і распаўсюджваць гістарычныя веды сярод насельніцтва, абуджаць цікавасць да гісторыі свайго рода.

У лік сябраў таварыства ўвайшлі многія гісторыкі-архівісты, якія маюць непасрэднае дачыненне да генеалагічных доследаў. Разам з імі працуюць і даследчыкі-аматары, якія цікавяцца сямейнай гісторыяй. Таварыства аказвае дапамогу ў генеалагічных пошуках як грамадзянам Беларусі, так і выхадцам з яе тэрыторыі, і іх нашчадкам.

На першым этапе дзейнасць БГТ зводзілася ў асноўным да метадычных парад і практычнай дапамогі тым, хто жадае ведаць свой радавод. Падрыхтоўка гэтага зборніка сведчыць, што мы выходзім на новы ўзровень апрацоўкі і публікацыі генеалагічных крыніц. Зборнік прысвечаны матэрыялам па генеалогіі шляхты Наваградчыны - аднаго з найбольш багатых на гістарычнае мінулае куткоў Беларусі.

У далейшым мы плануем зрабіць публікацыю матэрыялаў рэгулярнай. У нашы намеры ўваходзіць выданне шэрагу археаграфічных публікацый і даведнікаў. З іх чытач зможа даведацца, якія крыніцы па генеалогіі шляхецкіх, сялянскіх і мяшчанскіх родаў захоўваюцца ў архівах Беларусі, а таксама за яе межамі, якога кшталту інфармацыя змяшчаецца ў іх.

У прыватнасці, у нашы намеры ўваходзіць выданне матэрыялаў, прысвечаных павятовай шляхце Аршаншчыны і іншым рэгіёнам Беларусі. Збіраемся мы апублікаваць і даведнікі пра масавыя генеалагічныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным

архіве ў Гродна і Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску, каталог метрычных кніг з архіваў ЗАГСа, іншыя матэрыялы.

Сябры таварыства спадзяюцца, што распаўсюджанне гэтай інфармацыі будзе і надалей абуджаць цікавасць да генеалогіі, спрыяць аднаўленню сямейнай гісторыі мільёнаў нашых суайчыннікаў.

Магчыма, у кагосьці з зацікаўленых чытачоў ці патэнцыяльных спонсараў узнікнуць прапановы наконт выдання генеалагічных матэрыялаў. Кіраўніцтва БГТ з задавальненнем прыме іх па адрасу: Рэспубліка Беларусь, 220048, г. Мінск, вул. Калектарная, д. 10, пакой 208.

**Вячаслаў Насевіч,** ***кандыдат гістарычных навук,***
***супрэзідэнт Беларускага***
***генеалагічнага таварыства***

# Прадмова

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа.
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Дзе мой край?
Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме.
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, - ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край?
Там, дзе мудрыя продкі ў хвоях паснулі...
Мы клянемся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі...
Не кінем цябе.

***Уладзімір Караткевіч. Беларуская песня.***

Наваградчына - калыска старадаўняй Літвы, сэрца магутнейшага ў Еўропе 14-16 ст. гаспадарства — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (ВКЛ). Можна доўга разважаць, адкуль пайшла Беларусь,але бясспрэчна адно: на цудоўнейшых наваградзкіх узвышшах, лясах і азёрах, неаднойчы апетых класікамі беларускай, польскай і іншых літаратур, з даўніх часоў жывуць нашы людзі.

Наваградак, паводле археалагічных звестак, узнік у 10 ст. як умацаванне на мяжы з Літвой. Першы ўспамін у пісьмовых крыніцах - 1252 г. З таго ж часу ён становіцца рэзідэнцыяй Вялікіх князёў літоўскіх, а з 1416 г. у горадзе таксама размясцілася праваслаўная мітраполія ВКЛ. З 1507 г. - цэнтр Наваградзкага ваяводства і павета, дзе знаходзіліся ўсе ўрадавыя ўстановы, праходзілі Соймікі, а з 1581 г. - і сесіі Галоўнага Трыбунала ВКЛ. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай горад апынуўся спачатку ў Літоўска-Віленскай, потым у Літоўска-Гарадзенскай і, нарэшце, з 1842 г. - павятовы цэнтр Мінскай губерні.

З наваградзкіх зямель славутыя Міндоўг, Войшалк і Вітаўт пачыналі нялёгкае аб'яднанне беларускіх зямель у

адзіную дзяржаву каб супрацьстаяць моцным і жорсткім ворагам - крыжакам і мангола-татарам; тут пісалі свае творы знакамітыя на ўвесь свет паэты, філосафы і асветнікі А.Міцкевіч, У.Сыракомля, Я.Чачот, Т.Зан; з Наваградзкага ж ваяводства паходзяць І.Дамейка, У.Барзабагаты, іншыя змагары за волю нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны.

А колькі славутых родаў, якія баранілі нашу Айчыну ад крыжакоў, татараў ды іншых заваёўнікаў, што проста і самаахвярна служылі ёй кожны дзень, застаюцца пакуль што невядомымі. Несумненна, што ў першую чаргу гэта была шляхта, якая складала на Беларусі 8-12 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва. Таму не выпадковы зварот менавіта да генеалогіі гэтага саслоўя.

Трэба адзначыць, што гэта першае на Беларусі выданне падобнага кшталту. Да гэтага мы мелі тэндэнцыйна напісаныя польскія і расійскія гербоўнікі, якія змяшчалі інфармацыю пра найбольш знакамітыя, пераважна, магнацкія роды.

Гісторыя гэтай кнігі пачалася яшчэ ў 18 ст., а калі быць больш дакладным - за два тыдні да нараджэння Адама Міцкевіча. Пасля далучэння да Расійскай імперыі, уся беларуская шляхта, згодна маніфеста Кацярыны II, павінна была рабіць вывады (радаводы) ў спецыяльна створаных пры губернскіх дваранскіх дэпутацкіх сходах вывадовых камісіях. Вось і прыйшлося наваградцам ездзіць у Вільню на паклон да тагачаснага маршалка графа Людвіка Тышкевіча.

Пратаколы вывадовых камісій з'яўляюцца першай і галоўнай крыніцай па шляхецкай генеалогіі. Яны складаліся наступным чынам: шляхціч паведамляў звесткі пра свае паходжанне (адкуль і ад каго), г.зн. радавод, які падмацоўваў дакументамі (арыгіналамі ці выпісамі), пасля чаго камісія прызнавала (або не прызнавала) яго ў дваранстве Расійскай імперыі. Трэба адзначыць, што ўмовы прызнання, ў канцы 18 - пачатку 19 ст. былі досыць лёгкімі: прызнавалі нават па пасведчаннях ураднікаў і абывацеляў таго павета, дзе жыў вывадзіўшыйся. Пазней умовы прызнання станавіліся больш жорсткімі: патрабаваліся дакументы на валоданне прыгоннымі, чаго

шляхта амаль не мела, належным чынам афармленыя і завераныя выпісы і, нарэшце, зацверджанне з боку Дэпартамента герольдыі пры Сенаце.

Дадзены гербоўнік уключае радаводы 202 родаў, выводзіўшыхся непасрэдна з Наваградзкага пав. у 1798-1801, чые пратаколы былі запісаны ў кнігах Віленскага дваранскага дэпутацкага сходу (ДДС). Некаторыя з іх пазней рабілі вывады і ў Мінскім ДДС, але перш за ўсё, вялікую цікавасць маюць звесткі пра роды, што выводзіліся потым па Віленскай і Гарадзенскай губернях (віленскія матэрыялы сёння амаль што не даступны беларускім даследчыкам, а гарадзенскія згарэлі яшчэ ў канцы 19 ст.), або не выводзіліся навогул. Да таго ж першыя вывады змяшчаюць значна больш праўдзівай інфармацыі, чым пазнейшыя, калі шляхта магла падпрацаваць свой радавод з улікам наяўных дакументаў. Таму несумненна, што выданне гэтых матэрыялаў, якія знаходзяцца сёння: арыгіналы ў Віленскім, а копіі часткова ў Мінскім і Гарадзенскім гістарычных архівах, будзе мець вялікую цікавасць і значную карысць для ўсіх, хто вывучае гісторыю і краязнаўства Наваградчыны.

Крыху слоў пра методыку апрацоўкі і схему апісання аўтарамі згаданых пратаколаў:

1) Звесткі, якія выводзіўшыеся падавалі як вядомыя з летапісаў, літаратуры, ці па родавых паданнях, аддзелены ад рэальнай генеалогіі і вынесены ў своеасаблівы ўступ да артыкула;

2) Асноўная частка артыкула ўключае апісанне рэальнага радавода з пазначэннем родапачынальніка, род随ных сувязяў і дакументаў пра валоданне маёнткамі, судовыя справы, наданні пасад і г.д., якія выводзіўшыеся прадстаўлялі ў доказ свайго паходжання. Прадстаўнікі роду, што рабілі вывад, у тэксце падкрэслены. Усе матэрыялы падаюцца адпаведна тэксту з найбольшым набліжэннем да арыгінала, які напісаны па-польску, асабліва, што тычыцца імёнаў, прозвішчаў і назваў населеных пунктаў. Выяўленыя недакладнасці, памылкі ці заўвагі аўтара вынесены ў спасылкі. Матэрыялы якіх-небудзь іншых прац па генеалогіі, змешчаных у гербоўніку родаў, не далучаліся;

3) У канцы артыкула падаюцца звесткі аб даце прызнання вывада (у дужках - па новаму стылю, з пачатку 1800 — толькі па новаму), што неабходна для ідэнтыфікацыі рода і правядзення далейшых пошукаў;

4) Малюнкі гербаў зроблены з арыгіналаў канца 18 ст., што захаваліся ў апрацаваных матэрыялах, а пры іх адсутнасці выкарыстоўваліся тыповыя малюнкі з гербоўніка Boniecki A.Herbarz Polski. т.1-14. Warszawa, 1899-1911, прац Szymanski J.Herbarz sredniowieczhego rycerstwa polskiego. Warszawa, 1993 і Chrzanski St. Tablica odmian herbowych. Warszawa, 1909. Састаўныя часткі, сімволіка і колер гербаў падаюцца адпаведна прынятай геральдычнай традыцыі. Уласныя назвы гербаў, большасць якіх мае польскае паходжанне, пададзены ў форме дакладнай транскрыпцыі з арыгінала згодна нормаў сучаснай беларускай мовы.

Стварэнне навуковага апарата мела значныя цяжкасці, што тлумачыцца, у першую чаргу нераспрацаванасцю праблем тэрміналогіі па генеалогіі і геральдыцы ў беларускай навуцы, але спадзяемся, што ён прынясе значны плён надалей.

Імянны паказальнік складзены наступным чынам: падаецца прозвішча з указаннем нумароў артыкулаў, дзе яно сустракаецца; роды, што ўвайшлі ў гербоўнік, падкрэслены з азначэннем нумара адпаведнага артыкула дужкамі.

Выказваем вялікую ўдзячнасць старшыні Белкамархіва А.М. Міхальчанку, начальніку аддзела геральдыкі і генеалогіі Белкамархіва В.Л.Насевічу, дырэктару БНДІ дакументазнаўства і архіўнай справы У.М.Міхнюку, дырэктару НГА Беларусі ў Мінску А.К.Галубовіч, агенцтву “Геронт-А” (за фінансавую падтрымку), Суддзі Выводнаму Згуртаваньня Беларускай Шляхты Ў.М.Вяроўкіну-Шэлюту, С.Я.Рассадзіну, С.Ф.Адамовіч, І.І.Сухаверх, В.Каўтуневічу і ўсім іншым, хто спрыяў напісанню і выданню гербоўніка.

Шаноўны чытач! Жадаем табе задавальнення ў чытанні гэтай кнігі і спадзяемся, што яна прынясе карысць кожнаму беларусу ў нашай любімай Бацькаўшчыне.

*С.Рыбчонак, З.Яцкевіч*

# АСНОВЫ ГЕРАЛЬДЫКІ



Мал. 1

Геральдыка — навука аб гербах, якая з'яўляецца адной з дапаможных гістарычных дысцыплін. Мы можам бачыць, што грунтоўную частку ўсяго гербу складае шчыт з геральдычнымі выявамі, які дапаўняе шлем з яго атрыбутамі. З гэтага вынікае, што геральдыка — спадчына рыцарскай культуры, крыжовых паходаў і турніраў.

Першыя гербы з'явіліся ў Заходняй Еўропе ў 11-12 ст., што тычыцца Польшчы, то яна не ведала гербаў аж да канца 13 ст. Разам з тым, пратагеральдычныя знакі змяшчаліся на шчытах, пячатках і іншых рэчах, але іх нельга блытаць з пазнейшымі гербамі. На тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага гербы з'явіліся пасля Гарадзельскай уніі 1413 года.

Герб — гэта знак, выкананы на аснове вядомых, дакладна вызначаных правілаў і з'яўляецца адметным сімвалам асобы, рода, горада, дзяржавы. Слова "герб" — нямецкага паходжання, дзе яно мае іншы сэнс. У асобных дыялектах нямецкай мовы выраз мае рознае гучанне: arbi, arf, erwe, erbe, herbe у значэнні "зямля" ("глеба"), грунт, земская ўласнасць, і адначасова наследнік (спадчыннік) і спадчына. З нямецкай мовы яно перайшло ў чэшскую і польскую. У Чэхіі, як і ў немцаў, герб ёсць уласнасць толькі аднаго рода, адной назвы. У польскай мове гэта слова мае больш шырокі сэнс. Польскае — "herb", і чэшскае "erb" больш адпавядае нямецкаму "Wappen" (вытворная

ад “Waffen” — зброя).

Пераважная большасць шляхецкіх гербаў складаецца з: шчыта, шлема, кароны ці завоя (“бурелёта”), клейнота, шлемавага намёта (мал. 1).

## ШЧЫТ

Як ужо згадвалася, асноўным насіцелем гербу з’яўляецца шчыт — старажытны спадарожнік рыцара, але не кожны шчыт лічыцца геральдычным, хоць і меў бы якуюнебудзь выяву. Такімі патрэбна лічыць падобныя на сапраўдныя баявыя шчыты, якія пры усім гэтым былі зручнымі для размяшчэння геральдычных выяваў. Вызначаюцца наступныя формы: — трохкутны старажытны (мал. 2а) ужываўся ў геральдыцы першапачаткова і меў выгляд роўнабедранага трохкутніка з аснаваннем 7/8 вышыні. Звычайна меў нахіл у правы ці левы бок, але звычай упрыгожваць шчыт каронай вымусіў перайсці да прамастаячых шчытоў. І калі першыя гербы былі простымі і наіўнымі па малюнку, то гэта форма не выклікала нязручнасці для размяшчэння геральдычных выяваў. Акрамя таго існуюць: французскі (мал. 2б), нямецкі (мал. 2д), іспанскі (мал. 2в), англійскі (мал. 2ж), ромбавы (дамскі) (мал. 2е).

## КОЛЕРЫ ГЕРАЛЬДЫЧНЫЯ (тынктуры)

Класічная геральдыка ведае наступныя асноўныя тынктуры: два металы (золата і срэбра) і пяць фарбаў (чырвоная, блакітная, пурпуровая, зялёная і чорная).

— золата (мал. 2а)

Гэты метал адлюстроўваецца кропкамі і з’яўляецца знакам розных дабрачыннасцяў: справядлівасці, міласэрнасці, узвышнай душы. Яго ўжывалі таксама каб паказаць багацце, вялікадушнасць і каханне.

Таму сярэднявечныя геральдысты лічылі, што асобы,



Мал. 2

меўшыя яго ў гербах, павінны былі больш чым хтонебудзь абараняць рыцарскую годнасць.

— срэбра (мал. 2б)

Лічылася сімвалам характва, справядлівасці, цнатлівасці, ад чаго ў малюнках гербаў пакідалі чыстымі (белымі) фігуры і часткі з гэтага металу.

— чырвоны (мал. 2в)

У сярэднявеччы быў эмблемай мужнасці, доблесці, адвагі, а таксама сімвалізаваў сабой кроў, пралітую за царкву і манархаў.

Шафіроўкай колер адлюстроўваецца вертыкальнымі лініямі.

— блакітны (мал. 2г)

Сімвалізаваў сабой: цнатлівасць, годнасць, вернасць, бездакорнасць, а таксама неба. Графічна яго малююць гарызантальнымі лініямі.

— пурпуровы (мал. 2д)

Азначае годнасць, памяркоўнасць, шчодрасць, вярхоўную ўладу.

Пурпур рэдка скарыстоўваецца ў гербах. Старажытныя геральдысты, у тым ліку Menestrier, зусім не дапускалі пурпура ў гербах, іншыя ж, напрыклад Colombiere, адносілі яго як да металаў, так і да фарбаў. Графічна яго адлюстроўваюць дыяганальнымі лініямі злева.

— зялёны (мал. 2е)

Сімвал надзеі, заможнасці, незалежнасці і радасці. Графічна яго малююць дыяганальнымі лініямі справа.

— чорны (мал. 2ж)

Сімвал жалобы (траўра), смутку, адхілення ад свецкіх уцех, разважлівасці і пакорлівасці. Чорны колер часта выбіраўся рыцарамі, якія жадалі пакінуць сваё імя не-

вядомым. Шафіроўкай азначаецца перакрыжаваннем вертыкальных і гарызантальных ліній, ці афарбоўваецца чорным колерам.

## ШЛЕМ

Да 14 ст. гербам лічылі толькі шчыт без розных дадаткаў. Шлем з'явіўся ў Польшчы дзесьці ў 15 ст. Яго размяшчэнне абумоўлена размяшчэннем шлемавага клейнота. У шляхецкіх гербах звычайна адзін, радзей — два.

## ШЛЯХЕЦКАЯ КАРОНА

У геральдыцы мае выгляд абруча, упрыгожанага пярлінамі і каштоўнымі каменнямі, з пяццю зубцамі: цэнтральны і два крайнія аздоблены лісцем сельдэрэя, астатнія два — пярлінамі. Гэтая карона мае таксама назву шлемавай, але ў гэтым выпадку яна павінна каранаваць шлем. Першапачаткова, дакладней у 13 ст., яна ўжывалася каралеўскімі асобамі, але ўжо ў 15-16 ст. ужываецца пераважна ў шляхецкіх гербах, у тым ліку і ў Польшчы. Радзей у польскіх гербах замест кароны ўжываецца завой, скручаны з тканіны, звычайна з двух-трох колераў. Большасць гэтых гербаў — іншаземнага паходжання.

## КЛЕЙНОТ

У заходнееўрапейскай геральдыцы — шлемавыя фігуры, замацаваныя на вяршыні шлема. Акрамя таго, так называліся розныя аздобы, прылады і дадаткі, якімі рыцар упрыгожваў свой шлем, але ў польскай геральдыцы яны не мелі ніякага значэння і нават засталіся ў нас без назваў. Выраз kleinod пачаў ужывацца немцамі, яны ж упершыню пачалі выкарыстоўваць гэтыя фігуры на рыцарскіх турнірах (1286 г.). Старажытнейшымі шле-

мавымі ўпрыгожваннямі нямецкіх рыцараў былі: арліныя крылы, рогі, розныя фантастычныя жывёлы і г. д. І толькі з другой паловы 14 ст. ён становіцца спадчыным і аднолькавым для ўсяго роду ці яго галіны. У Польшчы выраз клейнот часам ужываецца ў тым жа значэнні, што і герб шляхецкі.

Клейноты можна падзяліць на:

— таўталагічныя, у якіх змешчаны выявы як у шчыце (напр. Абданк, Порай, Лебедзь);

— таўталагічныя з аздобамі, калі на пер'ях, крылах ці іншых фігурах паўтараюцца выявы шчыта (напр. Ладдзя, Леліва, Троска, Шылінг);

— клейноты рыцарскія, не звязаныя з выявай у шчыце і з'яўленне якіх звязана з родавымі легендамі (напр. Агоньчык, Далэнга);

— фігуры, якія перайшлі ў клейнот са шчыта (напр. Корчак);

— клейноты як аздобы: паўлінавы ці страусавы пер'і.

## ШЛЕМАВЫ НАМЁТ

Першапачаткова – ў выглядзе плашча, стужак, а пазней у выглядзе лісця аканта. Звычайна знешняя старана яго каляровая (чырвоная, блакітная і г.д.), падбой — металічны (золата, срэбра).

**Андрэй Леўчык**

## 1. Абламовічы гербу «Абданк»



Рг. - Мікалай, уладальнік фальв. Плёткі і Вызгаўшчына ў Лідзкім пав. (квіт на выплату падаткаў 1690), судзіўся з Бурцэвічамі (1682). Ян (нар. у 1706), сын Уладзіслава Мікалаевіча, валодаў пляцамі і сядзібай у Троках, якія набыў ад Тамаша Ма(д)залеўскага (1738), загінуў на вайсковай службе, пакінуў сыноў Якуба, Караля і Дамініка і дачку Разалію, што ўзяла шлюб з Корсакам.

З іх Дамінік, каморнік троцкі, пазней камісар цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі, прадаў спадчынныя фальв. Ляўшаны і Жэрабяны Данілевічам (1775), а фальв. Таўгіняны ў Лідзкім пав. - канюшаму ВКЛ Александровічу (1786), меў у закладзе фальв. Беразовічы (Наваградзкі пав.), набыў таксама ад абознага ВКЛ гр. Пацея фальв. Варвішкі ў Гарадзенскім пав. (1797), пакінуў сыноў Ігнацыя, Пятра і Адама.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

*С.Рыбчонак*

## 2. Абуховічы гербу «Ясеньчык»[1].



Рг. - Філіп, ваявода смаленскі па прывілею Караля Яна-Казіміра (1653), староста бульскі (1654). Яго сыны Міхаіл і Тэадор, з якіх апошні - кашталян наваградзкі, па прывілею Караля Аўгуста II, пакінуў сына Яна.

Юзаф, сын Яна, экспадваяводзіч наваградзкі, меў сыноў: Філіпа, які быў напачатку судовым падстарастам Мазырскага пав., а пазней - харужым Сталавіцкага пав., Міхаіла, кашталяна мінскага, і Ксаверыя, спачатку падваяводу, а потым суддзю земскага наваградзкага.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

---

[1]Гэты род вядомы ў генеалогіі пад гербам «Ясеньчык» зменены ці «Абуховіч», аднак у арыгінале ён названы і намаляваны дакладна проста «Ясеньчык».

*С.Рыбчонак*

## 3. Аганоўскія гербу «Агоньчык»

Па родаваму паданню паходзілі ад Пятра з Радзікава.

Вядома: Ян А., што меў сы-



ноў Казіміра, Дамініка, Войцэха, Яна, Пятра і Ануфрыя,якія рассяліліся па Віленскім, Троцкім, Вілкамірскім і інш. пав.

- Бенядзікт, канюшы віленскі, што набыў маёнт. Багуславішкі і Нарвойшышкі ад Францішкі з Міцкевічаў, жонкі скарбніка Віленскага ваяв., маці, і Гіпаліта, сына, Падбярэзскіх (1779).

- Адам з сынамі Янам, Пятром, Дамінікам, Канстанцінам, Паўлам і Ігнацыем, Станіслаў, Ян і Казімір А. атрымалі пасведчанні ад ураднікаў і абывацеляў Лідзкага(1780) і Навагрудзкага пав.(1799).

<u>Выводзіліся</u>: Тамаш, Антоні, Ян з сынам Юзафам; Мацвей з сынамі Геранімам. Юзафам і Станіславам; Стэфан з сынамі Самуэлем, Міхаілам і Андрэем; Антоні з сынамі Юзафам, Дыянісіем і Віктарам; Павел і Ян з сынам Вінцэнтам; Пётр, каморнік Троцкага ваяв., з сынамі Людвікам і Аўгусцінам; Ян, Дамінік і Канстанцін з сынам Ігнацыем; Адам, Ян, Станіслаў і Казімір А.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***А.Леўчык***

## 4. Аколавы гербу «Тапор»



Згодна родавага падання паходзілі ад Багдана Курышкіна, гетмана польнага літ., які праславіўся ўдалым заваяваннем Северскай зямлі (аколіцы, як гаварылі раней), за што атрымаў герб "Тапор" і прозвішча Аколаў, пазней ваяводы смаленскага.

Багдан пакінуў сыноў Андрэя, Сямёна і Лукаша, з якіх Андрэй і Лукаш сталі дзедзічамі маёнт. Вярэра, Чэмраў, Сіліны і інш. у Смаленскай зямлі. Сямён быў ваяводам смаленскім па бацьку і ўзначальваў абарону горада на пач. 16 ст., а пасля страты Смаленшчыны Кароль Аляксандр ва ўшанаванне заслуг яго бацькі надаў яму маёнт. Нягневічы, Волкавічы і інш. у Навагрудзкім ваяв., меў сыноў Васіля, Фёдара і Івана. З іх Васіль быў разам з Алехнам Храптовічам камісарам на мірных перамовах з Масковіяй, памёр беспатомным, а Іван з дазволу Караля Жыгімонта I прадаў сваю долю спадчыны ў 1501 і выехаў з Навагрудзкага ваяв. Фёдар жа застаўся спадчыннікам вышэйзгаданых маёнткаў, пакінуў сы-

ноў Сямёна, Багдана і Пятра, якія ў 1568 абмянялі з кн. Радзівіламі маёнт. Нягневічы на маёнт. Падгор'е, што знаходзіўся непадалёку, і з таго часу пачалі пісацца А.-Падгорскімі.

Пасля 1568 Сямён выехаў з Наваградзкага ваяв. Пётр меў сына Ждана і ўнука Яна, які памёр беспатомна, завяшчаўшы сваю долю спадчыны на фундуш Падгорскай царквы[1]. Багдан, дзедзіч маёнт. Падгор'е, што засведчыў квітам суддзя гродзкі і паборца Юзаф Голуб(1613), пакінуў сыноў Война, Адама і Захарыўша. З іх Война і Захарыўш памерлі беспатомнымі, а Адам меў трох сыноў: Аляксандра, у якога былі Стэфан, што стаў бернардынам, і яшчэ адзін Стэфан, што памёр беспатомным, Самуэля, дваранін Яго Каралеўскай Міласці (ЯКМ), што засведчыў лістом Кароль Ўладзіслаў IV (1648), які таксама памёр беспатомным, і Матыяша.

Матыяш быў уладальнікам маёнт. Падгор'е, што засведчылі квітамі аб выплаце падаткаў Яраслаў Аляксандр Шэмет (1627), а таксама Вінцэнт Рымша і Адам Троска, паборцы Наваградзкага ваяв. (1671), пакінуў шэсць сыноў: Канстанціна, Самуэля, Яна (беспатом.), Адама (беспатом.), Міхаіла (беспатом.) і Юрыя.

З іх Канстанцін меў сыноў Караля, у якога былі сыны Ян і Станіслаў, дзедзічы часткі маёнт. Падгор'е[2], Ігнацыя, у якога былі сыны Юзаф і Вінцэнт, што памерлі беспатомнымі, і Дамініка, сыны якога Канстанцін і Станіслаў сталі дзедзічамі маёнт. Брольнікі.

Самуэль пакінуў сына Антонія і ўнукаў Людвіка, Сымона і Міхаіла, што сталі спадчыннікамі часткі маёнт. Падгор'е-Акаловічы.

Юрый жа меў чатырох сыноў: Марцыяна, у якога былі сыны Стэфан, Якуб, Фларыян, Аляксандр, Казімір, Пляцыд і Ізаяш, Яна, яго сыны Юзаф, Ваўжынец і Адам, Дыянісія (беспатом.) і Багуслава(беспатом.), што ўсе былі дзедзічамі зямлі ў вак. Падгор'е-Акаловічы.

Разам з імі выводзіліся: Ян[3] з сынамі Францішкам, Пятром, Уладзіславам і Габрыэлем; Станіслаў[4] з сынамі Брунонам, Эдвардам і Войцэхам, а таксама Юзаф з сынамі Ігнацыем і Іаахімам, Ян, Мацвей, Стэфан і Нікадэм, родныя браты А., не пазначаныя ў генеалогіі.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1]Яшчэ існавала ў 1799.

[2]Яшчэ валодалі маёнткам у 1799.

[3]Напэўна, сын Караля Канстанцінавіча.

[4]Магчыма, сын Караля ці Дамініка Канстанцінавічаў.

***С.Рыбчонак, З.Яцкевіч***

## 5. Альшэўскія гербу «Слепаворан»



Рг. - Станіслаў, перасяліўся ў Княства з Падляскага ваяв., ад жонкі Магдалены Пажаркаўны пакінуў сына Канстанціна, як засведчыла тэстаментам Барбара Лебедзеўна, у першым шлюбе за Міхаілам Пажаркам, у другім за Ўладзіславам Нядзвіскім (1699). Канстанцін узяў шлюб з Магдаленай Брыгадаўнай і меў сына Міхаіла (нар. у 1736). Апошні - ротмістр Гарадзенскага пав. па патэнту харужага Ігнацыя Іхнатовіча (1784), уладальнік маёнт. Старынкі ў тым жа павеце, яго жонка Барбара Масальская, сын Ігнацы.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***А.Леўчык, С.Рыбчонак***

## 6. Анушкевічы.[1]

Карысталіся таксама прыдомкам Яцына-А.

Рг. - Канстанцін, меў брата Яна. Сыны Канстанціна Андрэй-Войцэх, Мацвей-Казімір і Станіслаў прад'явілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанні ўраднікаў і абываццеляў Наваградзкага пав. за 1786 і 1800.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Герб не пазначаны. Па прыкладу інш. родаў, якія ўжывалі такі ж прыдомак, можна меркаваць, што мелі герб "Яцына"

***З.Яцкевіч***

## 7. Анцуты гербу «Анцута»



Рг. - Павел Тоскавіч, набыў маёнт. Астрамеч (Браслаўскі пав.) пасля Харэвічаў і Мачаловіча (1580), які пакінуў сыну Мікалаю. Сыны апошняга Аляксандр і Адам, спадчыннікі па бацьку (тэстамент 1631) вышэйзгаданага маёнтка. З іх Адам пакінуў сыноў Міхаіла, Мацвея, Мікалая і Каспера, што засведчыў тэстаментам у 1696

Мікалай Адамавіч разам сынамі Адамам, Мацвеем, Казімірам і Баніфацыем меў судовы працэс з Сузіным, Бухавецкім і Гурскімі (трыбунальскі дэкрэт 1775). З іх Адам, напачатку гродзкі, а пазней па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста і земскі суддзя берасцейскі (1778), пакінуў сыноў Яна, Антонія, Ігнацыя, што стаў ксяндзом, Дамініка, Міхаіла і Станіслава.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

*А.Леўчык*

## 8. Арэшкі гербу «Кораб»



Рг. - Мельхіёр, суддзя Мельніцкай зямлі, ад жонкі з роду Саўкевічаў меў сыноў: Антонія, Юзафа і Казіміра. З іх Антоні пакінуў сына Казіміра, ротмістра навагрудзкага, уладальніка фальв. Рутка ў тым жа павеце, сын якога Францішак.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

*С.Рыбчонак*

## 9. Аўсяныя гербу «Равіч»

Вядома: Даніэль А., падсудак ваўкавыскі (яго тэстамент 1657).

Вывадзіліся Міхаіл і Антоні, сыны Сымона, унукі Міхаіла,уладальнікі маёнт. Зубкаў у Навагрудзкім ваяв., які набылі ад мечніка сталавіцкага Якуба Чачота (1794), таксама прад'явілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Навагрудзкага пав. за 1800.



Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*С.Рыбчонак*

## 10. Баброўскія гербу «Ястрабец»



Рг. - Міхаіл, сын Юрыя, унук Лукаша, яго жонка Алена з Гамаліцкіх, у другім шлюбе за Мікалаем Пілецкім, у трэцім - за Юзафам Златніцкім, сыны Тамаш, Юрый, Дамінік і Ігнацы судзіліся з другім мужам маці вышэйзгаданым Мікалаем і яго сынам Юзафам Пілецкімі з прычыны адабрання усіх родавых папераў (1796), прад'явілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Навагрудзкага пав. за 1797. З іх Юрый меў сыноў Іаахіма і Тамаша, а Дамінік - сына Антонія.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

*С.Рыбчонак*

## 11. Бакі гербу «Масальскі»

Рг. - Самуэль, падчашы троц-



кі, валодаў маёнт. Утрылаў у Аршанскім пав., судзіўся з Самуэлем Вайніловічам (1677). Яго сын Ян-Казімір, перасяліўся ў Мінскае ваяв., дзе меў закладныя маёнт. Печышча і Нестэрновічы[1], пакінуў сыноў Юзафа, Адама, Антонія і Дамініка, што засведчыў тэстаментам у 1698. З іх Антоні меў сыноў Яна, Феліцыяна і Казіміра. Феліцыян, спадчыннік па дзядзьку Адаму маёнт. Укропавічы ў Мінскім ваяв., які прадаў брату Яну (1754). А Ян пакінуў сына Тадэвуша, яго сын Дамінік, Нікадэма, яго сын Юзаф, Валерыяна і Лаўрэнція, уладальнікаў маёнт. Укропавічы.

Прызнаны ў дваранстве 30.05.1800.

[1]Мажліва, маёнт. Нестановічы.

***С.Рыбчонак***

## 12. Бародзічы гербу «Бродзіц»

Рг. - Уладзіслаў, дваранін ЯКМ, уладальнік маёнт. Крывое Сяло (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ 1675), быў двойчы жанаты: на Лімонтаўне і Лібарчаеўне. Яго сыны: Багуслаў, будаўнічы наваградзкі, што меў чатырох сыноў. Казімір, пра нашчадкаў якога невядома, Андрэй, Юрый, каморнік наваградзкі, Ігнацы, Бенядзікт і Ян-Міхаіл, мастаўнічы аршанскі. У апошняга былі сыны: Юзаф, Тадэвуш, Ігнацы, Юліян, Антоні, Адам і Людвік.

Андрэй, сын Уладзіслава, меў двух сыноў, з якіх старэйшы - Ян-Ваўжынец. быў мастаўнічым наваградзкім, ад першай жонкі з Сапоцкаў пакінуў сыноў Тадэвуша і Барталамея, ад другой - Косаўны, дачкі мечніка віцебскага, - сыноў Дамініка і Марціна. У Барталамея, магчыма, былі сыны Дамінік і Марцін.[1]

У пятага сына Уладзіслава Ігнацыя ад жонкі з Захарэвічаў, харужанкі крозкай, быў сын Вінцэнт, шамбялян Польскага Двара. У Вінцэнта, відаць, былі сыны: Леанард, які да 1788 служыў у гусарскай харугве, пазней мастаўнічы наваградзкі, і Матэвуш, у якога была жонка з Алешаў.



Шосты сын Уладзіслава Бенядзікт разам з жонкай з Дылеўскіх меў сына Міхаіла, яго жонка з Гарбатоўскіх, сын Станіслаў, скарбнік кіеўскі.

Апошні сын Уладзіслава Юрый,

каморнік наваградзкі, разам з жонкай Пшэўлоцкай пакінуў сыноў Цыпрыяна, таварыша харугвы каралеўскай, а потым суддзю каптуровага і ротмістра Наваградзкага ваяв., і Яна. Апошні, ротмістр Наваградзкага ваяв., быў двойчы жанаты: першая жонка з Пекарскіх, другая - Марыянна з Чэховічаў, з якой ён прадаў спадчынны маёнт. Крывое Сяло Лукашу Камінскаму ў 1757. Сыны Яна: Аляксандр і Павел[2], у якога былі сыны Адам і Ян.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Магчыма, што выводзіўшыеся Дамінік і Марцін, родныя браты Барталамея.

[2]Напэўна, Павел быў сынам Аляксандра.

***З.Яцкевіч***

## 13. Берасьневічы гербу «Касьцеша»



Па родаваму паданню паходзілі ад Мікалая Б., падсудка земскага браслаўскага, які валодаў па прывілею Караля Жыгімонта II (1569) зямлёй у маёнт. Уласы Браслаўскага пав.[1] Рг. - Тамаш, яго жонка Юстына Ведзьмічоўна, сын Якуб, які даводзіўся пляменнікам Юрыю і Рахелі Раецкім і падзяліў з імі спадчыну (1747), таксама ўладальнік фальв. Дарэў-Леўкаўшчына, што набыў ад Мацвея Дарэўскага (1749), абозны Полацкага ваяв. Жонка Якуба-Разалія з Сальмановічаў, сыны: Ігнацы і Станіслаў (тэстамент 1760), апекунамі якіх у малалецтве былі Сальмановічы, што здавалі спадчынны фальварак у арэнду Сяркевічам (1761). Сыны Ігнацыя - Караль, Тадэвуш, Феліцыян і Вінцэнт; сыны Станіслава - Юзаф, Францішак, Эдвард і Захарыўш, дзедзічы фальв. Дарэў.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]Тым жа прывілеем зямлю ва Уласах атрымаў і Стэфан Тычына.

***С.Рыбчонак***

## 14. Берасьневічы гербу «Касьцеша»

Вядома: кн.Іван і Аляксандра Чартарыйскія надалі Фёдару і Андрэю Макаравічам Б. 6 валок зямлі з маёнт. Сталавічы (1547), што падцвердзіў кн. Міхаіл Чартарыйскі (1575);

- Б. прадалі дзедзічны маёнт.Торчыцы ў Наваградзкім пав. татарскаму кн.Абдулічу і

пасяліліся на вышэй згаданых землях, наданых Чартарыйскімі, у якасці земскай шляхты з абавязкам нясення вайсковай службы;

- Станіслаў Б., уладальнік 2 валок па прывілею мальтыйскага кавалера, познаньскага і сталавіцкага камандора Паца (1688).

Рг. - Міхаіл Б., уладальнік 1 валокі па прывілею таго ж Паца, пакінуў сыноў Казіміра, Тамаша і Яна. З іх Казімір меў сына Адама і ўнука Антонія; Тамаш меў сыноў Яна, Антонія і Станіслава і ўнукаў Міхаіла і Іаахіма Станіслававічаў; Ян меў сыноў Андрэя, Мацвея, Юрыя і Міхаіла[1], з якіх апошні стольнік ноўгарад-северскі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1770), якія ўсе атрымалі сведчанне адураднікаў і абываценяў Навагрудзкага пав. у 1797.

Выводзіліся: Андрэй з сынамі Марцінам, Ігнацыем і Юзафам, Ян з сынам Пятром, Станіслаў з сынамі Міхаілам, Станіславам і Іаахімам, і Мацвей з сынам Пятром Б.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

[1]Прадставілі таксама хросныя метрыкі са Сталавіцкага касцёла за 1744, 1746, 1762, 1765, 1767, 1769, 1773.

***С.Рыбчонак***

## 15. Брадоўскія гербу «Лада»



Рг. - Ян, узяў у пасаг за жонкай Петранэляй Барodзіч зямлю ў вак, Гарбатовічы Навагрудзкага пав., якую прадаў падчашыцу, а пазней маршалку Навагрудзкага пав. Антонію Верашчаку (1777).

Яго сыны Антоні і Вінцэнт прад'явілі пры вывадзе таксама сведчанне шляхты і абываценяў Навагрудзкага ваяв (1790).

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***С.Рыбчонак***

## 16. Брахоцкія гербу «Асарыя»



Выводзіліся з Дабжыньскай зямлі.

Рг. - Станіслаў Сымонавіч (каля 1726), пакінуў сыноў Войцэха і Валенція (каля 1762). З іх апошні меў сына Антонія, шамбяляна Двара Польскага, пасла на сойм (1786), і ўнука Адама, якія перасяліліся ў Княства і валодалі зямлёй у вак. Гарадзеі.

Прызнаны ў дваранстве 11.12.1800.

***С.Рыбчонак***

## 17. Бр(ж)азоўскія гербу «Газдава»



Вядома: Самуэль і Ян Зміеўскія-Б., дзедзічы зямлі ў вак. Шантыры, як сведчыць квіт пісара земскага і палкоўніка Наваградзкага ваяв. Юрыя Пратасевіча (1670).[1]

- Міхаіл Б. засведчыў аб страце каштоўных папераў (1694).

- Іван Афанасавіч Б., дзедзіч маёнт. Куневічы, судзіўся з Фёдарам і Васілём Міхаловічамі і Арэшкам Тамковічам (1593).

Рг. - Фёдар, уладальнік маёнт. Куневічы, які пакінуў сыну Аляксандру (1652). Сыны апошняга і Рэгіны з Данейкаў Міхаіл і Ян. Нашчадкі Яна перасяліліся ў Гарадзенскі пав., а Міхаіл пакінуў сыноў Станіслава (беспатом.) і Казіміра, з якіх апошні меў сыноў Леона і Бенядзікта.

Выводзіліся: сыны Леона - <u>Сымон</u>, <u>Міхаіл</u>, <u>Францішак-Адам</u> (нар. у 1764) і <u>Станіслаў</u>, яго сыны <u>Дамінік</u> і <u>Аляксандр</u>, дзедзічы фальв. Куневічы, а таксама сыны Бенядзікта - <u>Вінцэнт</u> і <u>Францішак</u>.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1] У квіце згаданы яшчэ Грыгоры Кульбак.

***С.Рыбчонак***

## 18. Букрэі гербу «Мандросткі»



Па родаваму паданню паходзілі ад Фёдара Іванавіча Б., уладальніка маёнт. Волца, які прадаў згаданую маёмасць Яну Багушавічу Аўсянаму. Яго ўнукі Адам і Ян, сыны Ціхана, Стэфан і Дзмітры, сыны Мікалая, адкупілі былую спадчыну ў Трояна Янавіча Керсноўскага (1642).

Таксама вядома: Мікалай, сын Яна, што забяспечыў жонцы Кацярыне з Хадаркоўскіх 300 коп грошай літ. на тым жа маёнтку (1650).

- Міхаіл, уладальнік маёнт. Волца, як сведчыць квіт на выплату падатка (1698), таксама як Стэфан (1714) і Ян Б. (1728).

- Васіль і Аляксандр Б. служылі ў харугве Наваградзкага ваяв. пад началам палкоўніка войск літ. Стэфана Радзімінскага-Францкевіча, прымалі ўдзел

у вайне з казакамі, што пацвердзіў квіт згаданага харужага з абозу пад Туравам ім і Яну Парфяновічу (1651).

Выводзіліся: Цыпрыян з сынамі Вінцэнтам, Янам і Каэтанам, дзедзічы маёнт. Волца.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

*С.Рыбчонак*

## 19. Булгакі гербу «Сыракомля»



Рг. - Павел, уладальнік фальв. Зубкаў, які набыў ад Пятра і Яна Марцінавічаў Зубкоўскіх (1663), што таксама засведчылі квітам паборцы Навагрудзкага ваяв. Ян-Міхаіл Война-Ясенецкі і Вінцэнт-Міхаіл Рымша (1676). Ад жонкі Кацярыны Рэвенскай меў сына Станіслава і ўнука Якуба, спадчыннікаў таго ж фальварка (квіты на ўплату падаткаў 1712,1727). Якуб меў сыноў Антонія і Мацвея, доказам чаму прадажны запіс ад яго і сына Антонія з жонкай Соф'яй Бжазоўскай Міхаілу і Канстанцыі з Саматыяў Бжазоўскім на частку фальв. Зубкаў (1745). З іх Мацвей ад жонкі Рэгіны з Малюшыцкіх пакінуў сына Ігнацыя, спадчынніка таго ж маёнтка па дароўным запісу ад маці ў 1792, што пацвердзіў квітам аб уплаце падаткаў рэгент гродзкі навагрудзкі Казімір Мацкевіч (1798).

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*З.Яцкевіч*

## 20. Бухавецкія гербу «Драгаслаў»

Пры вывадзе прадставілі звесткі па генеалогіі двух галін.

Вядома: маніфест Аляксандра, Казіміра, Караля, Зыгмунта і Якуба Б. на падстолія віцебскага Базыля Хлявінскага (1696);

- запіс аб падзеле спадчыны паміж роднымі братамі Янам і Зыгмунтам Б. (1703).

Рг.-1 - Бухавецкі[1], маршалак старадубскі, валодаў маёнт.Упічы і пляцам у Старадубе па прывілею Караля Жыгімонта III, першая жонка - з Шэметаў, сыны Навум, яго жонка з Анцутаў, Леў (ці Леон), палкоўнік ЯКМ, неаднаразова дэпутат Соймаў і пасол да замежных дзяржаваў, і Беняш (ці Бенядзікт), другая жонка - Ганна Ардынянка, сын Эпімах. Апошні - падваявода троцкі, стараста шухарскі, дзедзіч маёнт.Оўна ў Гарадзенскім пав., узяў шлюб з Ганнай з Галубічаў Корсак. Яго сыны Аляксандр, падкаморы гарадзенскі, мяняўся зямлёй разам з братам у маёнт.Оўна (1623), здаваў такса-



ма спадчынны маёнтак у заклад Гарадзенскаму іезуіцкаму калегіўму (1647), ад жонкі Уршулі з Мялешкаў меў сына Крыштафа, маршалка гарадзенскага, старасту мерацкага, філіпаўскага і перавальскага, што ад шлюбу з Ізабэллай Вільчкоўнай нашчадкаў не пакінуў, і Адам, суддзя земскі гарадзенскі па прывілею Караля Яна-Казіміра, з жонкай Эльжбетай[2] Нарушэвіч пакінуў сыноў Яна, што меў жонку з Быхаўцоў і сына Казіміра, Стэфана, пра якога няма звестак, і Станіслава-Казіміра.

З іх апошні - войскі ашмянскі, сакратар ЯКМ і дваранін Скарбу Літоўскага, яго жонка Славагурская, сыны Адам, Міхаіл і Ян[3], пісар гродзкі Берасцейскага ваяв.

Адам з Юстынай Градзіцкай пакінуў сыноў Ігнацыя, каноніка луцкага, пробашча высоцкага і стаўскага,аўд'ютара і, нарэшце, афіцыяла луцкага, і Францішка, канюшага Берасцейскага ваяв., які ўзяў шлюб з Міхалоўскай і пакінуў сыноў Ануфрыя, кафедральнага луцкага каноніка, і Антонія, што служыў на пачатку ў пяцігорскай харугве войск літ., а пазней быў скарбнікам берасцейскім і падваяводай віленскім. Сыны апошняга і Барбары з Антаневічаў: Ян, кавалер ордэна Св. Станіслава, і Юзаф, маёр брыгады войск літ. Другі сын Станіслава-Казіміра Міхаіл узяў шлюб з Баркоўскай і пакінуў сыноў Станіслава і Лаўрэнція.

Рг.-2. - Аляксандр, дзедзіч маёнт.Оўна і Палонка (Наваградзкі пав.), яго жонка Марыянна з Пшэцлаўскіх, сыны Караль і Аляксей-Зыгмунт, пісар земскі гарадзенскі (яго тэстамент 1715). Сыны апошняга і Барбары з Лышкевічаў: Міхаіл, Юрый і Ян-Міхаіл (каля 1702). З іх Ян-Міхаіл, падчашы гарадзенскі, валодаў маёнт.Гарадзішча-Галдавецкае, які набыў ад наваградзкага гродзкага пісаравіча Юзафа Камінскага і Ганны з Камінскіх Слонскай (1715), і Ўсакі ў Наваградзкім ваяв., яго жонка Марыянна[4] з Пуслоўскіх, сыны Вацлаў, што стаў манахам іезуіцкага закону, і Ігнацы. Апошні, падчашы гарадзенскі, таксама крайчы наваградзкі па прывілею Караля Аўгуста III (1744)[5], яго жонка Кацярына з Ліндэманаў (каля 1736), сыны Тадэвуш і Віктар, што падзялілі бацькаву спадчыну ў 1781.

З іх Тадэвуш, войскі Мсціслаўскага ваяв. па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1783), дзедзіч маёнт.Гарадзішча-Галдавецкае, а Віктар, харужы Віцебскага ваяв., дзедзіч маёнт.

Памарня ў Гарадзенскім пав., яго жонка Мацільда Паліталь-ская, сыны Міхаіл, шамбялян Двара Польскага. Ігнацы і Францішак.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Імя не згадана.
[2]У другім месцы Соф'я.
[3]Яго сыны, магчыма, Дамінік, Ян і Юзаф.
[4]У другім месцы Ганна.
[5]Гэта пацвярджаецца таксама квітом віленскага ваяводы і гетмана ВКЛ кн. Міхаіла Радзівіла за 1759.

*С.Рыбчонак*

## 21. Быкоўскія гербу «Грыф»



Рг. - Тамаш, валодаў фальв. Пятроўшчына ў Мінскім ваяв., які пазней прадаў. Яго сын Крыштаф, правёў дужа гадоў у войску, меў у заставе фальв. Паняты-чы ў Наваградзкім ваяв., пасля набыў ад Давідоўскага маёнт. Падлессе ў тым жа па-веце (1752), які пакінуў сынам Францішку, Андрэю і Аўгусці-ну (беспатом.). З іх Андрэй валодаў таксама фальв. Дудзічы (Наваградзкі пав.), які набыў ад Гінтаўта (1776), меў сыноў Ігнацыя, Станіслава і Вінцэнта. А Францішак, спадчыннік па бацьку і брату фальв.Падлессе, пакінуў сыноў Міхаіла, Гіпаліта, Вінцэнта, Ігнацыя і Каэтана, з якіх Ігнацы быў рэгентам земскім наваградзкім, дзедзічам маёнт. Падлессе (1790). яго сын Ксаверы, а Міхаіл - паручыкам войск рас.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

*С.Рыбчонак*

## 22. Бялапятровічы гербу «Абданк»



Напэўна, у другой палове 17 ст. род падзяліўся на дзве галіны, якія выводзіліся разам.

Рг.-1 - Ян, уладальнік фальв.Валойшы ў Лідзкім пав., які набыў ад Доўгірдаў (1691), пакінуў сына Стэфана. Сын апошняга Юзаф, дзедзіч згаданага фальварка (1704, 1708), стражнік лідзкі па прывілею Караля Аўгуста III (1757). Яго сыны: Юрый, Бенядзікт, ротмістр войск рас., і Вінцэнт, сакратар малой пячаткі ВКЛ.

З іх Юрый таксама пасол Лідзкага пав. на элекцыі Караля Станіслава-Аўгуста, стражнік (1765) і лоўчы (1771) таго

ж павету, дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ і сакратар малой пячаткі ВКЛ; на Сойме 1775 абраны асэсарам Судоў Літоўскіх, пасол Старадубскага пав. на Сойм 1776, суддзя гродзкі і земскі наваградзкі, пасол інфлянцкі на Сойм 1778, пісар вайсковы ВКЛ (1783) і ротмістр гусарскай брыгады (1787) па прывілеях Караля Станіслава-Аўгуста, камісар вайсковы на апошнім Гарадзенскім Сойме. Набыў фальв. Брыцянка ў Наваградзкім пав., пакінуў сыноў: Яна, Рамуальда і Юрыя. Брат Юрыя, Бенядзікт, спадчыннік па бацьку фальв. Валойшы.

Рг.-2 - Ян, уладальнік маёнт. Белапятровічы ў Лідзкім пав., які атрымаў у пасаг за жонкай (1622 ?). Яго сын Юзаф пакінуў сыноў: Юрыя, Марціна, Яна і Станіслава, як сведчыць квіт на атрыманне пасагу за 1745, спадчыннікаў таго ж маёнтка. З іх Юрый меў сыноў: Андрэя і Барталамея, а Марцін - Ігнацыя і Мацвея.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

*С.Рыбчонак*

## 23. Вазгінты гербу «Мядзвежая галава»

Вядома: Ян і Алена з Багдановічаў В., зямяне ЯКМ Расенскага пав. Жамойцкага княства, атрымалі 5 валок зямлі з Мышскага староства па прывілею Аляксандра Хадкевіча, ваяводы троцкага (1614), з абавязкам выконваць вайсковую службу, які маёнтак атрымаў пазней назву Вазгінты.



Выводзіліся: Уладзіслаў з сынамі Людвікам і Мацвеем і ўнукам Мікалаем; Ваўжынец з сынамі Янам, Адамам і Юзафам В. - спадчыннікі маёнт. Вазгінты ў Наваградзкім пав.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

*С.Рыбчонак*

## 24. Вайніловічы гербу «Сыракомля» змен.



Рг. - Леў-Казімір, падчашы слонімскі, дзедзіч маёнт. Барышыні Нянькаў, яго сыны Іван, Стэфан і Міхаіл. З іх Стэфан, ротмістр войск пол., меў сыноў Траяна-Станіслава, Тамаша і Рафаіла.

Траян-Станіслаў, войскі і падкаморы наваградзкі, пакінуў сыноў Яна-Тэадора і Паўла, што засведчыў тэстаментам у 1674. З іх Ян-Тэадор, пад-

ваявода наваградзкі, спадчынны ўладальнік маёнт.Барышын, меў сына Юзафа, і ўнука Фларыяна. А Павел, падчашы слонімскі, пакінуў таксама сына Юзафа і ўнукаў Люцыда, што стаў братам кобрынскім, Паўла, маёра войск літ., ды Яна, спадчынных уладальнікаў маёнт. Луканаў.

Брат Траяна Тамаш, падстолі наваградзкі, меў сына Стэфана, унука Францішка ды праўнука Фердынанда, паручыка войск літ.

Другі сын Льва-Казіміра Іван, спадчынны ўладальнік маёнт.Кляковічы, пакінуў сыноў Себасцьяна, Мікалая і Тамаша. З іх Себасцьян меў сына Андрэя, які ўступіў дзядзьку Мікалаю маёнт.Бардзячы (1696), а Мікалай меў сына Станіслава, войскага наваградзкага. Сыны апошняга: Рамуальд, Віктарын, Дамінік, Даніэль і Ігнацы падзялілі бацькоўскі маёнт.Бардзячы ў 1737. З іх Віктарын, суддзя гродзкі наваградзкі, пакінуў сыноў Юзафа, Станіслава,Мікалая, харужага наваградзкага, Ігнацыя і Францішка,інстыгатара літ., у якога быў сын Станіслаў. Брат Віктарына Ігнацы Станіслававіч меў сына Мікалая, у якога былі сыны Юзаф, Аўгусцін, Караль, Уладзіслаў і Тадэвуш.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.[1]

---

[1]Разам з імі выводзіліся Юзаф, падпалкоўнік, і Ігнацы, капітан, В., не пазначаныя ў генеалогіі.

***С.Рыбчонак, З.Яцкевіч***

## 25. Вайцэхоўскія гербу «Еліта»



Выводзіліся з Сандамірскага ваяв.

Рг. - Юрый, перасяліўся ў Наваградзкае ваяв., яго жонка з Календаў, сыны Мікалай і Аляксандр. Першы ўзяў шлюб з Глушыцкай, пакінуў сына Стэфана і ўнукаў Феліцыяна, Міхаіла і Юрыя, а другі - з Прушынскай, ад якой меў сыноў Яна і Сымона, спадчыннікаў па бацьку фальв.Саловы ў Слуцкім пав., што засведчылі крэдэнсам ураднікі і абывацелі таго ж павета (1781). З іх Сымон валодаў яшчэ маёнт. Труднаў, які набыў ад пісара земскага наваградзкага Міхаіла Куневіча (1797), яго жонка Магдалена з Маеўскіх, сын Юзаф. Брат Сымона Ян таксама пакінуў сына Юзафа.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак***

## 26. Варатынцы гербу «Ліс»



Прадставілі пасведчанне адураднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1797 аб валоданні на працягу больш за 200 гадоў маёнт. Дарэў-Забродзе.

Рг. - Францішак, спадчынны ўладальнік маёнт. Дарэў-Забродзе ў Наваградзкім пав., меў сыноў Вінцэнта, Мікалая, Антонія, Каэтана і Феліцыяна, спадчыннікаў вышэй згаданага ўладання.

Прызнаны ў дваранстве 1(12).01.1799.

*З.Яцкевіч*

## 27. Ваўчэцкія гербу «Сыракомля»[1]

Ужывалі родавы прыдомак Яховіч (Jachowicz).

Вядома: справа па абмену зямлі татарына Яцка Чымбаевіча Улана з Гаўрылам і Грыгорыем Андрэевічамі Я.-В. ў 1619, яны ж - уладальнікі маёнт. Волца, што засведчылі рэвізоры добраў татарскіх Яраш Пясецкі, пісар польны літ., і Ян Кердзей, пісар земскі ашмянскі, у 1621;

- дэкрэт Даміяна-Крыштафа Абрынскага, падкаморага наваградзкага і сакратара ЯКМ па справе Андрэя Міхайлавіча, Самуэля Іванавіча і Мікалая Гарасімовічаў з Войнам і Філонам Я.-В. (1621);

- прадажны запіс Лукашу Дзямідавічу Пятровічу і яго жонцы Аляксандры з Сідаровічаў В. на зямлю ў маёнт. Волца з выпасажэннем яе часткі Багдане, дачцэ Кірылы Пятровіча В., ў шлюбе за Гарасімовічам (1689).

- прадажны запіс Соф'і, маці, і Антонія, сына, з жонкай Феліцыяннай Малюшыцкай В. на маёнт. Волца (1774).

- аб'юрата Сымону В. аб уплаце з фальв. Волца "ахвяры дзесятага гроша" (1789).

Выводзіліся: Сымон, сын Астафія, унук Лукаша, праўнук Мікалая, з сынам Станіславам і ўнукамі Вінцэнтам і Іаахімам; Бенядзікт і Тамаш, сыны Базыля; Юзаф, Францішак, Вінцэнт і Дамінік, сыны Сымона, а ўсе ўнукі Якуба, праўнукі Казіміра, прапраўнукі Пятра; Міхаіл, Андрэй і Мікалай[2], сыны Антонія, унукі Марціна, праўнукі Філона Я.-В.



Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

[1] У арыгінале крыж у гербе намаляваны срэбраны, а не залаты.
[2] Побач з імі згадваецца яшчэ нейкі сваяк Сымон з сынам Юзафам.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 28. Венцкевічы гербу «Гейштар»



Рг. - Ян, набыў фальв. Падслочва (Наваградзкі пав.) ў Яна і Марыянны з Дашкевічаў Пашкоўскіх у 1666. Яго сын Станіслаў пакінуў сына Мацвея. Сыны Мацвея - Тамаш і Міхаіл, якія прад'явілі сведчанне шляхцічаў Наваградзкага пав. за 1799.

Разам з імі выводзіліся Юзаф, Матэвуш, Антоні і Міхаіл, падпаручык войск пол., сыны Яна В., што таксама пражывалі ў вышэй згаданым фальварку.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 29. Верашчакі гербу «Касьцеша»

Рг. - Іван Сямёнавіч, уладальнік маёнт. Камень у Кобрынскім пав. па прывілею Караля Стэфана (1582)[1]. Яго нашчадкі, Канстанцін і Ян, падзялілі паміж сабой спадчынныя маёнт. Камень, Ліпава і Прылукі (1637?). З іх Канстанцін меў сына Базыля, які атрымаў ад дзядзькі па тэстаменту ў валоданне фальв. Прылукі (1667). Сыны Базыля: Філіп, скарбнік берасцейскі, Караль і Юзаф, з якіх Філіп сваю і ад брата Караля набытую часткі маёнт. Камень прадаў брату Юзафу і Тэадоры з Левальт-Езерскіх, стольнікам драгіцкім, а сам перасяліўся ў Наваградзкі пав., дзе набыў фальв. Гутаўшчына (1706). Сын Філіпа Францішак-Міхаіл, падчашы наваградзкі, спадчыннік па бацьку фальв. Гутаўшчына. таксама набыў маёнт. Туганавічы ў Наваградзкім і Болтуп у Ашмянскім пав. (1758), якія пакінуў сынам Антонію і Стэфану.

Антоні, маршалак Наваградзкага пав., дзедзіч фальв. Туганавічы пасля падзелу між бацькам і дзядзькам спадчыны (1774), набыў таксама фальв. Плужыны (інтрамісія 1797), яго сыны: Міхаіл і Юзаф.



Стэфан, падкаморы наваградзкі, дзедзіч фальв. Гутаўшчына і Болтуп (1774, інтрамісія 1797), пакінуў сыноў: Францішка.

Караля, Фелiцыяна, Аўгусцiна, Яцка i Элеўтэрыя.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1]У прывiлеi згаданы Шчасны Стэткевiч i Мiхаiл Багушэвiч, таксама, вiдавочна, атрымаўшыя там зямлю.

*С.Рыбчонак*

## 30. Войнiчы гербу «Стрэмя»



Рг. - Аляксандр, уладальнiк фальв. Ярушоўскi-Яўлухоўскi з маёнт. Ваўканоша ў Наваградзкiм пав., якi набыў ад Пятра i Соф'i, дачкi Юзафа Руцкага, ды Юрыя i Рэгiны, дачкi Пятра Цэдроўскага, Крыштафовiчаў-Ваўканоўскiх (1620). Яго сын Марцiн ад шлюбу з Аленай Каспяровiч меў сыноў Станiслава i Яна. Сыны апошняга Аляксандр (беспатом.) i Станiслаў атрымалi ад дзядзькi Станiслава Марцiнавiча i Марыянны з Шуйшынскiх В. ў валоданне фальв. Ярушоўскi-Яўлухоўскi. Станiслаў Янавiч пакiнуў сына Тамаша, спадчыннiка маёнт. Ваўканоша.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*З.Яцкевiч*

## 31. Войнiчы гербу «Харытонавiч»



Рг. - Андрэй, ад жонкi з роду Бандаровiчаў меў сына Яна (нар. у 1735). Сыны апошняга Ваўжынец (нар. у 1761) i Iгнацы (нар. у 1767), доктар фiласофii навук вольных. Апошнi меў сыноў Леанарда, Людвiка i Iгнацыя.

Яны ў якасцi доказу на шляхецтва прад'явiлi сведчанне ўраднiкаў i абывацеляў Наваградзкага пав. за 1798.

Прызнаны ў дваранстве 9(20).12.1798.

*З.Яцкевiч*

## 32. Войны гербу «Трубы»



Рг. - Людвiк, стражнiк лiдзкi, як сведчыць перад-Соймавы лiст Караля Яна III (1682). Яго сын Тамаш па мянушцы Грычына, лоўчы мазырскi, ад жонкi з роду Барзабагатых меў сыноў Яна i Андрэя, што засведчыў тэстаментам (1730). З iх першы таксама лоўчы мазырскi, узяў шлюб з Антанiнай Вайнiловiч, яго сын

Захарыўш (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ 1777), шамбялян Двара Польскага па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1788), судзіўся з рэгентам наваградзкім Мацкевічам (1797), закладны ўладальнік маёнт. Каранеўшчына ў Наваградзкім пав., жонка Кацярына з Чыжоў, скарбнікаўна віленская, сын Казімір.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

*С.Рыбчонак*

## 33. Сідаровічы-Войны гербу «Трубы»



Паходзяць з зямянаў Мірскага графства.

Вядома: Грынь і Васіль Сідаровічы, уладальнікі 6 валок зямлі па прывілею графа Юрыя Іллініча (1566), з абавязкам выконваць конную вайсковую службу;

- Марцін, уладальнік фальв. Пшэўлокі Наваградзкага пав., судзіўся з Меляшкевічам (1653);

- Аляксандр, набыў, са згоды падканцлера ВКЛ кн. Караля Радзівіла, ад Зыгмунта Аляксандравіча Кандратовіча фальв. Сяльцо (1686);

- Францішак, атрымаў у пасаг за жонкай Магдаленай Бжазоўскай, фальв. Куневічы ў тым жа павеце (1797).

У 1 пал. 17 ст. род разгалінаваўся, прычым некаторыя засталіся жыць у Мірскім графстве[1], а іншыя рассяліліся па Наваградзкім ваяв.

Выводзіліся наступныя прадстаўнікі роду: Рафаіл і Францішак, сыны Яна, унукі Паўла; Вінцэнт, сын Яна, унук Эліяша, праўнук Тэадора; Юзаф, сын Антонія, унук Станіслава; а таксама Рафаіл, Антоні, Ян з сынам Францішкам, Феліцыян, Стэфан з сынамі Эзэхіяшам і Рафаілам С.-В.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Дзе жылі яшчэ на пачатку 19 ст.

*С.Рыбчонак*

## 34. Вольскія гербу «Паўкозіц»



Пры вывадзе ўказвалі, што род валодаў маёнт. Руткевічы, Своятычы, Лубачэў, Бердаўка, Радзюкі, Цэпра-Далматоўская, Сончыцы, Астроўшчына, Астахаў і Сейлавічы (Наваградскае ваяв.), Шыдловічы, Узлоўцы, Галавачы (Гарадзенскі пав.),

Крынілевічы і Дварэц Пстрашоўскі (Ваўкавыскі пав.).

Рг. - Мікалай, меў сына Валерыяна, які пакінуў сыноў Грыгорыя (бестатом.), Яна, Юрыя (беспатом.) і Крыштафа (беспатом.), пра што сведчыць квіт 1611, і дачку, што была ў шлюбе за Кавецкім (яго пасаг склаў 650 коп грошай літ.) і пражывала разам з ім ў маёнт. Шчорсы Наваградзкага ваяв.(1612). Ян, спадчынны ўладальнік фальв. Бердаўка (у тым жа ваяводстве), меў жонку з Корсакаў і сыноў Стэфана, Марціна, Балтазара і Гераніма, якія засведчылі аб зруйнаванні таго ж маёнтка расійскім войскам Хаванскага (маніфест 1665).

Стэфан Янавіч, спадчынны ўладальнік фальв. Цэпра-Далматоўская ў Наваградзкім пав. (1721), узяў шлюб з Ядвігай Клапатоўскай, ад якой меў сыноў Яна, Пятра (беспатом.), Тадэвуша (беспатом.) і Якуба (беспатом.), з якіх Пётр і Тадэвуш прадалі свае часткі спадчыны Яну Цывінскаму (1768), што пацвердзіў дэкрэт трыбунальскі за 1785. Сын Яна Антоні, суддзя гродзкі наваградзкі (1795,1797), яго жонка з Кмітаў, сын Мікалай, канюшы наваградзкі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1794), уладальнік фальв.Радзюкі ў Наваградзкім ваяв. (1791) і арандатар фальв. Бежын кн. Радзівілаў (1779).

Марцін Янавіч меў сына Антонія і ўнука Караля, скарбніка мсціслаўскага, спадчынніка фальв. Марозавічы і Стайкі.

Сыны Гераніма Янавіча: Эліяш (беспатом.), Фларыян (беспатом.), Юрый (беспатом.), Рафаіл і Канстанцін, спадчыннікі згодна тэстаменту бацькі 1665 маёнт.Бердаўка. Сын Канстанціна Геранім (яго тэстамент 1741) пакінуў сыноў Міхаіла (беспатом.), Яна (беспатом.), Дамініка (беспатом.) і Феліцыяна, камісара цывільна-вайсковага, і ўнукаў Леапольда, Казіміра і Вінцэнта.

Разам з імі выводзіўся Адам,сын Казіміра і Марыянны з Булгакаў, унук Францішка і Варанецкай[1] В., рэгент гродзкі наваградзкі, а потым рэгент земскі сталавіцкі (1794), што прадаў спадчынны маёнт. Сончыцы ў 1772.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]У арыгінале: "з князёў Варанецкіх".

***З.Яцкевіч***

## 35. Выганоўскія гербу «Ладдзя»

Выводзіліся з Драгіцкай зямлі (цяпер - Польшча), з мясцовасці Выганава.



Рг. - Ян, перасяліўся ў Троцкае ваяв., меў сыноў Яна і Марціна, старажытнае шляхецтва якіх пацвердзіў прывілей Караля Аўгуста II (1722). Сынам Ма-рціна быў Антоні, гэта пацвердзілі запісам тэстэманіяльным сенатары, ураднікі і абывацелі Троцкага ваяв. на сойміку грамнічным (1744). Антоні (тэстамент 1772) пакінуў сыноў Юзафа і Ігнацыя, і ўнукаў Адама і Гервазія Ігнаціевічаў.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 36. Вярбіцкія гербу «Любіч»

Паходзілі з Жытомірскай зямлі (?).



Рг. - Андрэй, меў сына Барталамея, абознага жытомірскага. Сын Барталамея Антоні з жонкай Ганнай Шчукоўскай набыў у Антонія і яго сына Ігнацыя Быкоўскіх фальв. Дудзічы ў Наваградзкім пав. (1797). Антоні меў сыноў Станіслава і Яна.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 37. Вярбоўскія гербу «Праўдзіц»



Рг. - Станіслаў, арандаваў фальв. Васілеўшчына ў Марыянны Завішынай (1710), пакінуў сына Яна, што набыў маёнт. Радзівілавічы ў Слонімскім пав. Сыны Яна: Стэфан, дзедзіч згаданага маёнтка па дароўным запісу бацькі (1787), меў сыноў Яна і Антонія; Францішак, меў сына Юзафа.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

***С.Рыбчонак***

## 38. Вярэйскія гербу «Еліта» змен.[1]

Паводле родавага падання паходзілі ад Марціна, кашталяна інаўроцлаўскага, аб якім пісаў Нясецкі (т. IV). Пазней род разгалінаваўся і рассяліўся: з Мазовіі на Падолле, а з Люблінскага ваяв. - у Княства.

Рг. - Ян, дзедзіч маёнт. Ятра і Вярэйшчына ў Наваградзкім ваяв., быў паслом на элекцыі Караля Яна III. Яго сын Саму-

эль, уладальнік тых жа маёнткаў, здаваў іх у заклад Пятру Азарычу (1641), пакінуў сыноў: Стэфана, Казіміра і Юзафа. З іх Стэфан памёр беспатомны, а Казімір і Юзаф арандавалі таксама фальв. Данілевічы (1713) і Старасельню (1732).



Казімір пакінуў сыноў Міхаіла і Яна. Сын Яна, Адам, пасол на элекцыі Караля Станіслава-Аўгуста, пісар гродзкі, стражнік, падчашы, падстолі, нарэшце, маршалак Наваградзкага пав.

Юзаф пакінуў сыноў Мельхіёра і Даменіка, з якіх Дамінік меў сыноў Вінцэнта, капітана войск рас., і Адама, суддзю слуцкага.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

---

[1]Змена ў тым, што колер поля блакітны замест чырвонага.

*С.Рыбчонак*

## 39. Гадачэўскія гербу «Газдава»

Рг. - Матыяш, што перасяліўся з Кароны ў Княства, валодаў фальв.Рынкаўшчына і Вінкшнін (ці Лясагуры) у Троцкім пав. Яго сыны Мікалай і Крыштаф (беспатом.) падзялілі спадчыну паміж сабой (1597). Мікалай, падканюшы ВКЛ па прывілею Караля Жыгімонта III (1618), акрамя згаданых валодаў яшчэ маёнт.Нядзінгі, Вадзяны, Кейжаў, Падусе, Генейцішкі, Вака і Пятухоў у Троцкім ваяв., а таксама Русота, Панямуне і Пасэрцэ ў Гарадзенскім пав., якія пакінуў сынам: Крыштафу, Мацвею, Захарыўшу і Станіславу, згодна тэстаменту (1631). З іх Захарыўш стаў спадчыннікам маёнт.Вінкшнін, 1/2 часткі Нядзінг і Сумоўны. Яго сын Юзаф, падстолі Троцкага ваяв., спадчыннік па бацьку, меў сыноў Міхаіла, Бенядзікта, Антонія і Людвіка.

Міхаіл пакінуў сына Марціна, што памёр беспатомны, Людвік быў палкоўнікам войск літ., загінуў на вайне, Антоні - абозны Троцкага ваяв., дзедзіч маёнт. Вадзяны, яго сыны - Пётр і Юзаф, з якіх апошні - кухмістр Мерацкага пав., спадчыннік па бацьку, меў сыноў Вінцэнта і Юстына.



Бенядзікт, чашнік Троцкага ваяв., пазней пісар гродзкі таго ж ваяводства, стараста пуціланьскі па прывілею Караля Аўгуста III (1747), уладальнік маёнт.Нядзінгі, Вадзяны, Вінкшнін, Пакоршэ і Рынкаўшчына, якія потым прадаў

Турчыновічам, пакінуў сыноў: Леона, Якуба, Яна і Юрыя.

З іх Леон, суддзя гродзкі наваградзкі, валодаў набытым у тым жа павеце фальв.Абрамаўшчына, меў сыноў: Гіпаліта, Міхаіла, Казіміра і Валерыяна. Якуб - суддзя земскі Троцкага ваяв., стараста пуціланьскі па прывілеях Караля Станіслава-Аўгуста (1774, 1787), спадчыннік маёнт.Вадзяны, Нядзінгі, Пакоршэ, Вінкшнін. Яго сыны: Севярын, Антоні і Ануфры. Ян, мастаўнічы Мерацкага пав. па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1793). Юрый служыў у пяцігорскай харугве войск літ., памёр беспатомны.[1]

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]Часткова генеалогія роду была запісана ў дэкрэце Троцкага земскага суда ад 11.07.1781.

***С.Рыбчонак***

## 40. Галіцкія гербу «Порай»

Зямяне Наваградзкага ваяв.

Вядома: рэфармацыйны запіс Уладзіслава Г. жонцы Марыянне з Александровічаў на маёнт.Астраўкі ў Наваградзкім ваяв. (1630);

- Антоні і Людвік, уладальнікі маёнт.Велямаў і Слочвы, Францішак і Габрыэль, уладальнікі маёнт.Межнікі, Станіслаў, уладальнік маёнт.Варкевічы. Тэадор, Антоні і Габрыэль, уладальнікі маёнт.Дзімелі, што пацвердзілі люстратары падымных тарыфаў Усялюбскіх маёнткаў - Францішак Яблонскі, чашнік наваградзкі, Міхаіл Берновіч, абозны наваградзкі. Ян Цывінскі, абозны інфлянцкі, Марк Туганоўскі, суддзя земскі Наваградзкага ваяв. у 1775, а таксама Вінцэнт Вярэйскі, сукалектар і намеснік гродзкі Наваградзкага ваяв.

Рт. - Андрэй, служыў у харугве канцлера ВКЛ кн.Дамініка Радзівіла (1696), таксама валодаў маёнт.Межнікі ў Наваградзкім ваяв., што засведчыў квітам Юрый-Станіслаў Пласкавіцкі, падстолі аршанскі і ротмістр Клецкага княства (1697). Яго сын Юзаф (нар. у 1707, хрышчаны ва Усялюбскім касцёле), набыў фальв.Слочвы ад Яна і Соф'і з Уласовічаў Гільбрантаў (1710), меў сына Габрыэля, у якога быў сын Станіслаў (нар. у 1772, таксама хрышчаны ва Усялюбскім касцёле). Апошні, верагодна, меў яшчэ родных братоў Мацвея, Яна і Тэадора.



Разам з імі выводзіліся Аляксандр.

Базыль і Юрый, родныя браты, Г.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

*З.Яцкевіч*

## 41. Галецкія гербу «Юноша»



Рг. - Уладзіслаў-Ваўжынец Сачко-Г., войскі драгіцкі, валодаў маёнт.Івата з вв. Парэхава, Царкавішча, Барсукі і Малахава ў Смаленскім ваяв., маёнт. Красны Двор і вв. Баяршчына, Пахомава, аб чым сведчыць дароўны запіс жонкі мазырскага земскага суддзі Самуэля Аскеркі ад 1664, а таксама яго тэстамент 1669, яго жонка - Нешычанка, сын Юзаф.

Апошні - стольнік драгіцкі, валодаў бацькоўскімі маёнткамі на Смаленшчыне, а таксама маёнт.Паддуб'е-Карташэвічы Віцебскага ваяв., маёнт. Харэвічы Наваградзкага ваяв., узяў жонку з Рашкоўскіх. Сыны Юзафа: Сільвестр (нар. у 1743, Палонка) і Францішак (беспатом.). Сільвестр ад шлюбу з Супінскай пакінуў сыноў Вінцэнта і Францішка.

Прызнаны ў дваранстве 30.05.1800.

*З.Яцкевіч*

## 42. Гарабурды гербу «Абданк»



Рг. - Мікалай, набыў маёнт.Волца, які пакінуў сыну Гераніму (1688), войскаму наваградзкаму, які набыў яшчэ маёнт.Свіраны. Апошні меў сыноў Станіслава, лоўчага наваградзкага, і Адама, старасту вірыдымаўскага, якія падзялілі бацькоўскія ўладанні. Адам меў сына Казіміра, якому пакінуў спадчынны маёнт. Волцу (1729). У Казіміра, суддзі гродзкага Наваградзкага ваяв., былі чатыры сыны: Дамінік, Тадэвуш, Людвік і Адам, суддзя гродзкі наваградзкі.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

*З.Яцкевіч*

## 43. Гарбатоўскія гербу «Суліма»

Вядома: Ян Юр'евіч і Крыштаф Янавіч Г. сведчылі аб знішчэнні ў 1660 родавых дакументаў пад час вайны з Расіяй (маніфест 1661), у т.л. прывілеяў каралеўскіх, квітаў паборавых і вайсковых, а асабліва прадажных запісаў ад Аношкі Томкавіча Г. Івану і Андрэю Фёдара-



вічам Г. на маёнт. Гарбатовічы (1614), ад Фёдара Белавуса Крыштафу і Івану Іванавічам Г. на землі каля р.Пятухоўкі;

- Пракоп Фёдаравіч і Фёдар Войцэхавіч Г, уладальнікі маёнт. Гарбатовічы, што засведчыў квітам паборца наваградзкі Міхаіл Вайніловіч (1633);

- запіс квітацыйны ад Тамаша Г., уладальніка маёнт.Гарбатовічы, Станіславу, Базылю і Яну, братам родным, а таксама Якубу, бацьку, і генералу ЯКМ Ваўжынцу, сыну, Г. (1744).

Выводзіліся: Міхаіл з сынамі Юзафам, Антоніем, Андрэем і Віктарам; Міхаіл і Фларыян, браты родныя; Рэмігіян-Базыль з сынамі Сымонам, Юрыем і Антоніем; Ян з сынамі Вінцэнтам і Юзафам; Ігнацы з сынам Мацвеем; Габрыэль з сынам Каэтанам і братам Антоніем; Дамінік з сынам Станіславам; Станіслаў з сынам Францішкам Г., уладальнікі зямлі ў вак.Гарбатовічы.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак***

## 44. Гардыны гербу «Радван»

Па родаваму паданню паходзілі ад Якуба Карабанавіча Г., палкоўніка войск літ., што валодаў маёнт. Ладзяты ў Ашмянскім пав., які набыў ад Ладзятаў і ахвяраваў у 1522 на фундуш Трабскай алтарыі. Таксама вядомы Самуэль Якубавіч Г., які за вайсковыя паслугі атрымаў па прывілею Караля Яна-Казіміра маёнт.Лісічны, Ручай і Пагост з млынам на р. Беліцы (1660).

Рг. - Ян, падстолі аршанскі, пазней наваградзкі войт. Яго сын Ян, гараднічы мазырскі (1664), уладальнік маёнт. Наруцэвічы, які набыў ад Ельскіх, суддзяў гродзкіх мазырскіх (1673), узяў шлюб з Гальшкай з Радзівіловічаў Шастакоўскай, ад якога меў сына Мікалая. Апошні, спадчыннік фальв.Бабровічы і Літвінавічы (Мазырскі пав.), а таксама Душэў і Наруцэвічы (Наваградзкае ваяв.) і інш., якія пакінуў сынам Яну і Адаму.

Пасля падзела спадчыны (1724) Ян стаў уладальнікам



маёнт.Душэў, Бабровічы, Літвінавічы, Ластаўшчына ў Мінскім ваяв., а Адам атрымаў маент. Наруцэвічы і інш. З іх Адам, стражнік старадубскі, пакінуў сыноў Яна, Юрыя, Мікалая,

Феліцыяна і Даменіка, якім адказаў наступную маёмасць (дароўны запіс 1777): закладны маёнт.Тарэйкі ў Наваградзкім ваяв. - Яну, маёнт.Каменка ў Наваградзкім пав. - Юрыю, мечніку наваградзкаму і суддзі слуцкаму, маёнт.Наруцэвічы - Мікалаю, камісару гранічнаму, маёнт.Востраў у Наваградзкім ваяв. - Феліцыяну, шамбяляну ЯКМ, і Дамініку, абознаму віцебскаму і двараніну Скарбу Літоўскага. З іх Юрый пакінуў сына Антонія, уладальніка маёнт. Каменка, а Ян - Мікалая.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***А.Шпунт***

## 45. Гарэльскія гербу «Далэнга»



Рг. - Юзаф, уладальнік фальв. Вендаўка ў Сандамірскім ваяв., што пацвярджае пасведчанне ўраднікаў і абывацеляў таго ж павету за 1751. Перасяліўся да стрыяў Сузінаў у Берасцейскае ваяв., пазней служыў у пяцігорскай брыгадзе войск літ. пад харугвай Сымона Забелы (1775), мечнік парнаўскі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1775). Асеў у Наваградзкім пав., дзе набыў ад Іаахіма Кміты, суддзі гродзкага наваградзкага, фальв. Дашкевічы, яго жонка Францішка Мацкевіч, сыны Антоні, Францішак і Міхаіл. Разам з імі выводзіўся таксама іх пляменнік Вінцэнт.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

## 46. Гаслаўскія гербу «Окша»



Выводзіліся з Сандамірскага ваяв.

Рг. - Мацвей-Багуслаў, перасяліўся ў Наваградзкае ваяв., узяў за жонкай кальвіністкай Сюзаннай Вярыга-Дарэўскай у пасаг маёнт. Дарэў-Бецеўшчына і Дарэў-Харужоўскі ў тым жа ваяводстве (каля 1689), з якіх першы застаўся ў валоданні Г., а другі быў праданы Ярмаловічам (1719), пакінуў сыноў Яна (беспатом.), Паўла (беспатом.), Антонія (беспатом.), Віктара і Пятра, што засведчыла тэстаментам маці ў 1734 г. З іх Пётр выкупіў у Віктара яго частку маёнтка, пакінуў сыноў Дыянісія (памёр у малалецтве) і Ігнацыя, закладнога ўладальніка маёнт.Навасa-

ды ў Наваградзкім ваяв., камісара цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі Наваградзкага пав. (да 1795). Прадаў спадчынны маёнт. Дарэў-Бецеўшчына ў 1775.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***А.Шпунт***

## 47. Гаўрылкевічы гербу «Анцута»



Рг. - Філон Багданавіч, уладальнік урочышча Шутаўшчына, якое прадаў Мажэйку, потым служыў у войску. Яго сын Пётр[1], валодаў двума закладнымі валокамі ад Самуэля і Юрыя Кукевічаў, меў сыноў Антонія, Даменіка, Юзафа, Яна і Людвіка. з якіх Юзаф пакінуў сыноў Міхаіла і Яна. Сыны Міхаіла - Пётр і Стэфан, а сыны апошняга Каспер, Юзаф і Ян, дзедзічы маёнт. Дашкевічы.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

[1]Абвінавачваўся ў нешляхецкім паходжанні, дзеля чаго прадстаўляў сведчанне ўраднікаў і абываццеляў Лідзкага пав.

***А.Шпунт***

## 48. Гаўрылкевічы гербу «Астоя»



Выводзіліся з Лідзкага пав.

Рг. - Стэфан, сын Міхаіла, унук Юзафа, праўнук Пятра,праправнук Філона, перасяліўся ў Наваградзкі пав., дзе набыў зямлю ў вак. Дашкевічы, прад'явіў у якасці доказаў на шляхецтва сведчанні зямян ЯКМ Лідзкага пав. Міхаіла, бацькі, Стэфана і Пятра, сыноў, Г. (1785) і ўраднікаў і абываццеляў Наваградзкага пав.(1800). Сыны Стэфана: Каспер, Юрый і Ян.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800[1].

[1] гл. таксама артыкул № 47.

***С.Рыбчонак***

## 49. Студніцкія-Гізберты гербу«Котвіца»



Рг. - Ян, стражнік інфлянцкі, дзедзіч фальв. Лынтупкі (Ашмянскі пав.), які пакінуў сыну Яну-Крыштафу (1758), пазней стражніку ашмянскаму. Апошні валодаў яшчэ фальв.Болуп у Ашмянскім пав., які

прадаў Верашчаку, меў сыноў Міхаіла, Юзафа і Стэфана, што засведчыў тэстаментам у 1764. З іх Юзаф, удзельнік попіса шляхты Гарадзенскага пав. (1765), шамбялян Двара Польскага (1789), уладальнік маёнт.Далматаўшчына ў Наваградзкім пав., яго сын Ян-Крыштаф, а Стэфан, капітан войск пол., звольнены са службы ў 1782, яго сыны Марцін-Крыштаф і Тамаш-Станіслаў.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***С.Рыбчонак***

## 50. Глінскія гербу «Ястрабец»

Па родаваму паданню выводзіліся з Кракаўскага ваяв. і паходзілі ад Крыштафа па мянушцы Ястраб, які, па сведчанню Яна Длугаша, за храбрасць у вайне з паганымі атрымаў ад польскага кн. Мячыслава герб "Ястраб" (ці "Ястрабец") у 1000, а таксама Міхаіла, гетмана польнага літ., і яго брата Базыля, што збеглі з Княства ў МаскОвію. У 17 ст. іх нашчадкі пражывалі ў Мінскім ваяв., дзе карысталіся прозвішчам Ліхадзееўскія, а таксама ў Старадубскім і Чарнігаўскім пав.

Рг. - Крыштаф, пражываў у Кракаўскім ваяв., каля 1560 узяў шлюб з Галухоўскай, дачкой суддзі сандамірскага, і пакінуў чатырох сыноў. З іх старэйшы Крыштаф ад шлюбу з Пшыткоўскай меў трох сыноў, з якіх два старэйшыя памерлі беспатомнымі, а трэці - Шчасны (Фелікс) - узяў жонку таксама з Галухоўскіх, і пакінуў сыноў Яна, Самуэля і Крыштафа. Апошні служыў спачатку таварышам ў Фірлея, ваяводы кракаўскага, пасля чаго мусіў часова з'ехаць з РП, пакінуўшы свой маёнтак братам і сёстрам, што выйшлі пазней замуж за братоў Касіцкіх, потым быў афіцэрам у войску князя Баварскага (у адстаўцы з 1669), у 1670 вярнуўся на радзіму і асеў у Наваградзкім ваяв., у 1689 узяў жонку з роду Сестранцэвічаў, цётку арцыбіскупа Магілёўскага С. Богуша-Сестранцэвіча, меў сыноў Феліцыяна (нар. у 1697), Даніэля і некалькі дачок



Феліцыян, у часы Паўночнай вайны быў сяржантам Праабражэнскага палка войск рас. (да 1722), у тым жа годзе вярнуўся на радзіму, потым капітан драгун войск пол. па патэнту вял. гетмана ВКЛ кн. Міхаіла Вішнявецкага (1735), і, нарэшце, генерал-ад'ютант з рангам обершт-лейтэнанта войск літ.

па патэнту вял. гетмана ВКЛ і віленскага ваяводы кн. Міхаіла Радзівіла (1740). у адстаўцы з 1751, арандаваў маёнт. Падлужжа, а таксама Бердаўка і Косічы (з 1728) у Пратасовічаў, узяў шлюб (каля 1728) з Тэафіляй Алендзкай, дачкой маршалка ваўкавыскага, атрымаўшы ад яе братоў Яна і Тэафіла А. 10000 талераў бітых пасагу на маёнт. Косічы, пакінуў сына Крыштафа. Апошні - харужы (1752), а потым капітан коннай гвардыі войск літ. (1758), сакратар Слуцкай канфедэрацыі (1767), пасол Соймавы ў 1773, падпалкоўнік войск літ. па патэнту Караля Станіслава-Аўгуста, асэсарскі суддзя ВКЛ (1776-1777), з 1786 у адстаўцы, спадчыннік маёнт. Вял. Косічы (з 1763).

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***С.Рыбчонак, З.Яцкевіч***

## 51. Грыцкевічы гербу «Знін»



Рг. - Васіль, уладальнік фальв. Масцішча-Бухаўшчына (Усялюбская парафія Наваградзкага пав.), заплаціў прызначаны варшаўскім Соймам падатак на войска інфлянцкае (1629). Яго сын Фёдар, спадчыннік па бацьку, пра што сведчыць квіт на выплату падатка на вайну з казакамі (1648), пакінуў сына Самуэля, таксама ўладальніка маёнт.Масцішча (1679). Сын апошняга Ян заплаціў падымны падатак у 1726.

Францішак, спадчынны ўладальнік маёнт.Масцішча (1736), выводзіўся яго сын Антоні.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***З.Яцкевіч***

## 52. Гудвіловічы гербу «Астоя»



Рг. - Пётр, валодаў фальв. Альхоўка, што атрымаў ад маці Хрысціны, у другім шлюбе за Мікульскім (1704). Яго сын Станіслаў меў таксама ў заккладзе фальв.Мікулічы, якія Мікульскія здалі ў арэнду Дварніцкаму (1737), а той Гудвіловічу (1751), пакінуў сыноў Юзафа і Яна, таксама арандаваўшых фальв. Мікулічы ў Феліцыяна Мікульскага (1781).

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 53. Гузэльфы гербу «Праўдзіц»

Рг. - Захар Сымонавіч, валодаў удзелам у Крымскім ханстве, быў знакамітым дарадцам хана, таксама аказаў значныя паслугі Каралям польскім і Вялікім князям літоўскім Альбрэхту і Аляксандру, пакінуў сына Вінцэнта, які быў прыняты Каралём Жыгімонтам І на службу Двара Польскага. Яго сын Захарыўш сфармаваў за свой кошт так званую Пяцігорскую харугву, якую з дазволу хана Іж-Гірэя прывёў у Рэч Паспалітую для ўдзелу ў пачаўшайся з Масковіяй вайне, за што атрымаў ад Караля Жыгімонта-Аўгуста маёнт. Бярозу ў Берасцейскім ваяв. (1568). Яго жонка Ганна Станіславаўна з Малахавічаў (каля 1590), сыны Адам, Ян і Станіслаў, што судзіліся паміж сабой (1608) і з якіх пачаліся тры асобныя галіны.

1. Адам меў сыноў Пятра і Францішка, з якіх апошні набываў зямлю ў сваякоў Аўгусціна і Стэфана Базылевічаў Г., але ці пакінуў нашчадкаў невядома. Пётр - спадчыннік па бацьку, яго сыны Марцін, Міхаіл, падчашы берасцейскі, Мікалай і Юрый. Сыны Марціна і Петранэлі з Непакойчыцкіх (яе тэстамент 1688): Урбан і Станіслаў, прадалі спадчыну палкоўніку Косці.[1] Пра Міхаіла і Мікалая звестак не захавалася, а Юрый пакінуў сына Яна, што прадаў спадчыну таму ж Косці.



2. Ян пакінуў сыноў Адама, яго сыны Павел і Францішак; Францішка, яго сыны – Габрыэль і Пётр - прадалі спадчыну Пятру Якубовічу; Паўла, яго сын Ян прадаў спадчыну таму ж; і Базыля, яго сыны Аўгусцін, Самуэль, Станіслаў і Стэфан, якія прадалі спадчынную зямлю ў маёнт. Бяроза Верашчакам, падчашаму гарадзенскаму Міхаілу Шчансноўскаму (1686) і Васілеўскім.

З іх Станіслаў прадаў таксама фальв. Крушына ў Берасцейскім ваяв. Юзафу Дамброўскаму (1754), а сам набыў фальв. Зваровічы ад Францішка Левальт-Езерскага, які пакінуў сынам Міхаілу, Марціну, што стаў манахам бернардынскага закону, і Ігнацыю, маёру гвардыі літ. Указаныя браты прадалі спадчыну каморніку Берасцейскага ваяв. Антонію Гродзкаму. З іх Міхаіл, ротмістр Слонімскага пав. па патэнту харужага Яна Пшэцлаўскага (1791), валодаў яшчэ маёнт. Хадоркі ў Наваградскім ваяв., яго сыны Караль, Алаізі і Станіслаў.

3. Станіслаў пакінуў сыноў Пятра (беспатомна забітага) і

Якуба, спадчынніка па бацьку. Сын апошняга Пётр пакінуў сыноў Антонія і Францішка, што прадалі спадчыну ў маёнт. Бяроза Верашчакам, і пра нашчадкаў якіх невядома.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1]У дакуменце згаданы яшчэ Павел Бухавецкі і Марцін Касцюшка.

***С.Рыбчонак***

## 54. Ражыцкія-Гэмскія гербу «Грыф»



Па родаваму паданню паходзілі ад Мікалая Р.-Г., які прыбыў з Італіі і паступіў на вайсковую службу, дзе атрымаў ад Караля Жыгімонта III да выявы свайго герба меч і стралу (1588)[1].

Выводзіўся Ян, сын Якуба, унук Яна, праўнук Мікалая, які ў якасці доказу на шляхецтва прадставіў сведчанні свайго стрыечнага брата Антонія, ротмістра Аршанскага пав. (1793), а таксама ураднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. (1799).

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

---

[1]Гэтыя змены ў малюнку не адлюстраваны.

***З.Яцкевіч***

## 55. Дабраньскія гербу «Сас»



Выводзіліся з Саноцкай зямлі Каралеўства Польскага.

Спасылаліся на знішчэнне родавых папераў пад час паўстання 1794, прадставілі ў якасці доказаў на шляхецтва сведчанні ураднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1797 і 1799, а таксама ад Фабіяна Вольскага, войскавіча смаленскага.

Выводзіліся: Матэвуш, Ян і Андрэй, сыны Юзафа, унукі Казіміра.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***З.Яцкевіч***

## 56. Дабрыньскія гербу «Еліта»

Па родаваму паданню паходзілі з зямян (з 17 ст.) Мінскага і Наваградзкага ваяв.

Вядома: Грыгоры, зямянін гаспадарскі Мінскага ваяв., судзіўся згодна дэкрэту Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1629) з зямянінам гаспадарскім навагрудзкім Аляксандрам Няміра-Хадкевічам. Меў жонку Барбару з Рамановічаў і сына Крыштафа,



якому адпісаў 300 коп грошай літ. на маёнт. Шчонаў у Наваградзкім ваяв. (1633). Крыштаф узяў шлюб з Аленай Лешчылоўскай, атрымаўшы ў пасаг частку фальв. Тупалы ў Наваградзкім ваяв., да якога пазней прыкупіў яшчэ землі, і пакінуў сынам Андрэю, Казіміру і Стэфану (тэстамент 1698).

- Ян Ваўчок-Сухарэбскі прадаў палову фальв. Волца Яну і Ганне з Сухарэбскіх Д.[1] (1742).

Выводзіліся: Юзаф з сынамі Янам, Антоніем і Банавентурай; Аляксандр з сынамі Сымонам і Міхаілам; Дамінік з сынамі Вінцэнтам, Францішкам і Канстанцінам; Францішак з сынам Антоніем; Міхаіл з сынамі Юзафам і Феліцыянам і пляменнікам Феліцыянам Д., уладальнікі зямлі ў вак. Тупалы і Волца. Яны ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі таксама сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Навагрудзкага пав. за 1799.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

[1] Магчыма, мелі сыноў Адама і Юрыя.

*А.Гануш*

## 57. Давідоўскія гербу «Прус III»



Паходзілі з Кракаўскага ваяв. Карысталіся прыдомкам Будзынка ці Будзінскі. Па родаваму паданню родапачынальнік атрымаў прозвішча ад імя свайго бацькі Давіда.

Рг. - Станіслаў, дваранін Караля Стэфана Баторыя (1581), перасяліўся ў ВКЛ, пасля вайсковай службы набыў фальв. Лышчыцы ў Янавай Васілевічавай Беліковічаўны Вайніловічавай, харужай наваградзкай, які пазней прадаў жонцы Міхаіла Корсака, харужага полацкага. Ажаніўся з Анастассяй Гладковай Стэцкевічавай, атрымаўшы ў пасаг маёнт. Дудзічы, да якога ў 1581 яшчэ прыкупіў частку зямлі, што пацвердзіў ліст Караля Стэфана да кн. Свірскага і якую маці адпісала сваім сынам Рафаілу і Крыштафу ў 1591. Апошні, спадчынны ўладальнік маёнт. Дудзічы, узяў шлюб з Галаўнянкай, дачкой суддзі земскага наваградзкага, ад якой меў сыноў Адама, Тамаша, Яна і Эліяша.

Тамаш Крыштафавіч атрымаў цэлы маёнт. Дудзічы пасля братоў, узяў жонку з роду Кмі-

таў. пакінуў сыноў Габрыэля (беспатом.), Яна (беспатом.), Крыштафа (беспатом.), Ваўжынца, Казіміра, Самуэля і Юрыя. Ваўжынец, які меў сыноў Міхаіла і Станіслава, і Казімір, што атрымаў ад свайго дзядзькі ў спадчыну маёнт. Ліпа, збылі свае часткі брату Самуэлю.

Казімір меў жонку з Вольскіх, пакінуў сыноў Міхаіла (беспатом.) і Юзафа, спадчыннага ўладальніка маёнт. Падлессе-Гарадзея. Сыны апошняга: Ваўжынец і Адам, у якога быў сын Уладзіслаў, уладальнікі фальв. Парадневічы.

Самуэль Тамашавіч пакінуў сыноў Пятра, яго сыны Марцін і Дамінік, Станіслава, яго сын Антоні, і Гераніма, яго сын Юзаф, спадчыннік фальв. Дудзічы, а ўнукі Францішак, Ян, Ігнацы і Фабіян Юзафавічы.

Юрый Тамашавіч, спадчынны ўладальнік маёнт. Каменка, пакінуў сыноў Людвіка, Ігнацыя і Дамініка. У апошняга былі сыны Станіслаў, бернардын-ксёндз і Людвік, спадчыннік маёнт. Каменка. Сыны Людвіка: Дамінік і Пётр.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***С.Рыбчонак, З.Яцкевіч***

## 58. Контрым-Дамейкі гербу «Дангэль»

Карысталіся родавым прыдомкам Контрым (Kontrym).



Рт. - Сымон, зямянін Жамойцкага княства па прывілею Караля Уладзіслава IV (1645), пакінуў сыноў Юрыя і Крыштафа. З іх першы набыў фальв.Кубішкі з в.Варпуцяны, якія пакінуў жонцы і брату згодна тэстаменту (1682). Сын Крыштафа, Юрый, судзіўся са сваякамі за спадчыну (маніфест 1695), валодаў закладным фальв.Заблотна, яго жонка Кацярына з Княжыцкіх, сын Казімір (нар. у 1725). Апошні пакінуў сыноў: Тадэвуша, мечніка мінскага, Мацвея, сакратара вялікай пячаткі ВКЛ, Гіпаліта, Ігнацыя, Леона, Юзафа і Дыянісія, якім пакінуў спадчыну (тэстамент 1779).

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

***С.Рыбчонак***

## 59. Данейкі гербу «Сас»

Па родаваму паданню паходзілі ад Івана і Адама Федкавічаў Д., зямянаў Навагрудзкага пав., яшчэ за панаваннем Караля Жыгімонта I.

Рт. - Стэфан, сын Івана, дзедзіч маёнт.Цюневічы (1650), судзіўся з Казакоўскімі (1668), па-



кінуў сыноў: Казіміра, падстолія парнаўскага (1696) і Ўладзіслава. З іх апошні меў сыноў Феліцыяна, наваградзкага земскага суддзю, яго сыны: Юзаф і Тэадор, і Адама, яго сыны: Тадэвуш і Іаахім.

Разам з імі выводзіліся сыны Антонія Марцінавіча Д.[1], старасты вайцешынскага, Тадэвуш, Ігнацы, Вінцэнт, Фрыдэрык, Міхаіл, Юзаф і Ян.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

---

[1]У генеалогії не пазначаны.

***С.Рыбчонак***

## 60. Данілевічы гербу «Астоя»

Па родаваму паданню паходзілі ад Васіля Д., які разам з жонкай Соф'яй Арлоўскай прадаў спадчынны маёнт.Радзівілавічы ў Слонімскім пав. Амброзію і Ганне Ракам (1526).



У якасці доказу на шляхецтва прад'явілі тры хросныя метрыкі з Усялюбскага касцёла на Станіслава Самуэлевіча, Феліцыяна і Тадэвуша Станіслававічаў Д.

Выводзіліся: Антоні і Тадэвуш Станіслававічы Д., уладальнікі зямлі ў вак.Дашкевічы.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 61. Дзердзееўскія гербу «Праўдзіц»

Рг. - Тамаш, сын Станіслава-Мельхіёра, дзедзіч маёнт.Ляснёўка [1736, 1740; Глуская парафія (?) Слуцкі пав.] і Вуглы, ад шлюбу з Канстанцыяй Трэмбіцкай меў сыноў Караля, Людвіка, Фларыяна, Францішка, Міхаіла і Антонія.



З іх Міхаіл, ротмістр смаленскі па патэнту харужага і палкоўніка Смаленскага ваяв. Станіслава Эйдзятовіча (1778), таксама ўладальнік маёнт.Геловічы ў Наваградзкім пав., які набыў ад Станіслава і Караліны з Младзецкіх Возьбунаў, стражнікаў мінскіх (1783), ад шлюбу з Каралінай Пратасовіч меў сыноў Яна, шамбяляна Двара Польскага па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1779), і Юзафа, ротмістра (1792), спадчыннікаў па бацьг-

ку (тэстамент апошняга 1790). Брат Міхаіла Антоні, дваранін Лідзкага Скарбу (1775), ротмістр троцкі і тымінскі (1790), набыў ад Антановічаў маёнт. Коцеў з належным да яго фальв. Агнаполле ў Ковенскім пав. (1790), ад шлюбу з Агнешкай Валадковіч пакінуў сыноў Стэфана, Фларыяна і Марціна.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

## 62. Дзядзюлі гербу «Сас»



Зямяне Наваградзкага ваяв.

Вядома: маніфест Лукаша з жонкай Ганнай Скуратовіч, у першым шлюбе за Адамам Лазоўскім, і яе маці Рэгіны Львоўны Пшэўлоцкай Адамавай Скуратовіч аб тым, што ў 1660 пад час спалення расійскімі войскамі спадчыннага маёнтка быў знішчаны родавы архіў.

- Міхаіл Д., уладальнік фальв. Куневічы ў Наваградзкім пав., які набыў у Яна Мацкевіча Ёткашэвіча ў 1566.

- Юрый Д. прадаў у 1624 фальв. Грэчыхі Фёдару, Яну і Адаму Гарбатоўскім.

Выводзіліся: Тамаш з сынамі Міхаілам і Андрэем, і братам Янам, уладальнікі зямлі ў вак. Куневічы.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***З.Яцкевіч***

## 63. Духноўскія гербу «Джэвіца»



Зямяне Ваўкавыскага пав., карысталіся родавым прыдомкам Готфрыд.

Вядома: ліст Караля Жыгімонта-Аўгуста да Крыштафа Алендзкага (1555), каб Д. ніякіх падаткаў, акрамя ваеннай службы на карысць Лыскоўскага замка, не выконвалі;

- Гаспар Г.-Д. набыў у Яна Ленартовіча фальв. Верашчыцы (1602);

- Ян Г.-Д. у 1671 набыў у Ізабэлы з Масальскіх Валадковіч, ваяводзіны наваградзкай, фальв. Рабаўшчына;

- Антоні, стрыечны брат родапачынальніка, меў пасведчанне ад ураднікаў і шляхты Берасцейскага ваяв. (1721).

Рг. - Ян, меў сыноў Марціна, Тамаша і Андрэя (бяспатом.), якія згодна крэдэнсу грамнічнага сойміка (1742) Ваўкавыскага

пав. - ротмістр ваўкавыскі, і канцлера ВКЛ Яна Сапегі (1748) - ротмістр харугвы пяцігорскай, таксама стольнік старадубскі па прывілею Караля Аўгуста III (1738). Марцін (тэстамент 1775) меў жонку Марыянну Зубоўскую і сына Дамініка. Тамаш з жонкай Разаліяй Дзевялтоўскай пакінуў сыноў Фелікса і Леона, намесніка наваградзкай земскай канцылярыі (крэдэнс пісара наваградзкага Мікалая Рэйтана ад 1778), ды з другой жонкай Кацярынай Гедымінаўнай (квіт 1772) меў сына Станіслава. Сын Леона Тамашавіча Зянон быў хрышчаны ў 1778 у Наваградзкім фарным касцёле Хелхоўскім, пробашчам наваградзкім і канонікам смаленскім.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 64. Дэшыны гербу «Дэшына»[1]



Рг. - Васіль Дэшыніч (ці Дэшына), узяў шлюб з Даротай Жыбартаўлянкай, ад якой меў сыноў Лаўрына і Яна і дачку Ефрасінню, у шлюбе за Верыкоўскім. З іх Лаўрын, яго жонка з Гарайнаў, у першым шлюбе Трацэўская, перасяліўся ў Карону, дзе пачаў пісацца Дэшынскім, а сваю долю маёнтка адказаў брату (1599).

Ян ад жонкі з Рамановічаў меў сына Багуслава, дзедзіча па бацьку і дзядзьку часткі фальв. Драбышы. Жонка Багуслава - з Гарбатоўскіх, сын Францішак, які ўзяў шлюб з Пшыгодзкай і пакінуў сыноў: Барталамея, Людвіка, Адама, Марціна, Яна, Міхаіла, Юзафа, Ігнацыя, Тадэвуша, Войцэха і Юрыя.

З іх Барталамей ажаніўся з Бутлераўнай, яго сын Леон і дачка Ангеля, у шлюбе за Есьманам. Людвік ад Ласкавічоўны меў 4 дачок і сына Францішка (беспатом.), а Юрый ад жонкі Ганны з Мацкевічаў меў сыноў: Францішка, Станіслава, Іаахіма, Фелікса і 7 дачок, што сталі спадчыннікамі па бацьку і дзеду фальв. Драбышы (1797).

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]У генеалогіі роду, відавочна, не стае 1-2 каленаў.

***С.Рыбчонак***

## 65. Ежэўскія гербу «Ястрабец»

Рг. - Себасцьян, закладны ўладальнік маёнт. Малое Сялко рэгента наваградзкага Мацвея Яновіча, у якім пад час пажару



загінулі ўсе родавыя паперы (1750). Ён з пляменнікам Міхаілам прадставілі ў якасці доказаў на шляхецтва сведчанні ураднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1797 і 1800.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*А.Шпунт*

## 66. Есьманы гербу «Корчак»

Ужывалі родавы прыдомак Глебавіч (Hlebowicz).

Рг. - Мікалай, уладальнік маёнт. Міратычы і Сёгда ў Наваградзкім пав., набытых ад розных зямян і татараў, што канфірмаваў Жыгімонт III (1592). меў сыноў Яна і Мікалая, між якімі падзяліў спадчыну (1617). Мікалай атрымаў маёнт. Міратычы, памёр беспатомны, а Ян - маёнт. Сёгда, пакінуў сыноў Крыштафа (беспатом.), Яна, Караля, Аляксандра (беспатом.), Міхаіла, Людвіка, Альбрэхта, Мікалая і Уладзіслава, з якіх Ян і Мікалай атрымалі ад астатніх братоў маёнт. Сёгда, Скрышэў, Хомічы і Сяльцо (1640).

З іх Ян, суддзя гродзкі ваўкавыскі, меў сына Аляксандра; Міхаіл меў сыноў Самуэля, Уладзіслава-Вацлава і Міхаіла-Казіміра; Альбрэхт - сыноў Антонія і Канстанціна; Мікалай - сыноў Самуэля і Яна.

Міхаіл-Казімір і Уладзіслаў-Вацлаў таксама падзялілі паміж сабой спадчыну ў 1680; З іх Уладзіслаў-Вацлаў, гараднічы полацкі, атрымаў маёнт. Грыгаровічы ў Полацкім ваяв., спадчыну па стрыях Крыштафу і Аляксандру, а Міхаіл-Казімір, падстолі чарніхаўскі, а потым падчашы Наваградзкага ваяв. па прывілею Караля Яна III (1690), атрымаў маёнт. Сёгда.



Уладзіслаў-Вацлаў пакінуў сына Марціна і ўнукаў Антонія, Яна і Уладзіслава. Міхаіл-Казімір меў сыноў Казіміра, канюшага Наваградзкага ваяв. па прывілею Караля Аўгуста II (1717), Станіслава, капітана ЯКМ, Язафата, генерал-ад'ютанта ЯКМ, Багуслава і Іераніма, што падзялілі спадчыну паміж сабой (1719). Казімір атрымаў маёнт. Бабнева, Станіслаў - маёнт. Рута з каменіцай у Вільні, Язафат - маёнт. Міратычы, Багуслаў - маёнт. Хомічы з юрыздыкай у Наваградку, а Геранім - маёнт. Сёгда. З

іх Казімір, набыў разам з жонкай Канстанцыяй Уніхоўскай маёнт. Колтыцы ў Наваградзкім ваяв., пакінуў сына Юзафа, вoйскага парнаўскага, спадчынніка таго ж маёнтка па дароўным запісу маці ў 1749. Сыны Юзафа - Казімір, Дамінік і Іаахім.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак***

## 67. Жукоўскія гербу «Прус III»

Паходзілі з зямян Плоцкага ваяв. Магчыма ўжывалі родавы прыдомак Собар (Sobor).



Рг. - Павел, пасля службы ў войску ажаніўся з Галенскай і пакінуў сыноў Аксенція (беспатом.) і Тамаша. Апошні ўзяў шлюб з Евай Палонскай, яго сыны Ян, Станіслаў, Юзаф і Пётр. З іх Пётр меў сыноў Ігнацыя, Юзафа, Мацвея, Дамініка і Яна, што прадставілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Пружанскага пав. за 1797.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 68. Жэгнеўскія гербу «Ястрабец»

Вядома: квіты на выплату падаткаў з маёнт. Пшэўлокі:



- Юзаф Голуб, паборца наваградзкі, - Пятру Ж. (1616).

- Ян Кураноўскі, падсудак і паборца наваградзкі, - Пятру Ж. (1621).

- Пратасовіч, паборца наваградзкі, - Пятру Ж. (1628).

- Павел Пясецкі, падваявода і паборца земскі наваградзкі, - Ж. (1629).

- Самуэль Зенькoвіч, Ян Корсак і Юрый Свідэрскі, паборцы наваградзкія. - Андрэю Ж. (1650).

- Ян Пратасевіч і Ян Палонскі, паборцы наваградзкія, - Ж. (1656).

- Раман-Геранім Галаўня і Дземстрыян-Альбрэхт Крывец, паборцы наваградзкія, - Мікалаю Ж. (1661).

- Іаахім Падрэцкі, паборца наваградзкі. - Станіславу Ж. (1664).

- Яраш-Станіслаў Керсноўскі, Ян Чудоўскі і Ян Вонгель-Свідэрскі, паборцы наваградзкія, - Рэгіне з Калэнчынскіх, жонцы Андрэя Ж. (1668).

- Даніэль Рэвенскі, стараста цырынскі, - Марыянне з Астрэйкаў, жонцы Мікалая Ж. (1702).

- Юрый Магільніцкі, Станіслаў Палонскі, Юрый Белякевіч і Уладзіслаў Расудоўскі, паборцы наваградзкія, - Ж. (1716).

- Ян-Антоні Бранец, рэгент гродзкі наваградзкі, - Ж. (1719).

- Францішак Бахнеўскі - Ж. (1721).

- Міхаіл-Казімір Дашкевіч, рэгент гродзкі наваградзкі, - Юрыю Ж. (1730).

Выводзіліся: Антоні[1], сын Мікалая, унук Андрэя, праўнук Пятра, з сынамі Вінцэнтам, Феліцыянам і Ігнацыем, і яго пляменнік Фабіян.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Меў роднага брата Ігнацыя (памёр да 1750), і пакінуў, напэўна, Фабіяна.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 69. Забелы.[1]

Зямяне Наваградзкага ваяв.

Вядома: дакумент рэвізіі 1551, падпісаны Грыгорыем Валовічам, дзяржаўцам ляхавіцкім, Янам Міхайлавічам Гайкам, дваранінам гранічным ЯКМ, і Грыгорыем Пратасевічам;

- маніфест Пятра Войцэхавіча З. ад 1663 пра знішчэнне родавых папераў;

- два квіты на ўплату падаткаў з маёнт.Крывое Сяло, выдадзеныя Казіміру З. ад Яна-Казіміра Тэльшаўскага (1711) і Крыштафа-Міхаіла Кандратовіча, мечніка і пісара гродзкага наваградзкага, Казіміра Юзафа Мірскага, мечніка мсціслаўскага, камісараў падатковых у Наваградзкім ваяв.

Рг. - Станіслаў, набыў у Пятра З. маёнт.Старасселле ў Наваградзкім ваяв. у 1754, пакінуў сыноў Тэадора, Дамініка і Міхаіла, якія прадалі дадзены маёнтак Міхаілу Берновічу, суддзі земскаму наваградзкаму, ў 1787. Дамінік набыў у Вінцэнта Райкевіча, рэгента земскага наваградзкага, маёнт.Завоссе-Калдычаў у 1788. Сыны Дамініка: Вінцэнт, базыліянін, Канстанцін і Ян, станаўнічы сталавіцкі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста ад 1793.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Герб не пазначаны.

***З.Яцкевіч***

## 70. Заборскія гербу «Навіна»

Выводзіліся з Ковенскай зямлі Віленскага ваяв.

Рг. - Рафаіл, меў сына Яна-Габрыэля. Яго сын Антоні ад



шлюбу з Эльжбетай Русецкай меў сыноў Станіслава, Альбрэхта і Францішка.

З іх Альбрэхт, ротмістр па патэнту харужага наваградзкага Хрызастома на Рдултаве Рдултоўскага (1758), потым камісар цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі Наваградзкага пав. і, нарэшце, асэсар Наваградзкага земскага ніжэйшага суда, пакінуў сыноў Даніэля і Пятра; Станіслаў пакінуў сыноў Яна і Антонія, а Францішак - Міхаіла.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 71. Загароўскія гербу «Корчак»

Вядома: Ян-Самуэль Руткоўскі, скарбнік аршанскі, прадаў Яну, ротмістру аршанскаму маёнт. Трупаў (1689). Павел, ротмістр аршанскі (1798).



Рг. - Нікадэм, перасяліўся з Аршанскага ў Слонімскі пав., пакінуў сына Францішка (нар. у 1726) і ўнукаў Казіміра, Яна, Антонія і Тамаша, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ураднікаў і абываценяў Аршанскага пав., у т.л. і вышэйзгаданага Паўла З., за 1798.

Прызнаны ў дваранстве 30.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 72. Загорскія гербу «Любіч»

Ужывалі родавы прыдомак Хост (Chost).



Рг. - Марцін, лоўчы браслаўскі, дзедзіч маёнт. Хосты і Гірэйшы ў Браслаўскім пав., а таксама закладнога фальв. Свіркі ў Ашмянскім пав., пакінуў сына Антонія, што прадаў маёнт. Гірэйшы Грыневічам (1754). Сыны апошняга - Станіслаў, Ян і Каэтан, з якіх Станіслаў і Каэтан засталіся на спадчынных землях у Браслаўскім пав. Ян, ротмістр браслаўскі, дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад таго ж павета (1766), на вайсковай службе з 1763 да 1771, перасяліўся ў Наваградзкі пав., дзе па дароўным запісу жонкі Францішкі Крышылоўскай атрымаў фальв. Русоцін

(1777), меў сына Юстына.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

## 73. Заельскія гербу «Астрог»

Карысталіся родавым прыдомкам Ілініч (Illinicz).



Вядома: пасведчанне Станіслава Еленскага, земскага мазырскага суддзі, старасты нестановіцкага, Пятру З., што ў фамільным архіве Еленскіх маюцца наступныя дакументы З. (1797):

- Эліяш Леневіч Малаед прадаў паўвалокі зямлі ў маёнт. Каменка Дашкоўская Васілю і Юрыю Дашкоўскім, Рыгору Маневічу і Базылю З. (1695).

- Закладное права ад Ганны Пятроўны з Дашкоўскіх, жонкі Мікалая Равінскага, зяцю Базылю і дачцэ Сюзанне з Равінскіх З., на лес і бор у Дашкаўцы на суму 100 злотых пол. (1697).

- Базыль і Сюзанна З. здавалі ў заклад зямлю ў Каменцы Дашкоўскай на суму 160 коп грошай літ. Андрэю і Ганне з Карэваў Жыраням (1708).

- Сюзанна з Равінскіх, жонка Базыля З., прадала частку маёнт. Дашкоўка Віктару Еленскаму, рэгенту Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1730).

Рг. - Ян, сын Мацвея Базылевіча, уладальнік маёнт. Невічы ў Лідзкім пав., які набыў ад Мацвея і Сюзанны з Рэнчынскіх Пракаповічаў (1777), ротмістр смаленскі, пакінуў сыноў Пятра-Юзафа (нар. у 1773), Антонія-Дамініка (нар. у 1777), Пятра-Вінцэнта-Гераніма (нар у 1779) і Алаізія-Сікстуса (нар. у 1790), што ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі таксама сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Навагрудзкага пав. (1799). З іх Юзаф-Антоні[1] служыў у конным польскім палку войск рас.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

---

[1]Незразумела — Пётр-Юзаф ці Антоні-Дамінік.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 74. Залескія гербу «Далэнга»



Выводзіліся з Браньскай зямлі Падляскага ваяв.

Рг. - Тамаш, перасяліўся ў Княства. Яго сын Ігнацы меў у закладзе фальв. Селічы (1737), пакінуў

сыноў Антонія, Тамаша, Якуба і Людвіка, што стаў манахам-баніфратарам. З іх Тамаш і Якуб выкупілі маёнт.Сслічы ў Пацынкаў (1771). Тамаш пакінуў сыноў Яна, Віктара і Ігнацыя, дзедзічаў таго ж маёнтку.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 75. Запаснікі гербу «Ліс»



Рг. - Ян, у пасаг за Ганнай Сямашка атрымаў частку фальв. Былінішкі ў Лідзкім пав., а яшчэ дзве часткі таго ж маёнтку набыў ад яе сясцёр, меў сыноў Караля і Ігнацыя. З іх Ігнацы, ротмістр рэчыцкі, прадаў спадчыну Антонію Наневічу (1757), а потым набыў ад Войцэха Сапліцы, сына падчашага наваградзкага, фальв. Скробаў у Наваградзкім пав. (1782). Сын Ігнацыя Ануфры, спадчыннік па бацьку, узяў шлюб з Барбарай, дачкой чашніка драгіцкага, Керсноўскай, ад якой меў сыноў Адама і Багуслава.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

## 76. З Каліновай Зарэмбы гербу «Праўдзіц» змен.[1]



Старажытны шляхецкі род, які, згодна родавага падання, паходзіў з Польшчы, дзе меў вялікія ўладанні і пасады.

Рг. - Феліцыян, ротмістр войск рас., прадставіў дэкрэт вывадовы Дынабургскага земскага правінцыйнага суда ад 1773. Яго сыны: Феліцыян і Багуслаў, спадчынныя ўладальнікі фальв.Зарой у Наваградзкім пав.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1] Змена ў шчыце, у няпоўнай сцяне ў выглядзе паса без зубцоў.

***З.Яцкевіч***

## 77. Збароўскія гербу «Ястрабец»

Рг. - Пётр, ротмістр ЯКМ, перасяліўся з Кароны ў Княства, узяў шлюб (каля 1715) з Брыгідай Сянкевіч, дачкой суддзі земскага мазырскага, і пакінуў сына Францішка (нар. у 1719). Апошні - ротмістр Мазырскага пав., таксама ўладальнік зямлі ў маёнт.Барысаўшчына, якую атрымаў па адказу Ігнацыя і Людвікі са З. кн. Шуйскіх

(1752). Сын Францішка Алаізі (нар. 1754), спадчыннік зямлі ў маёнт. Барысаўшчына (інтрамісія 1775[1]), меў сына Фаўстына.



Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

[1]Разам з Алаізіем згаданы нейкі Станіслаў З.

***А.Шпунт***

## 78 Ігнатовічы гербу «Свят»[1]



Вядома: Нечуя І. валодаў фальв. Лапава-Селішча ў сяле Палонны (Наваградзкае ваяв.), які прадаў Грушоўскаму (1566).

- Стэфан і Рэгіна з Мацкевічаў І. набылі фальв. Бабнева ў тым жа ваяводстве ад Аляксандра і Соф'і з Букрэяў Лешчылоўскіх (1650).

Выводзіліся: Мацвей; Пётр, Антоні з сынамі Паўлам і Стэфанам; Юрый з сынамі Юзафам і Паўлам; Андрэй з сынам Канстанцінам; Мацвей з сынам Матэвушам; Станіслаў з сынамі Францішкам і Сымонам; Мацвей, Ян, Ігнацы і Пётр; Стэфан; Дамінік з сынамі Юзафам і Янам; Ян з сынамі Марцінам і Вінцэнтам; Павел з сынам Міхаілам і братам Мікалаем; Сымон І.— уладальнікі зямлі ў вак. Бабнева.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

[1]На самой справе род карыстаўся гербам, які мае гэткую ж назву, але іншы выгляд.

***С.Рыбчонак***

## 79. Іздэбскія гербу «Помян»



Вядома: Казімір, канюшы Троцкага ваяв., арандаваў у падканцлера ВКЛ кн. Дамініка-Мікалая і Ганны-Марыі з Любча Палубінскіх Радзівілаў маёнт. Балбяны і Барцяны ў Троцкім ваяв. Яго брат Мікалай, стражнік Смаленскага ваяв., дзедзіч пасля смерці брата маёнт Крошын (1715), што быў набыты ад Станіслава і Антаніны з Грамацкіх Нечышэўскіх, гараднічых Троцкага ваяв.

Рг. - Тамаш, каморнік браслаўскі па патэнту падкаморага Крыштафа Стэткевіча (1639), валодаў маёнт. Гінаў і Астаневічы ў Браслаўскім пав., з-за якіх судзіўся з Іванам Раманавічам Астаневічам (1665) і Юрыем

Арамовічам (1674), таксама арандаваў зямлю Юрыя і Ганны з Нешэўскіх Арамовічаў ( у маёнт. Астанeвічы-Кагачоўшчына); Яна і Марыянны з Кастухоўскіх Саламонавічаў, пакінуў сыноў Яна (беспатом.), Казіміра, Уладзіслава (памёр без нашчадка мужчынскага полу) і Базыля, манаха бернардынскага закону, і дачку Соф'ю, у шлюбе за Качаноўскім (з 1677).

З іх Уладзіслаў валодаў маёнт. Зайнава ў Браслаўскім пав., судзіўся з Фёдарам, Леонам і Янам Габрыаловічамі (1672) і віцебскім ваяводам Казімірам Сапегам з-за наездаў на падданых. А Казімір меў сына Багуслава, спадчынніка па бацьку, які ўзяў шлюб з Ваўчэцкай і пакінуў сыноў Францішка, яго жонка з Гінтаўтаў; Тэадора, яго жонка Буроўна; і Станіслава, яго жонка - Давідоўская, што падзялілі спадчыну паміж сабой (1720).

Францішак Багуслававіч меў двух сыноў, якія сталі манахамі аўгустыянскага і бенедыкцінскага законаў. Сын Тэадора Ян, падчашы Мсціслаўскага ваяв., узяў шлюб з Марыяннай Словік, як сведчыць справа з Антоніем і Янам Даўнаровічамі (1740), яго сын Дамінік, судзіўся з нясвіжскімі бенедыкцінамі (1782), пакінуў сыноў Казіміра, Фелікса, яго жонка з Адамовічаў, і Юзафа.

Станіслаў Багуслававіч, падчашы браслаўскі, заяўляў аб крадзяжы каштоўных папераў (1776), пакінуў сына Барталамея, які ад Барбары Лазоўскай меў сыноў Юзафа і Антонія, дзедзічаў зямлі ў вак. Сапліцы, набытай ад Людвіка і Ганны з Куковічаў Сапліцаў (1797).

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***С.Рыбчонак***

## 80. Ісаевічы гербу «Глебка»



Пры вывадзе прадставілі звесткі пра дзве галіны, звязаныя паміж сабой.

Рг.-1 - Ісай Іванавіч, за вайсковыя заслугі атрымаў ад брата ваяводы кіеўскага Яна Якубавіча Неміровіча[1] маёнт. Масцішча ў Наваградзкім пав., які пакінуў сынам Багдану, Івану і Андрэю. З іх Іван загінуў пры аблозе Полацка маскоўскім войскам, а Багдан, што служыў пад началам свайго стрыечнага брата Станіслава Андрэевіча Давойны, старасты пінскага, кобрынскага і мерацкага, апынуўся разам з апошнім у маскоўскім палоне. Андрэй і сын Багдана Ждан засталіся

спадчыннікамі маёнт. Масцішча, што аспрэчвала, напэўна, жонка загінуўшага брата Івана, якая ўзяла другі шлюб. У выніку чаго ваявода полацкі Станіслаў Давойна пацвердзіў лістамі (1565, 1566) належнасць спадчыны Ждану і яго маці Анастассі Сымонаўне, пакуль не вернецца Багдан. Апошні ліст акрамя ваяводы зацвердзілі пячаткамі і подпісамі Міхаіл Шчыт, Яцэк Багданавіч Быстрэйскі, гараднічы полацкі, і Лукаш Багданавіч Гарабурда.

Ждан пакінуў сына Самуэля і ўнукаў Мікалая, Марціна, Пятра, Крыштафа (беспатом.) і Паўла (беспатом.). З іх Пётр, спадчыннік па бацьку 1/4 часткі фальв. Тарасаўшчына (1641), пакінуў сыноў Мікалая і Яна, Мікалай - Яна і Самуэля, а Марцін - Даніэля і Самуэля.

Мікалая Пятровіч пакінуў сыноў Базыля (беспатом.) і Юзафа, у апошняга былі сыны: Гіляры (беспатом.), Караль (беспатом.) і Фларыян, скарбнік наваградзкі, уладальнік маёнт.Буйвідаўшчына. Сыны Фларыяна - Іаахім і Марк, дзедзічы маёнт.Буйвідаўшчына і Бухаўшчына.

Пётр Янавіч пакінуў сыноў Паўла і Пятра, у якога былі сыны Станіслаў, Тэафіл і Мікалай.

Станіслаў Пятровіч меў сыноў Габрыэля, Францішка і Тадэвуша, Тэафіл - Францішка і Антонія, а Мікалай - Баніфацыя, Ігнацыя і Яна, сын апошняга Караль, усе яны былі спадчыннікамі фальв.Тарасаўшчына.

Павел Янавіч меў сыноў Тамаша і Станіслава, у якога быў сын Ігнацы і ўнукі Вінцэнт і Юзаф (беспатом.), а Тамаш Станіслававіч меў сыноў Марціна, Міхаіла і Ваўжынца, яго сын Ян, спадчыннікаў фальв.Тарасаўшчына, што засведчыў квітам пабарца Корсак (1732).

Рт.-2 - Пётр, сын Багдана Ісаевіча, брат Ждана, уплаціў падатак для пахода каралевіча на Маскву, уладальнік фальв.Тарасаўшчына, што пацвердзіў квітам на ўплату падатка пабарца Голуб (1616), пакінуў сына Яна, унука Станіслава і праўнука Фларыяна. Апошні меў сыноў Міхаіла (беспатом.) і Казіміра, у якога былі сыны Мікалай, Антоні і Казімір. З іх Казімір меў сына Адама, Антоні - Тамаша, а Мікалай - Вінцэнта і Гераніма, спадчынных уладальнікаў фальв. Тарасаўшчына і арандатараў фальв. Масцішча.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).[2]

---

[1]Ян Якубавіч Неміровіч быў дзяржаўцам маёнт.Велубь (Уселюб), які пасля яго смерці перайшоў да яго спадкаемцы Станіслава Станіслававіча Давойны.

[2]Разам з імі выводзіўся Фларыян з сынамі Антоніем і Вінцэнтам, спадчынныя ўладальнікі зямлі ў вак. Дашкевічы.

***З.Яцкевіч***

## 81. Кабылінскія гербу «Ладдзя»



Па родаваму паданню паходзілі ад Якуба з Кабыліна, кашталяна гнёзненскага, які сярод іншых падпісаў ліст Караля Казіміра на права Асвецымскаму княству (1454). Пазней род шырока рассяліўся па Вялікапольшчы і Падоллю.

Вядома: Ян К., як сведчыць рукапіс познаньскага каноніка Кабылінскага, быў сурагатарам замест вялікапольскага генерала Яна Зарэмбы ў легацыі да шведзкага Караля Яна (1557).

- Якуб К., падкаморы веленьскі (1568).

- Казімір, падпісаў элекцыю Караля Яна III.

- Крыштаф, напісаў кнігу "Epigrammatum..." (1565).

- Ян-Раман валодаў 10 валокамі пушчы пад назвай Кабылі Востраў у Праснышскім пав. Цэханаўскай зямлі па прывілею мазавецкага князя Конрада (1503), што канфірмаваў Кароль Жыгімонт (1539).[1]

Акрамя згаданай пушчы К. валодалі яшчэ маёнт. Кабыліны (Kobyliny), Кабылякаў (Kobylakow), Карысёў (Korysiow), Шчэпанэк (Szczepanek), Канопкаў (Konopkow), Чажастых (Czarzastych), Влодкаў (Wlodkow), Пятрусаў (Pietrusow), Бірнатаў (Birnatow), Грабавежанеў (Grabowierzaniow) і Пагарэлі (Pogorzeli) у тым жа павеце.[2]

Рт. - Андрэй, меў сына Войцэха (ці Альберта), які далучыў да дзедзічнага маёнт. Кабылякі-Златыкеж (K.-Zlotykierz) зямлю, набытую ад Якуба з Чаргастых Чаргастага (інтрамісія 1590). Яго сын Марцін, як сведчаць квіты ад Яна, сына Мацвея К. за 1598[3]; ад Мацвея, сына Якуба, Чаргастага за 1621, пакінуў таксама сына Войцэха (ці Альберта), дзедзіча таго ж маёнтку, які ў 1638 здаваў у заклад. Адам, сын Войцэха, спадчыннік па бацьку (1667, 1692), ад першай жонкі Малгажаты з Кабылінскіх меў сыноў Мацвея, Пятра і Грыгорыя (беспатом.), ад другой - Марыянны, дачкі Мацвея Рапацкага, - сыноў Марціна, Якуба, Яна, Войцэха і Андрэя і дачку Феліцыянну, што ўзяла шлюб з Каўнацкім (каля 1713).

З іх Мацвей пакінуў сыноў Адама і Войцэха, уладальнікаў маёнт. Кабылякі-Карысі (1731),

што дакупілі зямлю пад назвай Вілкавічы ў фальв.Асавец-Шляхецкі ад Андрэя Асоўскага (1738), а Пётр - сыноў Войцэха, Матэвуша і Сымона, уладальнікаў маёнт. Ходкава і Бірнатаў, якія прадалі спадчыну Валенцію Хадкоўскаму (1786).

Марцін жа пакінуў сыноў Феліцыяна і Антонія (тэстамент 1756), Якуб - сыноў Якуба (беспатом.) і Тамаша, дзедзічаў маёнт. Кабылякі-Шчэпанкі (1775). Ян - сына Паўла, дзедзіча маёнт Пагарэлі, што разам з бацькам судзіўся з Міхаілам Гадомскім (1744); а Войцэх - сыноў Мацвея і Францішка, як сведчыць квіт на выплату ім грошай ад Сымона, Валенція і Станіслава Смаленскіх (1764). Апошнія з іх: Францішак меў сыноў: Тамаша, Грыгорыя, Войцэха і Валенція, дзедзічаў маёнт. Кабылякі-Карысі, а Мацвей - сыноў Лаўрэнція, Яна, Паўла і Караля (яго жонка Брыгіда Мараўская, каля 1794), дзедзічаў маёнт. Кабылякі-Канопкі (1796). Феліцыян, сын Марціна, пакінуў сыноў Себасцьяна і Андрэя, з якіх першы разам з сынамі Юзафам, Юрыем і Францішкам перасяліўся ў Мінскую губ., а апошні быў дзедзічам маёнт. Грабаў і Ражанцы, яго сын Ксаверы.[4]

Сын Мацвея Адамавіча Войцэх меў аднаго сына Паўла (нар. у 1726), што быў альшанскім святаром. Яго брат Адам валодаў маёнт. Кабылякі, Карысі, Шчэпанкі, Асавец і Зямянкі, пакінуў сыноў Валенція (беспатом.), Якуба (нар. у 1733), спачатку стараельненскага ксяндза, а потым каноніка інфлянцкага, і Сымона, ротмістра Наваградзкага ваяв., якія прадалі частку спадчыны Францішку Войцэхавічу Бабру (1772).

З іх Сымон ад Схалястыкі Раецкай меў сыноў Фларыяна (нар. у 1774), шамбяляна Двара Польскага, дэпутата і пісара Галоўнага Суда Літоўскага (1799), і Яна, дачок Тэрэзу, у шлюбе за Марцінкевічам, пісарам гродзкім, і Юзэфу, у шлюбе за Керсноўскім, суддзёй земскім Наваградзкага пав, уладальнікаў маёнт. Парэчын у тым жа павеце, набытым ад мечніка старадубскага Лукаша Камінскага (інтрамісія 1781), а таксама разам з дзядзькам Якубам і іншых маёнткаў у Праснышскім пав.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1]Як сведчыць Каронная Метрыка, Кн. 2, ст. 160.

[2]У 1798 г. знаходзіліся ў складзе Прусіі.

[3]У ім, дарэчы, згадваюцца прывілеі Яну-Раману за 1503 і 1539, выдадзеныя Стэфану К.

[4]Далейшая генеалогія ўсіх ліній, што засталіся ў Польшчы, апушчана.

***С.Рыбчонак***

## 82. Казакевічы гербу «Коўня»



Выводзіліся з Чавускага пав.

Рг. - Тэадор, атрымаў дэкрэт вывадовы ў Магілеўскім намесніцтве (1779), меў сыноў Базыля, Якуба, Сымона і Андрэя. З іх Андрэй, каморнік Пінскага пав., арандаваў на 3 га-ды зямлю ў вак.Куневічы Наваградзкага ваяв., у Антонія і Францішкі з Анцутаў Верашчакаў, што засведчылі інтрамісія і квіт ад Казіміра Мацкевіча, рэгента гродзкага наваградзкага (1797).

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***З.Яцкевіч***

## 83. Казігродзкія гербу «Навіна»



Паходзілі з Пружанскага пав.

Выводзіліся: Андрэй, Каэтан, Фаўстын, Антоні і Ігнацы, сыны Юзафа, унукі Казіміра, што прад'явілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Пружанскага пав. за 1800.

Прызнаны ў дваранстве 20.06.1800.

***А.Гануш***

## 84. Калэнчынскія гербу «Слепаворан»



Вядома: Мяленці К., уладальнік маёнт. Сапацкаўшчына (ці Сцёпкаў), з-за якога судзіўся з Юрыем Куліkоўскім у Берасцейскім судзе. Адам Якубавіч прадаў маёнт. Сапацкаўшчына Дружылоўскім (1610), а потым на-быў ад Цехіньскіх маёнт. Пу-клеўшчына-Кашмяны ў Клецкай парафіі (1637).

Рг. - Ян, валодаў маёнт. Пуклеўшчына, пакінуў сыноў Міхаіла, Антонія і Мікалая. З іх Міхаіл арандаваў в.Клярымонты ў Вайніловіча, меў жонку Ганну, удаву па Шляхне, і сыноў Яна і Юрыя, што давалі дзядзькам квіт у 1756. Антоні арандаваў спачатку маёнт.Нача ў Чаркоўскіх, а потым - маёнт.Даравы ў Рымшаў (1767), яго жонка з Доўбараў, сыны Францішак (беспатом.) і Ігнацы.

Сын Міхаіла Ян, меў у закладзе фальв.Ніжоў, ад шлюбу з Дамінікай Закрэўскай, дачкой лоўчага Ражанскай зямлі, пакі-

нуў сына Станіслава. Апошні - каморнік наваградзкі па патэнту падкаморага Адама Вайніловіча (1784), служыў у кавалерыйскай брыгадзе войск пол. пад началам Міхаіла Сулістроўскага, пазней - кухмістр сталавіцкі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста, яго жонка Караліна з італьянскага роду Данэзі (Danezi).

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 85. Касабудзкія гербу «Побаг»



Рг. - Станіслаў, уладальнік маёнт Каросна ў Наваградзкім пав. (1619), які пакінуў свайму пляменніку Аляксандру. Апошні частку гэтага маёнтка прадаў Яну Казакоўскаму ў 1623, з другой часткі маёнт.Каросна плаціў падаткі (1630 - квіт ад Крыштафа Пракопавіча Калдычэўскага і 1648 - ад Аляксандра Пачапоўскага, паборцаў наваградзкіх). Разам з жонкай Багумілай Давідоўскай меў сына Стэфана, яго сыны: Ян, Якуб і Караль, спадчынныя ўладальнікі фальв. Абідаў, які прадалі ў 1787 Юзафу Сташэўскаму. Выводзіліся іх стрыечныя браты: Станіслаў, харужы войск пол., і Міхаіл[1] паручык войск пол., сыны Бенядзікта і Францішкі.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

[1] Стэфан, памылкова пазначаны дзедам Міхаіла і Станіслава, але па генеалогіі ён атрымоўваецца іх дзядзькам.

***З.Яцкевіч***

## 86. Катлубаі гербу «Марскі кот»



Вядома: Міхаіл і Кацярына з Дашкевічаў Падрэцкія і Казімір і Ганна з Падрэцкіх Звяровічы прадалі Казіміру і Ефрасінні з Курачыцкіх К. фальв. Труднаў (ці Рыдзіншчына) ў Наваградзкім ваяв.

Рг. - Казімір, яго сын Дамінік, а ўнукі - Матэвуш, Аляксандр і Баніфацы. З іх Матэвуш меў сына Францішка, Аляксандр - Вінцэнта, а Баніфацы - Антонія, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1799 г.[1]

Прызнаны ў дваранстве

3(14).03.1799.

[1]У сведчанні таксама згаданы Ян, Сымон і Юзаф К., з якіх Сымон быў запісаны ў вывадзе.
***С.Рыбчонак***

## 87. Кеневічы гербу «Равіч»



Рг. - Юзаф. пакінуў сына Казіміра, які набыў у 1747 фальв.Дарэў у Наваградзкім ваяв. Казімір меў пяць сыноў, з якіх Андрэй і Міхаіл пражывалі на спа-дчынных землях у Пінскім пав. Ян быў плябанам жыжморскім, Габрыэль[1] памёр бесспатомным, а Павел стаў уладальнікам фальв. Дарэў. Сын Паўла Юзаф, ротмістр наваградзкі, спадчыннік па бацьку, таксама прад'явіў у якасці доказаў на шляхецтва сведчанні ўраднікаў і абывацеляў Ашмянскага і Наваградзкага пав. (1761), яго сыны Караль, Тэафіл і Юрый.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

[1]У другім месцы Цыпрыян.
***А.Леўчык, С.Рыбчонак***

## 88. Керсноўскія гербу «Побаг»

Рг. - Павел, пакінуў сыноў Сымона (беспатом.) і Францішка. Сыны апошняга: Багуслаў, суддзя земскі Наваградзкага пав., і Антоні, як засведчыў падчашы троцкі Дамінік Жыжэмскі квітацыйным лістом, дадзеным Юзафу, Дамініку і Іаанне з Ярмаловічаў Зубкам і іх бацьку (1774). З іх Багуслаў - спадчыннік маёнт. Дарэў у Наваградзкім пав. па бацьку і брату.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).
***С.Рыбчонак***

## 89. Керсноўскія гербу «Побаг»

Рг. - Тэадор, пісар гродзкі наваградзкі, за вайсковыя паслугі атрымаў ад Караля Яна-Казіміра староства Гарадзечанскае (прывілей 1665). Сын Тэадора Людвік, лоўчы старадубскі, таксама валодаў староствам Гарадзечанскім, што пацвердзіў дэкрэт задворна-асэсарскага суда ВКЛ (1740), пакінуў сыноў Адама і Гераніма, спадчыннікаў маёнт.Гарадзечна і Ізва-Пятровічы. Адам меў сыноў Яна, стольніка віцебскага, Марка, Валерыяна, Міхаіла і Юзафа, спадчынных уладальнікаў вы-

шэй згаданых маёнткаў.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 90. Клачкоўскія гербу «Агоньчык»



Вядома. дэкрэт па справе кн. Уланаў з Снарскімі і Клачкоўскімі (1689).

- экстракт зрачнога дакументу ад К. Малюшыцкім (1756).

Рг. - Крыштаф. меў сыноў Яна (яго тэстамент 1676). Адама і Міхаіла. З іх Міхаіл пакінуў сыноў Антонія і Аляксандра, у якога былі сыны Ян, Антоні і Мікалай.

Ян пакінуў сына Юзафа і ўнукаў Ігнацыя і Дамініка, з якіх Ігнацы набыў фальв. Пласкаўшчына ў Наваградзкім пав. ад Завішаў (1790). меў сына Караля, а Дамінік пакінуў сыноў Ігнацыя і Юзафа. Таксама прадставілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў і абываццеляў Наваградзкага пав. за 1782.

Прызнаны ў дваранстве 4.01.1801.

***З.Яцкевіч***

## 91. Кміты гербу «Кміта»



Валодалі шматлікімі ўладаннямі ў Мсціслаўскім, Ашмянскім. Пінскім, Гарадзенскім, Ваўкавыскім, Лідзкім. Наваградзкім пав. і княстве Жамойцкім.

Рг - Радзівон Шацкевіч К., валодаў маёнт. Беразавец, Крынкі, Сэрвеч, Пачапаў у Наваградзкім пав., пакінуў сына Міхаіла. Апошні ўзяў па прывілею кн.Івана Яраслaвіча ленны маёнт.Каменка Клецкага княства. і падзяліў яго паміж сынамі: Іванам, Раманам і Крыштафам у 1576.

Крыштаф пакінуў сваю частку дачкам, Іван прадаў сваю частку Раману. Апошні ажаніўся з Марыяннай Гарабурдай, з якой меў сыноў Андрэя, Івана і Даміяна, якія падзялілі ў 1599 маёнт. Каменка.

Сын Рамана. Іван адпісаў у 1604 240 коп грошай літ. сваёй жонцы Ганне Багушэвічаўне Мінкоўскай. меў сына Яна-Альбрэхта. Апошні разам з жонкай Юстынай Чаркоўскай меў справы з Камінскімі ў Наваградзкім гродзкім судзе (1650), наконт права застаўнага на маёнт.Каменка.

Дачка Яна-Альбрэхта, Ма-

рыянна разам з мужам Аляксандрам Малюшыцкім адпісала чацвёртую частку маёнт.Каменка свайму роднаму брату Казіміру ў 1683. Апошні, згодна квіта Камароўскага (1698), кухмістра ВКЛ і палкоўніка наваградзкага, служыў у войску ВКЛ, ажаніўся з Кацярынай Ромераўнай каля 1681. Пакінуў дзяцей: Мікалая і Элеанору, апошняя разам з мужам Уладзіславам Данейкам адпісала чацвёртую частку маёнт.Каменка свайму брату Мікалаю ў 1720. Мікалай, згодна прывілея Караля Аўгуста III ад 1732, стольнік Смаленскага ваяв., разам з жонкай Сюзаннай Далматоўнай (каля 1727) меў сыноў Аляксандра, манаха іезуіцкага закону, а па яго ліквідацыі - каноніка Інфлянцкага, і Іаахіма.

Іаахім і жонка Кунегунда-Францішка Бялахоўская, дачка чашніка падляскага, прадалі маёнт.Каменка Міхаілу Еленскаму, падстарасце судоваму мазырскаму ў 1771. Іаахім працаваў контррэгістрантам рэпарацый літ. у Скарбе Рэчы Паспалітай, што засведчыў крэдэнсам Антоні Тызенгаўз, падскарбі надворны ВКЛ (1766), суддзя земскі наваградзкі па крэдэнсу ваяводы кн.Юзафа-Аляксандра Яблонскага (1769), праводзіў люстрацыю падаткаў Аршанскага пав. (1773), таксама люстратар маёнткаў забароненага ордэна іезуітаў у Наваградзкім ваяв. (1773), што засведчыла квітам Адукацыйная камісія, камісар па збору падатка "ахвяры дзесятага гроша" (1788). У 1792-1795 абіраўся суддзёй земскім наваградзкім, а таксама шляхецкім дэпутатам Наваградзкага пав.

Сын Іаахіма Ігнацы-Эразм, камісар цывільна-вайсковы Наваградзкага ваяв., дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ у 1764, валодаў маёнт.Пуцэвічы і Каменка ў Наваградзкім ваяв., яго жонка Караліна Корсак.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***З.Яцкевіч***

## 92. Карафа-Корбуты гербу «Корчак»



Выводзіліся з Хелмскай зямлі Валынскага ваяв. Генеалогія першых каленаў слаба распрацавана, таму што дужа аўтэнтычных Соймавых дакументаў загінула ў Вільні ў 1702, як засведчыў маніфестам стараста жамойцкі Агінскі, у 1716 пад час спалення двору ў Магілёве (маніфест Пётуха), і ў 1746, калі згарэў двор Красноўскі, што за-

сведчыла маніфестам Рэгіна з Камінскіх К., жонка стольніка старадубскага.

Па родаваму паданню паходзілі ад Паўла і Мацвея, якія вызначыліся пад час войнаў з крыжакамі і туркамі. За ўдзел у апошняй Кароль Уладзіслаў III надаў Мацвею маёнт. Корбутава Воля ў Валынскім ваяв. Таксама К. валодалі маёнт. Вішаў (Слонімскі пав.), Крыжановічы (Ваўкавыскі пав.), Пакольна (Вілкамірскі пав.). Горчыцы і Змаргіны (Польскія Прусы), Шчэцінкі на Запушчанскім тракце, Зялёны Кубак у Полацкім ваяв., Брыкаўская і Грозаўская асады, што пацвярджаюць прывілеі Караля Жыгімонта I (1532) і кн. Алелькавіча (1538) - Пятру К.

Таксама вядома: Мікалай, чашнік літ., пакінуў сына Тэадора, палкоўніка войск пол. і харужага валынскага.

- Марцін, канюшы ашмянскі, стараста красноўскі (1718), стольнік старадубскі і суддзя задворны-асэсарскі, спадчыннік маёнт. Краснае (Старадубскі пав.), склаў тэстамент у 1736.

- Геранім, служыў генералам у войску рас. за панаваннем Пятра I пад прозвішчам Корбаў, удзельнік Паўночнай вайны, забіты ля Дзятлава.

- Міхаіл, стараста красноўскі, выводзіўся ў Мсціслаўскім земскім правінцыйным судзе (1775).

Рг. - Андрэй, дзедзіч маёнт. Рутка ў Наваградзкім ваяв., ад жонкі Рэгіны з Грышкевічаў меў сыноў Казіміра і Стэфана, паручыка пяцігорскага і рэгіментарыя літ., што засведчыў Грыгоры-Антоні Агінскі, генеральны стараста жамойцкі і гетман ВКЛ (1709). З іх Казімір, уладальнік маёнт. Жальвінец, які набыў ад кн. Мікалая-Фаўстына і Барбары з Завішаў Радзівілаў (1724), і Касарычы, які набыў ад Яна, суддзі гродзкага рэчыцкага, і яго жонкі з Эйсымонтаў Дэраэс (1728), узяў шлюб з Марцыяннай Главацкай і меў сыноў Ігнацыя, Юзафа і Леона, з якіх апошні ад жонкі з Каранеўскіх пакінуў дачок Апалонію і Кацярыну.

Ігнацы, уладальнік маёнт. Волца ў Наваградзкім пав., які прадаў Станіславу Шаціле (1770), меў жонку з Камароўскіх і сыноў Вінцэнта і Юзафа. З іх апошні быў дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1788), камісарам цывільна-вайсковым і парадкавым Наваградзкага ваяв., суддзёй земскім наваградзкім і сталавіцкім, чашні-кам Наваградзкага ваяв. па прывілею

Караля Станіслава-Аўгуста (1784), уладальнік маёнт. Ужанка і Рудаўка, што набыў ад Плятэраў, і Гарадзея, што набыў ад Есьманаў, таксама арандаваў маёнт. Заценеў і Грэск у кн. Радзівілаў, яго жонка з Гінтэраў, дачка стольніка наваградзкага, сыны Міхаіл і Карнэліўш.

Юзаф, ажаніўся ў Аршанскім пав. з Канстанціновічаўнай, меў сыноў Ігнацыя, Тамаша, каморніка пінскага, Фларыяна, харужага, і Антонія, падпаручыка войск пол.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***З.Яшкевіч***

## 93. Коршуны гербу «Брохвіч»



Рг. - Якуб, сын Мікалая, уладальнік маёнт. Тараевічы, які набыў ад Антонія і Брыгіды з Айцюшкевічаў Тараевічаў (1759). Жонка Якуба - Эльжбета з Тараевічаў, сыны Тадэвуш і Юзаф, спадчыннікі па бацьку, што пацвердзіў таксама крэдэнсураднікаў і абываццеляў Наваградзкага пав. за 1800. Тадэвуш меў сына Юрыя.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 94. Астроўскія-Куневічы гербу «Порай»



Зямяне Наваградзкага ваяв. Паводле родавага падання валодалі маёнт. Гружэнікі і Русоцін.

Рг. - Юзаф, сын Ігнацыя, уладальнік фальв. Труднаў і Саваняўшчына, якія набыў ад Лімонтаў (1610, 1639). Яго сыны: Мікалай, Ян, Самуэль і Давід, як сведчыць дэкрэт з тымі ж Лімонтамі (1638). Давід пакінуў сыноў Пятра і Самуэля, што атрымалі спадчыну ад жонкі і дачок Стэфана Куневіча (1716)[1]. З іх Пётр меў сярод іншых сына Дамініка, а той сыноў Міхаіла і Юзафа, што засведчыў тэстаментам у 1768.

З іх Міхаіл, каморнік ковенскі па патэнту падкаморага таго ж павета Тадэвуша Ваўжэцкага (1786), рэгент гродзкі і касір Наваградзкай цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі (1790), пісар

земскі, а пасля наваградзкі земскі і гродзкі рэгент (1792).

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

[1]Стэфан у генеалогіі не пазначаны.

*С.Рыбчонак*

## 95. Курачыцкія гербу «Самсон»



Ужывалі родавы прыдомак Санютыч (Saniutycz).

Вядома: Юзаф К., што здаваў у заклад фальв. Курачыцы Мікалаю і Гальшке з Курачыцкіх Пантусам (1676), нашчадкі якога прадалі спадчыну абознаму інфлянцкаму Яну Цывінскаму.

Выводзіліся: Сымон, сын Міхаіла, унук Стэфана, праўнук Тэадора, прапраўнук Юзафа, дзедзіч фальв. Болчыцы ў Гарадыскай парафіі, з сынамі Станіславам, Вінцэнтам і Марцінам; Вінцэнт, Лаўрын, Мацвей і Іаахім, сыны Гераніма, унукі Сымона, праўнукі Габрыэля, дзедзічы фальв. Шантыры ў Варанчанскай парафіі; Антоні, сын Станіслава, унук Паўла, праўнук Габрыэля, дзедзіч фальв. Тараевічы, з сынам Ігнацыем; Лаўрэнці, сын Віктара, унук Францішка, праўнук Габрыэля, дзедзіч фальв. Куневічы.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*С.Рыбчонак*

## 96. Крыўкоўскія гербу «Паўкозіц»



Выводзіўся Францішак, сын Міхаіла Пятровіча, стольніка Слонімскага пав.

У якасці доказу на шляхецтва прад'явіў сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Слонімскага пав. (1786).

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

*А.Шпунт*

## 97. Крышылоўскія гербу «Адравонж»

Па родаваму паданню паходзілі ад Міхаіла, сына Васіля, уладальніка маёнт. Якімаўка з вв. Залужжа і Апушкі ў Наваградзкім пав., які прадаў згаданы маёнтак Кацярыне Сканіцянцы, жонцы старасты рэчыцкага кн. Аляксандра Міхайлавіча Вішнявецкага (1562), што пацвердзіў асобным прывілеем Кароль Жыгімонт-Аўгуст (1562).

Рг. - Міхаіл, уладальнік маёнт. Уняхоў-Крышылоўшчына, які яго продак Цімафей атрымаў

ад гр. Юрыя Іллініча. Сын Міхаіла Адам, лоўчы Наваградзкага ваяв., спадчыннік па бацьку (1697), ад першай жонкі Элеаноры Быкоўскай меў сыноў Бенядзікта і Канстанціна, ад другой - Рахелі Магільніцкай - сыноў Міхаіла



і Яна, паміж якімі падзяліў спадчыну (тэстамент 1714).

З іх Міхаіл, напачатку канюшы, а пазней суддзя земскі наваградзкі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1765), ад жонкі з роду Крываблоцкіх пакінуў сына Яна, дзедзіча маёнт. Уняхоў-Крышылоўшчына, жонка апошняга - Хмялеўская.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***С.Рыбчонак***

## 98. Ласоўскія гербу «Прус III»

Выводзіліся: Ян з сынамі Вінцэнтам, Стэфанам і Антоніем; Антоні з сынам Аляксандрам; Феліцыян; Захарыуш; Ян з сынамі Янам, Антоніем, Якубам і Людвікам; Ян з сынамі Мацвеем і Маршінам; Андрэй з сынам Станіславам Л., што ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ураднікаў і абывацеляў Слонімскага пав. за 1796.



Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 99. Лембеўскія гербу «Януш»[1]

Рг. - Пётр, выкупіў закладны фальв. Зайкаўшчына ў Наваградзкім ваяв. Андрэя і Рэгіны з Капыстэнскіх Дарэўскіх (1693), меў жонку Ефрасінню з Берасьневічаў і сына Людвіка, што набыў фальв. Дарэў-Цві-раўшчына (Наваградзкае ваяв.) ад Яна Сегеня (1769). Апошні ўзяў шлюб з Іааннай Зублеўскай, ад якога меў сына Антонія, спадчынніка вышэйзгаданага маёнтку (1785).

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

[1] Герб вядомы толькі з назвы.

***С.Рыбчонак***

## 100. Лешчылоўскія гербу «Лебедзь»

Ужывалі родавы прыдомак Кахановіч (Kochanowicz).

Выводзіліся з маёнт.Ляшчылаў у Полацкім ваяв., паперы на які загінулі ў 1604.

Рг. - Васіль, каморнік Наваградзкага ваяв., дваранін ЯКМ, набыў ад Юзафа Васілевіча



Бокія маёнт. Обрынка (1568), а таксама маёнт. Мацешыцы ад дваюрадных братоў Андрэя і Багдана Іванавічаў Л. (1577), яго жонка - Ганна з Волкаў, сыны Яраш, Хвєдар, Андрэй, Станіслаў і Ян. З іх два першых прадалі спадчыну ў маёнт.Мацешыцы, Андрэй пакінуў сыноў Багдана і Самуэля. Станіслаў перасяліўся ў маёнт.Ляшчылаў, а Ян - спадчыннік маёнт.Мацешыцы, узяў шлюб з Рэгінай з Аколавых, яго сыны Адам, Ян-Аляксандр (яго тэстамент 1671) і Эліяш, што пацвердзіў харужы Навагрудзкага ваяв. Матэаш Францкевіч-Радзімінскі (1648).

Адам пакінуў сына Фларыяна, які прадаў сваю долю спадчыны ў маёнт.Мацешыцы, Эліяш ад шлюбу з Марыяннай Пятровіч меў сына Якуба, які перасяліўся ў Аршанскі пав. А Ян-Аляксандр, спадчыннік па бацьку, дваранін ЯКМ, што падцвердзіў лістом падканцлер ВКЛ Аляксандр Нарушэвіч, яго жонка Анастасся з Жукоўскіх, сыны Аўгусцін (беспатом.) і Лукаш, таксама дваранін ЯКМ. Жонка апошняга - Магдалена Бандзічоўна[1], сыны Ян (беспатом.), Уладзіслаў і Пётр.

З іх Уладзіслаў узяў шлюб з Барбарай Войніч і пакінуў сына Казіміра. Сыны апошняга і Феліцыянны з Бурынскіх: Францішак, меў жонку Канстанцыю з Ладзятаў і сыноў Юрыя і Людвіка, Ян і Уладзіслаў[2]. А Пётр ад жонак Ганны Войніч і Марыянны з Грэчыхаў меў сыноў Юзафа (памёр у малалецтве), Фларыяна і Антонія. Апошні ўзяў шлюб з Даротай Гаціскай, ад якога меў сына Ігнацыя, спадчынніка па бацьку (1787), яго жонка Ганна Гаўрылкевіч, сын Бенядзікт.

Прызнаны ў дарanстве 26.05.1800.

---

[1] Мажліва Барадзічоўна.
[2] У другім месцы - Вашлаў.

***С.Рыбчонак***

## 101. Лібарчаі гербу «Налэнч»



Вядома: Марцін Юр'евіч і Рэгіна з Такачэўскіх Крыштафовічы-Ваўканоўскія падарылі 1/2 частку фальв. Ваўканоша ў Наваградзкім ваяв., званую Русілаўка, Міхаілу і Крысціне з К.-Ваўканоўскіх Лібарчаям (1692).

- Ян Дарэўскі, падстолі сма-

ленскі, прадаў Казіміру-Ігнацыю Л.-Скалгвінскаму, мастаўнічаму Наваградзкага ваяв., маёнт. Дарэў-Гуцоўшчына (1713).

- Аб'юрата Яна Л. і квіт паборавы ад Антонія Вайніловіча, скарбніка слонімскага і камісара Наваградзкага ваяв., яму ж з маёнт. Ваўканоша (1716).

Выводзіліся Бенядзікт з пляменнікамі Паўлам, Каралем і Казімірам.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак***

## 102. Ліноўскія гербу «Помян»



Рг. - Мікалай, меў у закладзе (1652) за 400 злотых пол. дзве валокі зямлі ў в.Загоча з маёнт. Сачэўкі ў Наваградзкім пав. ад Даніэля і Ганны з Шэметаў Аўсяных, падсудкаў ваўкавыскіх. Яго сын Казімір валодаў адной закладной валокай зямлі па тэстаменту бацькі (1669) таксама ў Загочы. Сын апошняга Якуб арандаваў валоку зямлі ў в. Мялехавічы з маёнт.Стайкі (Наваградзкі пав.) у Станіслава, лоўчага наваградзкага, і Адама, старасты вірдзіньскага ...[1] (1734), пакінуў сыноў Даміціка (беспатом.), Антонія (беспатом.) і Паўла. З іх Павел меў сыноў Юзафа, яго сын Антоні, які арандаваў у Гераніма і Марцыянны Галаўнёў фальв. Скураты (Наваградзкі пав.), Яна і Вінцэнта.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1]Прозвішча не пазначана.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 103. Ляткоўскія гербу «Порай»



Рг. - Ян, сын Лукаша, уладальнік маёнт. Чашуйкі (ці Ляткава) і Качалава ў Наваградзкім ваяв., з якіх здаваў першы ў заклад Калявам (1699), меў жонку Хрысціну з Крыгераў і сыноў Самуэля, Станіслава і Паўла. З іх Самуэль адсудзіў ад Ганны з Сангушкаў кн. Радзівіл, жонкі канцлера вял. літ., што знішчыла паперы Л. на належныя ім маёнткі, частку спадчынных земляў (інтрамісія 1765), пакінуў сыноў Станіслава, яго сын Леон, Ігнацыя, Яна, Міхаіла, Францішка і Юзафа.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

## 104. Магнушэўскія гербу «Агоньчык»



Рг. - Тамаш, уладальнік маёнт. Магнушкі ў Кнышынскай парафіі Мазавецкага княства, пакінуў сына Лукаша (нар. у 1681). Апошні валодаў таксама фальв. Шацілы-Куліkoўцы ў Бельскай зямлі Падляскага ваяв., які набыў ад Адама Пясецкага (1731), мяняўся зямлёй з Францішкам Канопкай і Зыгмунтам Залескім (1734) і з Адамам Куліkoўскім (1734), купіў у бельскага мечніка Зыгмунта Кужэнеўскага селяніна - Себасцьяна Кнія з жонкай і дзецьмі (1729).

Сыны Лукаша: Барталамей, Станіслаў, Адам, Пётр і Ян, з якіх Ян меў сына Аляксандра, што перасяліўся ў Княства, атрымаўшы перад тым сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Чэрскай зямлі (1790). А Пётр, спадчыннік па бацьку, пакінуў сыноў Францішка, Войцэха, Андрэя, Мікалая, Вінцэнта і Яна, што перасяліліся ў Наваградзкі пав. да свайго дзядзькі, стараельненскага алтарыста.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

*С.Рыбчонак*

## 105. Маджарскія гербу «Дар»



Выводзіліся з Венгрыі.

Рг. - Міхаіл, служыў у аўстрыйскіх войсках пад началам кн. Еўгеніўша, пасля бітвы пад Белградам папаў у турэцкі палон, быў выкуплены з рабства адным купцом, пакінуў сына Нуму. Апошні памёр у Канстанцінопалі (каля 1780), меў жонку Люцыю і сына Яна. Ян перасяліўся ў Княства, пакінуў сына Леона, народжанага ў Канстанцінопалі, які паводле Канстытуцыі 1790 атрымаў шляхецтва РП. Леон[1] набыў ад Міхаіла Радзішэўскага, маршалка сталавіцкага, фальв. Драгабыль і Красевічы ў Наваградзкім пав. (1795), меў сыноў Антонія і Яна.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1] Заснавальнік фабрыкі слуцкіх паясоў спачатку ў Нясвіжы, а потым у Слуцку.

*С.Рыбчонак*

## 106. Маеўскія гербу «Стары конь»

Ужывалі гербавы прыдомак Налэнч.

Рг. - Казімір, уладальнік маёнт.Бердаўка ў Навагрaдзкім ваяв. (1650), ад жонкі з Корсакаў меў сыноў Міхаіла і Юрыя. З іх Міхаіл, дзедзіч фальв. Равіны (1742), меў трох жонак: першую - з Тупальскіх, другую - з Чэркаскіх, і трэцюю - з Вольскіх, пакінуў сыноў Матэвуша, Тыбурцыя і Алаізія. Сыны Матэвуша: Ігнацы і Ануфры. Алаізі меў сыноў Людвіка, паручыка войск рас., Казіміра, які з жонкай Завадзкай перасяліўся ў Мазырскі пав., і Яна, што жыў на Беларусі.[1]



Другі сын Казіміра Юрый, дзедзіч фальв.Орды (1741), яго жонка Лешчылоўская, сыны Францішак і Пётр. З іх Францішак валодаў таксама фальв.Тарасаўшчына, судзіўся з Фларыянам і Каралем Ісаевічамі (1745), з жонкай Іааннай Раецкай меў сыноў Юзафа і Антонія. Юзаф быў дваранінам Скарбу ВКЛ і ротмістрам навагрaдзкім, акрамя маёнт.Трасейкі валодаў яшчэ фальв. Равіны (абодва ў Навагрaдзкім пав.), які набыў ад Яна, суддзі земскага, Пятра, гараднічага, Ігнацыя, шамбяляна Двара Польскага і камісара цывільна-вайсковага і парадкавага, ураднікаў Мінскага ваяв., і Тадэвуша, каноніка велёнскага, Паўлікоўскіх, меў жонку з Сасіновічаў, сына Адама. А Антоні ўзяў шлюб з Зыгмунтовічаўнай і перасяліўся ў Троцкае ваяв.

Брат Францішка Юр'евіча Пётр ад жонкі з Лашчэўскіх пакінуў сыноў Міхаіла, віцебскага земскага пісара, які меў жонку з Залескіх, і Тадэвуша, што таксама пражываў на Беларусі, яго жонка Янкоўская.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1]Напэўна, меліся на ўвазе т.зв. беларускія губерні - Віцебская і Магілёўская.

*С.Рыбчонак*

## 107. Макавецкія гербу «Помян»

Выводзіліся з Кароны.

Вядома: Аляксандр, з Падляскага ваяв., і Валенці, з Цэханаўскай зямлі, Альбрэхт, пісар гродзкі слонімскі, і Крыштаф М. з Навагрaдзкага ваяв. былі на элекцыі Караля Ўладзіслава IV (1632).

Рг. - Геранім, сакратар ЯКМ і маршалак ВКЛ, перасяліўся ў Навагрaдзкае ваяв., уладальнік маёнт. Сенічыцы, Красвічы, Навасады,Малавіды,Крышылoвічы, Лагодкі і Янавічы ў тым жа ваяв., а таксама маёнт. Высо-



кае ў Падляскім ваяв., якія часткова набыў, а часткова атрымаў ад надворнага маршалка ВКЛ кн. Мікалая-Крыштафа Радзівіла (1579), яго жонка Косаўна, сын Геранім.

Геранім узяў шлюб з Ганнай Радзімінскай-Францкевіч, пакінуў сыноў Мікалая, Пятра-Казіміра, Людвіка, Альбрэхта, Крыштафа і Юрыя (беспатом.). З іх Мікалай, дзедзіч маёнт. Высокае ў Падляскім ваяв., меў жонку з Заранкаў. Пётр-Казімір, падваявода наваградзкі, а потым кашталян парнаўскі, узяў жонку з Радванаў і пакінуў сыноў Марціна (беспатом.), Уладзіслава (беспатом.) і Стэфана, з якіх апошні ад Ганны Вольскай, дачкі скарбніка наваградзкага, меў таксама трох сыноў. А Людвік ажаніўся з Кацярынай Камінскай, яго сын Міхаіл[1], узяў жонку Соф'ю з Карызнаў, з якой меў сыноў Яна, мечніка наваградзкага, яго жонка - Ганна з Шэметаў, у першым шлюбе за Жэмбоцкім, Юрыя, Эліяша (беспатом.), Даміціка-Антонія і Аляксандра.

Сын Міхаіла Юрый ад жонкі Рахелі Жэмбоцкай пакінуў сыноў Валерыяна, яго жонка Скурчанка, а пра іх нашчадкаў невядома, і Юзафа, яго жонка Палубінская. Апошні меў сыноў Антонія, прэзідэнта 2-га дэпартамента Магілеўскага галоўнага суда, яго жонка Зубоўская (?), Тадэвуша, манаха базыліянскага закону, і Яна-Казіміра, харужага, падкаморага, маршалка, і, нарэшце, кашталяна (1798) Слонімскага пав., і дачку Элеанору, у шлюбе за палкоўнікам Пятровічам. Юрый, магчыма, меў яшчэ аднаго сына Сымона, мечніка мсціслаўскага, якому беспатомны дзядзька Эліяш Міхайлавіч разам з жонкай Схалястыкай Вайніловіч пакінуў сваю маёмасць, яго жонка - Панятоўская, сын Каспер-Фелікс, падстолі і суддзя гродзкі мсціслаўскі, што ўзяў шлюб з Ганнай Котаўнай, дачкой падкаморага мазырскага, ад якой меў сына Тадэвуша, яго жонка Бенклеўская, што нашчадкаў не пакінулі.

Брат Юрыя Аляксандр Міхайлавіч меў жонку з Мержэеўскіх і сына Ігнацыя, лоўчага старадубскага. Апошні ўзяў шлюб з Дунін-Баркоўскай, пакінуў сыноў Міхаіла (беспатом.) і Фелікса, канюшага Наваградзкага пав., які ад жонкі з Ельцоў, у першым шлюбе за Тулоўскім, меў сыноў Юзафа і

Клеменса.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1] Міхаіл быў войскім старадубскім.

***З.Яцкевіч***

## 108. Маклокі гербу «Граблі»



Рг. - Леў Міхайлавіч, уладальнік маёнт. Хлопічы ў Наваградзкім ваяв., які набыў ад Гальшкі Янаўны Гайко, у другім шлюбе за харужым наваградзкім Паўлам Падарэўскім, і яе сыноў Мікалая і Адама П. (1585). Жонка Льва Марына з Падарэўскіх, сыны Беняш, Пётр і Павел (беспатом.), што падзялілі спадчыну паміж сабой (1617). З іх Павел, дзедзіч згаданага маентка, як сведчаць квіты падчашага і паборцы Наваградзкага ваяв. Людвіка Пратасевіча (1661), паборцы Стэфана Ляшчылоўскага (1673), падстолія Троскі і паборцаў Станіслава Керсноўскага і Рафаіла Пшэрадоўскага (1685), пакінуў яго братам. Беняш меў сына Паўла, яго сыны Зыгмунт, Пётр і Юрый, а Пётр - сына Альбрэхта-Яна (беспатом.), уладальніка маёнт Ястрэмбль у Наваградзкім пав., які пакінуў пляменнікам (тэстамент 1685).

Зыгмунт меў сына Антонія і ўнукаў Юзафа, Тадэвуша і Ігнацыя, што памерлі беспатомнымі. Юрый пакінуў сына Пятра і ўнукаў Юзафа, шамбяляна Двара Польскага, і Матэвуша, гранічнага камісара Наваградзкага ваяв., уладальнікаў маёнт. Хлопічы, якія прадалі спадчыну кароннаму сакратару Міхаілу Граноўскаму (1786), таксама набылі фальв. Міхалоўшчына ў Наваградзкім пав. ад Феліцыяна Міхалоўскага (1791). З іх Юзаф ад жонкі Ганны, дачкі абознага слонімскага Пшэслаўскага, меў сына Фелікса.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 109. Малынічы гербу «Юноша»



Ужывалі родавы прыдомак Амаліцкія (Amolicki).

Рг. - Яраслаў, атрымаў у пасаг за жонкай Марыяннай Цярпіцкай фальв. Церніхаў-Сабаншчына (1699), яго сыны Ян, Антоні і Юзаф. З іх

Антоні, спадчыннік па брату Юзафу фальв. Сабаншчына (1740), пакінуў сыноў Барталамея, яго сыны Андрэй і Аляксандр, Сымона, Лаўрэнція, яго сын Адам, Караля і Міхаіла, яго жонка з Варатынцаў. Усе яны дзедзічы маёнт. Сабаншчына.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 110. Малюшыцкія гербу «Радван»



Вядома: - ліст Вял. кн. Аляксандра да навагрúдзкага намесніка Літавор-Храптовіча, каб ён Барыса Астапкавіча з братамі М. не прымушаў спраўляць павіннасці да іх не належныя.

- ліст Караля Казіміра да наваградзкага намесніка Судзімонта, што Астапка Гаўрылавіч М. Яго Каралеўскай Міласці "з даспехам" служыў і ад інш. павіннасцей вызвалены (1445).

- ліст Станіслава Гаштальда, ваяводы наваградзкага, да татараў Ахмеця Улановіча, Адка Маркевіча і інш., каб яны Івашку Астапкавічу М. з братам крыўд не рабілі.

- ліст Яна Забжэзінскага, маршалка земскага і ваяводы наваградзкага, да Івана Мастыкі і Андрэя Чыжа, каб яны Астапку Івашкавіча М. з татарамі Адкам Маркевічам і Махмецем Улановічам рассудзілі (1517).

- Сямён Федкавіч з Малюшыц разам з Марцінам Дзершковічам і Жданам Навошыцам адны з першых запісаліся ў наваградзкую харугву пад час паспалітага рушання ў 1528, доказам чаму дэкрэт рэвізорскі Яраша Пясецкага, пісара польнага літ., героньскага, ліпнішскага і дзевянішскага старасты, і Яна Кердзея, пісара земскага ашмянскага; і ліст кн. Яцка Чымбаевіча Улана, які ўступіў ім землі, якімі яны валодалі, атрымаўшы ўзамен іншыя.

- квіты на выплату падаткаў з маёнт. Малюшыцы за 1553-1629.

Рг. - Васіль Багданавіч, валодаў разам з братам Сямёнам, у якога быў сын Мікалай, вотчынай Малюшыцы ў Навагрáдзкім пав. Сыны Васіля Іаахім, Ян, Самуэль і Адам, а таксама Мікалай Сямёнавіч судзіліся ў 1629 з кн. Чымбаем Уланам, каралеўскім харужым, не жадаючы быць яго леннікамі. Сын Іаахіма Сымон, уладальнік часткі маёнт. Малюшыцы, якую выкупіў разам з бацькам у братоў таго (1666), купіў разам з бацькам у Самуэля Катарскага шэсць падданых з сем'ямі

(1673), якіх пасяліў ў вотчыне, з 1688 спадчыннік маёнт. Малюшыцы, таксама валодаў маёнт. Волца, які набыў ад Тамаша Яховіча-Баўчэцкага, пакінуў сыноў Тадэвуша і Яна.

З іх Тадэвуш меў сыноў Андрэя, ротмістра пяцігорскай харугвы (звольнены са службы абшытам Караля Аўгуста III ў 1761), яго сыны Базыль, ротмістр Пружанскай харугвы (звольнены ў 1773), Сымон і Юзаф; Яна, ротмістра войск пол., яго сыны Міхаіл, Ян і Яўсеві (ці Юзаф); і Даніэля.

А Ян Сымонавіч меў сыноў Юзафа, яго сын Вінцэнт, і Францішка, яго сын Ігнацы, якія ўсе прадалі спадчынны маёнт. Малюшыцы за 29000 злотых пол. Адаму і Тэадоры Браньцам (1774), застаўшыся ўладальнікамі маёнт. Волца.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 111. Манкевічы гербу «Любіч»

Паходзілі з Троцкага ваяв.

Рг. - Ян, спадчынны ўладальнік маёнт. Шадзюнцы Троцкага пав., ажаніўся з Люцыяй Клідзянкай, якая адпісала маёнт. Клідзеў у 1692 свайму сыну Юрыю. Апошні акрамя гэтага маёнтка валодаў маёнт. Шадзюнцы, меў сына Дамініка,



хрышчанага ў Высокадворскім касцёле ў 1700, спадчынніка вышэй згаданых маёнткаў.

Сын Дамініка. Юзаф набыў фальв. Явойцішкі Троцкага пав. у 1767. Пакінуў сыноў Яцка і Вінцэнта, спадчыннікаў фальв. Явойцішкі. Згодна метрыкі Высокадворскага касцёла ў Вінцэнта быў сын Ануфры (запіс 1774).

Прызнаны ў дваранстве 29.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 112. Маркевічы гербу «Лебедзь»



Выводзіліся з Аршанскага пав.

Рг. - Казімір, уладальнік фальв. Лесна ў Аршанскім пав., які ў 1669, пакінуўшы сабе частку ў 15 валок, прадаў Войцэху і Марыянне Сарафіновічам, перасяліўся ў Слонімскі пав. Меў жонку Кацярыну Глухоўскую, з якой арандаваў маёнт. Смакатоўшчына Слонімскага пав. Яго сыны: Пётр (беспат.) і Ян-

Антоні, чашнік оўруцкі, а таксама дачка Тэафіля. Ян-Антоні арандаваў фальв.Якімовічы (1732), які належаў Бжастоўскім. Гопэны, дзедзічы Смакатоўшчыны, выкупілі ў яго і маці гэты фальварак. Набыў фальв.Гладкоўшчына, які пакінуў сваймy сыну Яцку (тэстамент 1751). Яцак, стараста кружунскі, гэтае старасва пазней перадаў Карыцкім (1788), меў швграў Сулятыцкіх. Пакінуў сыноў Казіміра, харужага войск літ., уладальніка маёнт.Мосьнеж, Ануфрыя, войскага галіцкага, Матэвуша ды Яна, старасціцаў кружуньскіх.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

***З.Яцкевіч***

## 113. Марцінкевічы гербу «Лебедзь»



Выводзіліся з Віленскага, Лідзкага і Упіцкага пав.

Рг. - Ян, меў сыноў Яна і Юрыя, з якіх Юрый узяў шлюб з Кацярынай Догелеўнай. Сыны Юрыя: Ігнацы, манах францысканскага закону, Юзаф і Міхаіл, каморнік наваградзкі, што набыў маёнт. Дарэў (Наваградзкі пав.) ад Зубоўскіх (1765). Сыны апошняга: Адам, каморнік наваградзкі, уладальнік фальв. Паўлюкоўшчына, і Юзаф, пісар гродзкі наваградзкі, уладальнік фальв.Гарадзея, у якога былі сыны Францішак і Станіслаў.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

***З.Яцкевіч***

## 114. Мацкевічы гербу «Ястрабец»

Выводзіліся з Ашмянскага пав.

Рг. - Іван Грыгор'евіч, уладальнік маёнт. Янушкоўшчына ў Ашмянскім пав., што відаць з закладнога права жонцы Сівіцкай на 150 коп грошай літ. у 1591, яго першая жонка Хрысціна, дачка Станіслава і Соф'і Пятроўны з кн. Гедройць Старасельскай Сівіцкіх, другая жонка Кацярына Жохаўна, з якой валодаў маёнт. Гаравец у Мінскім ваяв. (квіт ад Грыбаў 1627) і меў сына Яраша.

Яраш, таксама меў двух жонак: першая - Соф'я з кн. Гедройць, у першым шлюбе за Сянкевічам,у другім за Іванам Шванскім, уладальніца паловы маёнт. Душчыцы і Васькоўцы ў Мінскім ваяв.(1628), з якой набыў яшчэ частку маёнт. Душчыцы і Васькоўцы, доказам чаму запіс ад Яна і Алены з Шванскіх Пашкевічаў (1645);

другая жонка - дачка віцебскага ваяводы Антонія Храпавіцкага, доказам чаму рэляцыя вознага аб спаленні маёнт. Душчыцы (1652), пакінуў сына Крыштафа. Крыштаф, мечнік смаленскі, стражнік, а пазней ротмістр Наваградзкага ваяв., пасол на Соймы: элекцыйны 1697, таксама 1704 і 1707, да генерала Рэпніна, дэпутат да ўкладання Канстытуцыі ВКЛ у 1698, судзіўся з Мікалаем[1] Галінскім, войскім і суддзёй гродзкім аршанскім, што спрабаваў далучыць маёнт. Душчыцы да свайго маёнтка Хоўхла (1685), аб наездзе на маёнт. Душчыцы і гвалтоўным захопе падданага з тым жа (1686), і Есьманамі, сынамі кашталяна мінскага, аб збіцці душчыцкага падданага (1697)[2], яго жонка Тэафіля Цэдроўская, дачка падчашага наваградзкага, сыны Яраш, Крыштаф, Грыгоры і Аляксандр, што падзялілі бацькаву спадчыну ў 1741.

Першы сын Крыштафа Яраш быў стражнікам, падчашым, ротмістрам мінскім, ваяводзкім паслом на элекцыйны Сойм 1697, вайсковым паслом да Караля Аўгуста II у 1699, да шведаў у 1703, на Вялікую раду ў 1704, да гетмана вялікага ВКЛ кн. Міхаіла Вішнявецкага ў 1706, на з'езд наваградзкі ў 1707, да гетмана ВКЛ Агінскага, на сенатарскую раду ў 1707, да цара Пятра I у 1709, да кароннага гетмана Сеняўскага, да прымаса Шэмбека, на сойм Варшаўскі ў 1712, да кн. Вейнсэфэлса і да гетмана польнага літ. Дэнгофа ў 1715, да генералаў рас. Лівена і Сліпенбаха (1736). Меў жонку Кацярыну Шрэтэр, дачку



кашталяна інфлянцкага, і сына Грыгорыя. Апошні, стараста калачэўскі, узяў шлюб з Даротай Сестранцэвіч, дачкой стражніка старадубскага, меў сына Грыгорыя, надворнага саветніка, што атрымаў вывад у Магілёўскім намесніцтве і ажаніўся з Марыяннай Воўк-Ланеўскай, дачкой старасты жэмброўскага.

Другі сын Крыштафа Крыштаф, падчашы мсціслаўскі, пасол ад Мінскага ваяв. на раду Варшаўскую (1704), яго жонка Агнешка Алендзкая, дачка пісара земскага ваўкавыскага, сыны Багуслаў і Ян.

Трэці сын Крыштафа Грыгоры, стражнік Мінскага ваяв., пасол на элекцыі 1697 і на Вялікую раду ў Варшаве (1704).

Чацвёрты сын Крыштафа Аляксандр, канюшы Мінскага ваяв., пасол на Вялікую раду ў Варшаве (1704), першая жонка Марыянна з роду Таргоні Жы-

довічаўна, дачка мінскага крайчага, другая - Марыя Еленская, дачка суддзі земскага мазырскага, пакінуў двух сыноў з першага і двух сыноў з другога шлюбу: Браніслава, Крыштафа, Яна і Тэафіла, што стаў каморнікам мінскім.

З іх Браніслаў, скарбнік ВКЛ, палкоўнік войск літ., быў дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ ад Мінскага вaяв., узяў шлюб з Кацярынай Хелхоўскай, дачкой пісара Скарбу ВКЛ, пакінуў сыноў Аляксандра і Тамаша. А Крыштаф, капітан войск літ., палкоўнік Мінскага ваяв., дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1787), меў жонку Рэгіну Шкультэцкую, дачку аршанскага гараднічага, і пакінуў сыноў Міхаіла, Тамаша, маёра войск літ., Аляксандра і Яна, харужага ВКЛ.

Ян Крыштафавіч ажаніўся з дачкой букцяніцкага старасты Тэадорай Канарскай, пакінуў сына Станіслава, а яго брат Міхаіл, шамбялян Двара Польскага, суддзя нармальны і ротмістр Мінскага ваяв., суддзя вілейскі земскі (1798), ад першага шлюбу з дачкой падкаморага ЯКМ Соф'яй Прыстаноўскай меў сына Крыштафа, ад другога - з дачкой старасты сеняўскага Юстынай Ратынскай меў сына Стэфана.

Трэці сын Аляксандра Крыштафавіча, Ян, рэгент асэсарны ВКЛ, спадчынны ўладальнік маёнт. Далматоўшчына Навагрудзкага пав., прад'явіў таксама сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Вілейскага пав. за 1797, быў жанаты на дачцэ падстолія старадубскага Людвіцы Багарэвічоўнс, яго сыны: Багуслаў і Казімір, спадчынныя ўладальнікі маёнт. Далматоўшчына.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1] Другі раз названы Станіславам-Мікаласм Галінскім.
[2] Аканомам маёнтка на той час быў Дамінік Тамашэвіч.

***З.Яцкевіч***

## 115. Мацкевічы гербу «Ястрабец» змен.[1]



Выводзіліся са Слонімскага пав.

Рг. - Канстанцін, уладальнік маёнт. Казловічы ў Слонімскім пав., які здаваў у заклад Эліяшу-Багумілу Вірловічу (1703) і Даніэлю Курачыцкаму (1707). Яго сын Казімір (нар. у 1695), набыў частку маёнт. Пачапаў (1731) ад Марціна Савіча-Корсака, падстолія рэчыцкага, таксама валодаў ленным маёнт. Ра-

віны ў Наваградзкім пав. (1734). Сыны Казіміра: Андрэй (беспат.), Ян-Казімір, суддзя каптуровы і камісар нясвіжскага магазіна (1764), Юзаф, камісар межавы Наваградзкага ваяв., спадчыннікі маёнт. Равіны згодна тэстаменту бацькі (1752). З іх Ян-Казімір пакінуў сыноў Казіміра, рэгента наваградзкага, і Тадэвуша, сын апошняга Антоні.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

[1]Змена ў кляйноце, дзе замест ястрабца - слепаваран.

***З.Яцкевіч***

## 116. Мержэеўскія гербу «Шэліга»



Альбрэхт-Багуслаў, войскі лідзкі па прывілею Караля Міхаіла (1620)[1], удзельнік Сойма (1662), набыў ад Людвіка Янавіча і Гальшкі Аляксандраўны з Керсноўскіх Working Пратасовічаў маёнт. Федароўшчына ў Астраўках (1653), які завяшчаў свайму пляменніку ніжэй указанаму Станіславу (тэстамент 1693).

Рг. - Станіслаў, падчашы лідзкі, пакінуў спадчыну сынам Міхаілу і Антонію (тэстамент 1718). З іх Міхаіл, падчашы наваградзкі па прывілею Караля Аўгуста III (1738), пакінуў сыноў Юзафа і Цыпрыяна-Тадэвуша, што паступіў у дамініканскі закон пад імем Міхаіл (1750). Юзаф, падстолі наваградзкі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1768), меў сыноў Яна, Гіпаліта і Альберта, з якіх Ян пакінуў сыноў Юзафа, Мацвея, Мікалая, Францішка і Антонія - дзедзічаў маёнт. Дарэў, а Альберт - сына Міхаіла - дзедзіча маёнт. Астраўкі.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

[1]Відавочная памылка ў тэксце.

***А.Шпунт***

## 117. Аляхновічы-Мікульскія гербу «Сас»



Вядома: Базыль Фёдаравіч М., што валодаў маёнт. Мікулічы ў Наваградзкім пав. і прадаў яго частку Паўлу Ўладзіслававічу Бародзічу (1687);

- Базыль і Крыштаф Уладзіміравічы М. мяняліся зямлёй, што засведчыў мернічы ЯКМ Крыштаф Гарбатоўскі (1692);

- Ян Марцінавіч М. прадаў частку маёнт. Мікулічы Аляксандру Высоцкаму (1692);

- квіт попісавы кухмістра ВКЛ і палкоўніка Наваградзкага ваяв. Камароўскага Яну Мікалаевічу М. (1698);

- ліст наваградзкага ваяводы Стэфана Тызенгаўза Яну з сынамі Тамашам, Дамінікам і Стэфанам, і Аляксандру М. па справе з Аляксандрам Высоцкім (1705);

- Пётр Вайніловіч, падстолі наваградзкі, прадаў частку маёнт. Мастышчы Дамініку М., дзедзічу маёнт. Мікулічы (1724);

- дароўны запіс на частку фальв. Трасейкі ад Яна і Анастассі з Гарбатоўскіх Скіркоўскіх Стэфану і Юстыне з Скіркоўскіх М.(1726);

- Францішак і Стэфан Аляксандравічы М. прадалі частку маёнт.Мікулічы Якубу Высоцкаму (1732);

- Стэфан і Юстына з Крукоўскіх М. здавалі ў заклад фальв.Трасейкі Антонію і Ізабэлле з Браткоўскіх М. (1762);

- тэстамент Тадэвуша М., у якім частку спадчыннага фальв.Трасейкі запісаў брату Антонію і пляменнікам - сынам брата Міхаіла (1775);

- дароўны запіс Міхаіла М. Тамашу М. на фальв. Труднаў (1783);

- Якуб Дашкевіч, ротмістр слонімскі і каморнік наваградзкі, прадаў фальв. Равіны Мікалаю М. (1785);

- інтрамісія Тамашу М. на закладны фальв. Камароўшчына (ці Пуцятаўшчына) ў Віленскім ваяв. Тадэвуша і Тэрэзы, бацькоў, і сына Яна Каранеўскіх (1797).

Выводзіліся: Міхаіл з сынам Юзафам, Сымон з сынамі Вінцэнтам, Аўгусцінам, Канстанцінам і Пятром, унукі Яна і Якуба; Мікалай, Людвік, Матэвуш з сынамі Юзафам і Станіславам, Тамаш з сынамі Антоніем, Казімірам і Ігнацыем, і Станіслаў - родныя браты; Андрэй, Юзаф, Антоні і Юрый - родныя браты. Юрый з сынамі Міхаілам і Янам і Мацвей А.-М.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 118. Міхалоўскія гербу «Порай»



Паходзяць са Слонімскага пав.

Рг. - Юрый, перасяліўся ў Наваградзкі пав., уладальнік маёнт.Дарэў-Зарэчча, які набыў ад зямян ЯКМ Наваградзкага і Берасцейскага ваяв. братоў Дамініка і Ўладзіслава Касцюшкаў-

Сехнавецкіх (1723), ад шлюбу з Ефрасінняй Бжазоўскай меў сыноў Тамаша, Ваўжынца (беспатом.), Станіслава (нар. у 1716) і Казіміра. З іх Тамаш меў жонку, напэўна, з Вазгірдаў[1], пакінуў сыноў Аляксандра, Юзафа і Захарыўша. Казімір ад шлюбу з Гаслаўскай меў дачку, што была замужам за Хмялеўскім, а Станіслаў меў жонку з Вярыгаў, пакінуў сыноў Антонія (нар. у 1751), Юзафа (нар. у 1754), Ігнацыя (нар. ў 1756), Марціна (нар. у 1762) і Бенядзікта, які загінуў у баталіі пад час паўстання 1794, што ўсе былі спадчыннікамі маёнт.Дарэў-Зарэчча.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

[1]У арыгінале напісана "Вазвіждоўна".

***З.Яцкевіч***

## 119. Міхневічы гербу «Ліс»



Выводзіліся з Полацкага ваяв.

Рг. - Ян, перасяліўся ў Наваградзкае ваяв., дзе арандаваў зямлю з Уселюбскага графства кн.Радзівілаў, узяў жонку Кацярыну з Бенкаў, якая атрымала ў пасаг ад маці Алены з Ізоўскіх Лаўрынавай Кеневічавай Бенкавай пэўную суму грошай (1710), таксама атрымаў сведчанне адураднікаў і абывацеляў Полацкага ваяв. (1738), пакінуў сына Юрыя і ўнука Юрыя.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 120. Міцкевічы гербу «Порай»



Ужывалі родавы прыдомак Ярмолічы-М. і выводзіліся з Ашмянскага пав.

Рг. - Павел, уладальнік маёнт. Падтрокель (ці Рагелі) у Ашмянскім пав., яго сыны Марцін, Ян, Войцэх і Крыштаф здавалі спадчыну ў заклад Крыштафу Ірдзімонту (1631). З іх Крыштаф пакінуў сына Самуэля і дачку Магдалену, у шлюбе за Мацвеем Круповічам (яе тэстамент 1680).

Самуэль (пам. 1721) перасяліўся ў Наваградзкае ваяв., яго жонка з Берасьневічаў, у першым шлюбе за Служовічам, сыны Базыль (беспатом.), Грыгоры (беспатом.), Антоні і Ян, дачка Магдалена, у шлюбе за Вазгінтам. З іх Ян узяў шлюб з Кацярынай Кандратовіч (1714).

ад якой меў сыноў Матэвуша, Марціна, Стэфана і Мацвея, а Антоні пакінуў сына Міхаіла.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

*С.Рыбчонак*

## 121. Незабытоўскія гербу «Любіч»

Па родаваму паданню паходзілі ад Якуба Пшэцлава[1], уладальніка маёнт. Незабытоў (Niezabytow) у Люблінскім ваяв., удзельніка войнаў з Крымам і Портай за часамі панавання Каралёў Жыгімонта-Аўгуста і Стэфана.

Рг. - Ян, сын Якуба, узяў за жонкай у пасаг зямлю ў ваколіцы Пратасевічы, пакінуў сыноў: Мацвея, Лаўрэнція і Мікалая. З іх Лаўрэнці ўзяў шлюб з Ганнай Незабытоўскай, меў сыноў Мацвея, Пятра, Мікалая і Яна, і дачок Еву, Ядвігу, Кацярыну, Соф'ю і Гальшку. Лаўрэнція сын Ян ад жонкі Рэгіны з Гжымайлаў пакінуў сыноў: Мікалая і Яна, дачок: Ганну, Марыянну, Феліцыянну, Аляксандру і Соф'ю.

З іх Мікалай, сын Яна, перасяліўся з Кароны ў Княства, узяў у пасаг за Ганнай з роду Мацкевічаў, дачкой суддзі пінскага, маёнт.Ятра ў Наваградзкім ваяв., пакінуў дачку Цэцылію і сына Станіслава, падчашага калішскага. Сыны апошняга: Ян і Стэфан; дочкі: Кацярына, Рэгіна і Соф'я (што пацвердзіў тэстамент бацькі 1714).

Стэфан, харужы войск літ., узяў жонку з Белевічаў, ад якой меў сыноў: Станіслава і Яна і дачок: Алену, Ганну, Рэгіну, Людвіку і Іаанну. З іх Станіслаў, генерал-лейтэнант войск літ., першая жонка з Макавецкіх, сын Стэфан, харужы войск літ., другая жонка - з Бараноўскіх, сын Ян, дзедзіч маёнткаў у Слонімскім пав. Брат Станіслава Ян, падкаморы наваградзкі, меў ад Завішанкі сыноў: Крыштафа, Якуба і Стэфана, дзедзічаў маёнт.Сваротва, Заазер'е, Міратычы, Чомбраў і інш. у Наваградзкім і Слонімскім пав., і дачок: Эльжбету, у шлюбе за суддзёй слонімскім Валовічам, Ганну, у шлюбе за Кашыцам, і Тэадору.



Другі сын калішскага падчашага Станіслава Ян, меў жонку з Отэнгаўзаў, яго дачка Кацярына і сын Феліцыян. Апошні - кашталян наваградзкі, старастапрапойскі, палкоўнік пяцігорскай брыгады войск літ., жонка з роду Арэхоўскіх, сын Тэадор. Тэадор ад жонкі з Гімбутаў пакінуў сына Міхаіла, які ўзяў шлюб з Катарскай, яго сын

Тэадор.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]Пазней гэта мянушка стала родавым прыдомкам.

*С.Рыбчоняк*

## 122. Несецкія гербу «Порай»



Антоні, сын Яна, унук Міхаіла, выводзіўся разам з сынам Іаахімам, што ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанні ўраднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1797 і 1800.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*А.Ганущ*

## 123. Несялоўскія гербу «Кошбак»



Ужывалі гербавы прыдомак Кошбак (Korzbok) і выводзіліся з мясцовасці Несялова (Niesiolowie), што цяпер у Польшчы.

Рг. - Самуэль, сын Крыштафа, валодаў мяст. Прандзоны (Przadzone) і вв. Астравіты (Ostrowitc), Асоўты (Osowte) і Бжэзна (Brzezno) у Паморскім ваяв., пакінуў сыноў Казіміра і Адама (1642). З іх Казімір быў кашталянам смаленскім і старастам цырынскім, а Адам - харужым войск пол.

Юзаф, сын Адама, таксама староста цырынскі па прывілею Караля Аўгуста III, пазней па патэнту таго ж Караля генерал-маёр войск літ., падчас міжкаралеўя - палкоўнік Наваградзкага ваяв., спадчыннік па дзядзьку маёнт.Варонча, Жухавічы, Бабынеўка, Адалянш-чына і інш. у Наваградзкім пав., у часы панавання Караля Станіслава-Аўгуста падкаморы наваградзкі, пазней - чашнік ВКЛ, кашталян і ваявода наваградзкі. Ад жонкі Кацярыны з кн.Масальскіх меў сына Ксаверыя, які быў шэфам 6-га пешага рэгіменту, а пазней - генерал-маёрам войск літ.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

*С.Рыбчоняк*

## 124. Отэнгаўзы гербу «Боньча»

Рг. - Ян, палкоўнік залатой харугвы войск пол., удзельнік войнаў Каралёў Яна-Казіміра і Яна III са Швецыяй, Турцыяй і Венгрыяй (1681).[1] Яго сын Юрый-Багуслаў, падкаморы



дэрпцкі. Сын апошняга Ян, падстолі інфлянцкі, набыў фальв. Асташын ад Стэфана-Мікалая, суддзі гродзкага Віцебскага ваяв., і Самуэля-Казіміра, ноўгарад-северскага харужага, Швейкоўскіх (1705). Стэфан, сын Яна, падкаморы дэрпцкі, уладальнік пасля бацькі і брата Марцыяна маёнт. Асташын і фальв. Кайшоўскі ў Наваградзкім пав.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

---

[1] Як сведчыць Самуэль з Скрыпны Твардоўскі ў творы "Woyna domowa...", с. 103.

***С.Рыбчонак***

## 125. Падгайскія гербу «Газдава»

Зямяне Наваградзкага пав.



Выводзіўся: Павел, сын Юрыя, унук Тэадора, праўнук Станіслава, спадчынны ўладальнік земскага маёнт. Малое Сяло, што прадставіў у якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў і абываццеляў Наваградзкага пав. за 1800.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 126. Пажарыцкія гербу «Астоя»



Рг. - Фларыян Крывец-П., якому яго жонка з Мніхоўскіх прынесла ў пасаг маёнт. Арабінеўшчына (1713), што ў парафіі Сталавіцкай Наваградзкага ваяв.

Яго сыны: Францішак, Станіслаў, Міхаіл і Аляксандр. З іх адзіным спадчынным уладальнікам вышэй згаданага маёнтка быў Францішак, які выкупіў долі ў сваіх братоў (1759, 1773).

Францішак з жонкай Кацярынай Радзішэўскай меў сыноў Фларыяна, Міхаіла, Яна, Аляксандра ды Антонія, якім пакінуў маёнт. Арабінеўшчыну, згодна тэстаменту 1778. З іх Антоні пакінуў сыноў: Францішка, Міхаіла і Адама.

Другі сын Фларыяна Станіслаў ажаніўся з Антанінай Матусевіч і меў сыноў: Юзафа, Караля, Аляксандра і Баніфацыя, у якога быў сын Міхаіл.

Аляксандр, трэці сын Фларыяна, пакінуў сыноў: Якуба,

Мікалая і Вінцэнта.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***З.Яцкевіч***

## 127. Пантусы гербу «Адравонж»



Вядома: Сенька П., уладальнік маёнт.Халяўшчына і Кулікоўшчына з Сененскай дзяржавы ў Наваградзкім пав. па прывілею Караля Казіміра;

- канфірмацыйны прывілей Караля Жыгімонта I (1540) Аляхне і Іллі Сенькавічам П. на вышэйзгаданыя маёнткі пасля іх судовай справы з намеснікам острынскім Федкам Храптовічам, за панаваннем Караля Аляксандра;

- квіт на атрыманне пасагавай сумы Станіславам і Гальшкай з Войнічаў П. Марціну Войнічу (1664);

- Мікалай і Гальшка з Курачыцкіх П. мелі ў закладзе фальв. Курачыцы Юзафа Санютыча-Курачыцкага (1676);

- судовы працэс Станіслава і Самуэля Войнічаў, Станіслава П. з Станіславам Нінеўскім, падсудкам, і Касперам-Казімірам Цехановічам, чашнікам Смаленскага ваяв., і інш. (1720);

- маніфест Станіслава і Самуэля Войнічаў. Станіслава П. на Міхаіла Слівінскага, падсудка смаленскага, і Юрыя Марцінкевіча, суддзю земскага ўпіцкага (1727);

- дэкрэт па справе Станіслава і Кацярыны з Жылінскіх П. з Казімірам Ізоўскім і інш. (1726).

Выводзіліся: Мацвей, сын Антонія, унук Стэфана, з сынамі Юзафам і Стэфанам; Юрый, сын Тэадора, унук Габрыэля, з сынам Янам; Людвік з сынам Францішкам П.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 128. Парфяновічы гербу «Агоньчык»



Рг. - Ян і Мікалай, родныя браты. Ян валодаў спадчынным фальв. Задуб'е (1660), таксама служыў у земскай харугве Наваградскага ваяв., як засведчыў харужы літ. Стэфан Радзімінскі-Францкевіч (1667), а Мікалай, уладальнік фальв. Сурылоўшчына (1667)[1].

З іх Ян меў сына Міхаіла, што прадаў спадчыну ў 1690, памёр беспатомным, а Мікалай меў сына Самуэля, што прадаў

спадчыну Ўладзіславу Федкавічу Данейку (1696). Сын Самуэля і Тэадоры з Мікульскіх Матэвуш набыў ад Базыля і Канстанцыі з Малюшыцкіх Сапліцаў фальв. Сапліцы і Шантыры (1746), яго жонка Хрысціна Бжазоўская. сыны Феліцыян і Францішак, спадчыннікі па бацьку.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1] Яшчэ згаданы квіты аб выплаце падаткаў з вышэйуказаных маёнткаў, выданыя Ярашу (1662) і Юрыю (1669), магчыма братам Яна і Мікалая.

***А.Леўчык, С.Рыбчонак***

## 129. Люк'янскія-Паўловічы гербу «Прыяцель» змен.

Выводзіліся з Полацкага ваяв.



Рг. - Васіль, перасяліўся ў Навагрудзкае ваяв., дзе атрымаў у пасаг за жонкай Ўроняй, дачкой Мацвея Яхавіча-Ваўчэцкага, маёнт. Волца (1687), памёр да 1699, пакінуў сыноў Рафаіла (беспатом.), Юрыя (беспатом.) і Мікалая, які сведчыў пра крадзеж родавых папераў (маніфест 1678). Сыны Мікалая - Крыштаф і Якуб (беспатом.), што завяшчаў сваю частку маёнт. Волца стрыечным унукам (тэстамент 1735). Крыштаф пакінуў сына Габрыэля і ўнукаў Казіміра, Людвіка і Бенядзікта.

Казімір меў сына Леона і ўнука Казіміра, Людвік (яго тэстамент 1786) меў сыноў Іаахіма (беспатом.) і Яна, у якога былі сыны Якуб і Юзаф, а Бенядзікт узяў шлюб з Тэрэзай Ваўчэцкай (яе тэстамент 1743), пакінуў сына Дамініка і ўнука Сільвестра, спадчыннікаў маёнт. Волца.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***З.Яцкевіч***

## 130. Пацынкі гербу «Кораб»



Рг. - Міхаіл, згубіўшы родавыя паперы пад час пажару, атрымаў адураднікаў і абывацеляў Навагрудзкага ваяв. сведчанне аб шляхецкім паходжанні (1722), пакінуў сыноў Аўгусціна, Казіміра і Яна. З іх Аўгусцін, дзедзіч паловы фальв. Ізва-Русілаўка ў Навагрудзкім пав., набытага ад Дамініка і Агаты з Пашкоўскіх

Бенкаў, меў сына Гіпаліта, што памёр беспатомны. Казімір пакінуў сына Антонія, таксама беспатомнага. Ян узяў жонку з Тараевічаў і меў сына Станіслава, спадчынніка па стрыю Аўгусціну фальв. Ізва-Русілаўка, які пакінуў сыну Яцку.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

*С.Рыбчонак*

## 131. Пацыны гербу «Агоньчык»



Рг. - Ян, стольнік парнаўскі, ад жонкі Евы з Абрэмбскіх (яе тэстамент 1703) меў сыноў Багдана, Вінцэнта і Станіслава, дачок Соф'ю, у шлюбе за Бенядзіктам Адамовічам (з 1673, квіт на атрыманне пасаговай сумы 1681), і Канстанцыю, у шлюбе за Базылём Гаціскім (з 1684). З іх Багдан пакінуў сына Антонія, што судзіўся з Марцінам-Францішкам Шукевічам (1728), арандаваў фальв. Палонка ў дзядзькі Вінцэнта, Статкаўшчына (абодва ў Слонімскім пав.) ў віленскага ваяводы кн. Фаўстына і Барбары з Завішаў Радзівілаў (1732), а таксама фальв. Саваўшчына дыяменцкага старасты Бенядзікта Тызенгаўза (1746). Жонка Антонія - Канстанцыя з Шульцаў, сыны Багдан, манах іезуіцкага закону, Леон, што стаў ксяндзом, Фларыян, Ігнацы і Сымон (беспатом.).

Фларыян (пам. да 1795), ротмістр слонімскі, уладальнік маёнт. Рацінікі і Меканоск у Троцкім ваяв., якія прадаў мсціслаўскаму падкамораму Яну Сухадольскаму (1772), астатняя маёмасць разам з каштоўнымі паперамі загінула пад час паўстання Т. Касцюшкі, як засведчыў тэстамент яго жонкі Схалястыкі (1795). Яго сыны: Юзаф, Станіслаў, Леон, асэсар Наваградзкага ніжэйшага земскага суда, і Андрэй, паручык войск пол., што меў сына Антонія, - закладныя ўладальнікі маёнт. Скробаў у Наваградзкім пав.

Брат Фларыяна Ігнацы, мастаўнічы троцкі, пакінуў сыноў Міхаіла, яго сын Францішак, Станіслава, Юрыя, Яна, Антонія і Францішка.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

*С.Рыбчонак*

## 132. Першкевічы гербу «Халева»

Рг - Якуб, пасля звальнення з войск пол. узяў шлюб з Канстанцыяй, нар. Булгарын, у першым шлюбе за Канстанцінам Завістоўскім-Грэчыхай,



закладной уладальніцай фальв. Зубкаў (1720), які яна пакінула мужу і сынам Станіславу (беспатом.) і Антонію (беспатом.) згодна тэстаменту ў 1720. Другая жонка Якуба - з Маліноўскіх, сын Мацвей. Яго сын Адам меў жонку з Малюшыцкіх, уладальнік фальв. Зубкаў, які атрымаў па дароўным запісу ад яе брата Антонія Малюшыцкага (1783), у якасці доказаў на шляхецтва прад'явіў таксама сведчанні ўраднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1797 і 1799.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 133. Плюта-Плюцінскія гербу «Слепаворан» змен.[1]



Рг. - Мікалай, уладальнік маёнт. Плюта ў Драгіцкай зямлі. Яго сын Крыштаф, спадчыннік па бацьку, узяў шлюб з Кацярынай Буяльскай, ад якой меў сына Станіслава. Апошні пакінуў ад першай жонкі Іаанны Куравіцкай сына Яна, а ад другой Розы Вольскай - сына Людвіка, што валодалі згаданым фальваркам і здавалі яго ў арэнду пляменніку Валенцію. З іх Людвік набыў фальв. Рутка ў Наваградзкім ваяв.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]У клейноце тры страусавыя пёры, замест Слепаворана.

***С.Рыбчонак***

## 134. Пратасовічы гербу «Ястрабец»

Пры вывадзе прадставілі звесткі пра дзве галіны.

Рг.-1 - Мацвей Іванавіч, сакратар ЯКМ[1], адпісаў у 1568 маёнт. Астраўкі сваёй жонцы. Яго сыны Адам і Ян, уплацілі падатак з дадзенага маёнтка ў 1597. Акрамя гэтага маёнтка, Ян, пісар земскі наваградзкі, набыў маёнт. Гарадзея і Сноў, пакінуў сыноў Крыштафа — францішканіна, Францішка, Даніэля, Яна, Бенядзікта, Астафія, Стэфана і Людвіка, што засведчыў тэстаментам у 1632. Апошні - паборца Наваградзкага ваяв. (1651), падчашы наваградзкі, пасол ваяводзкі да Караля Яна-Казіміра (1660).

Людвік меў сыноў Адама, Крыштафа і Самуэля (тэстамент 1691). У Адама былі сыны:

Юрый і Пётр (яго тэстамент 1742). Апошні меў сына Казіміра і ўнукаў Адама і Юзафа. Сын Юрыя Юзаф пакінуў Астраўкі свайму сыну Марціну.

Крыштаф (тэстамент 1719) меў сына Казіміра, сыны якога Пётр, Антоні і Раман падзялілі фальв.Астраўкі ў 1771. Сыны Антонія Леанард і Міхаіл, спадчыннікі фальв.Астраўкі. Раман (тэстамент 1777) меў сыноў Баніфацыя і Стэфана, у якога быў сын Юрый.

Рг.-2 - Тамаш, пакінуў сыноў Францішка (беспатом.), Хрызастома і Станіслава. Апошні меў сыноў Андрэя (беспатом.), Міхаіла (беспатом.), канюшага наваградзкага, і Роха, абата бенедыкцінскага кляштара ў Нясвіжы. У Хрызастома быў сын Антоні, які меў маёмасныя справы са сваім стрыем Міхаілам, як і яго сын Вінцэнт у 1786, наконт спадчыннага маёнт. Дарэў-Бецёўшчына. А другі сын Антонія - Панцеляймон быў ксяндзом. Вінцэнт, лоўчы наваградзкі, суддзя земскі Слуцкага пав. (1792), дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ у 1786, суддзя земскі сталавіцкі.



Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1] Всрагодна, Жыгімонта-Аўгуста.

***З.Яцкевіч***

## 135. Пугальскія гербу «Слепаворан»

Выводзіліся, напэўна, з мясцовасці Пугалы (Puhaly)[1].

Рг. - Стэфан, уладальнік маёнт.Ізва-Ваўканоша (1654), які пакінуў сынам Яну, Антонію і Міхаілу (тэстамент 1713). З іх Ян меў сыноў Юзафа, яго сын Міхаіл, і Стэфана, спадчыннікаў вышэйзгаданага маёнтка (з 1758).

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1] Яе месцазнаходжанне не пазначана.

***А.Шпунт***

## 136. Пулкатыцкія гербу «Астоя»

Старажытны баярскі род з Пінскага пав.



Рг. - Даніла Іванавіч, за заслугі баярскія атрымаў прывілей ад кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча на маёнт. Пулкатычы і інш. (1507). Яго сыны Іван і Сымон атрымалі кан-

фірмацыйны прывілей ад Караля Жыгімонта-Аўгуста ў 1559. Сымон (тэстамент 1601) і жонка Марыянна Гедымінава пакінулі сыну Андрэю ўладанні - спадчынныя фальв. Пулкатычы ў Пінскім пав. і Ворышча ў Валынскай зямлі.

Андрэй і жонка Ганна Барэйкаўна мелі сыноў Яна, Мікалая і Базыля, які з Сузаннай Зубчанкай пакінуў сыноў Казіміра і Аляксандра (нар. у 1630)[1]. Базыль уступіў частку грунтаў у маёнт.Пулкатычы Андрэю і Еве з П. Мержэеўскім. Сыны Базыля Казімір і Аляксандр у 1693 сведчылі пра напад на сенажаць у маёнт. Пулкатычы.

Аляксандр ад жонкі з Ласкоўскіх меў сына Уладзіслава (нар. у 1661. Чартарыйскі касцёл) ды ўнука Станіслава. Апошні, згодна інтрамісіі 1718, валодаў часткай в. Ворышча Валынскага ваяв., які па тэстаменту 1763 падзяліў паміж сваімі сынамі Тадэвушам і Ігнацыем маёнт.Пулкатычы і в. Ворышча (ці Варонкі), прызначыўшы апякуншай сваю жонку, а іх маці Кацярыну Тжцінскую.

Прызнаны ў дваранстве 20(31).12.1798.

---

[1]Пра нашчадкаў Яна і Мікалая Андрэевічаў, і Казіміра Базылевіча невядома.

***З.Яцкевіч***

## 137. Пушкіны[1]

Ужывалі родавы прыдомак Ждан-П. і выводзіліся з Мсціслаўскага ваяв., дзе Ян П., стараста карпецкі, атрымаў дэкрэт у Мсціслаўскім правінцыйным судзе (1774).

Рг. - Тамаш Паўлавіч, родны брат вышэйуказанага Яна, перасяліўся ў Навагрудзкае ваяв., дзе набыў ад былога абознага літ. Міхаіла Лопата маёнт.Стайкі (1787). Сын Тамаша Юзаф пакінуў сыноў Рафаіла і Януарыя, спадчыннікаў таго ж маёнтку.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

---

[1]Герб не пазначаны.

***З.Яцкевіч***

## 138. З Пшэрадава Пшэрадоўскія гербу «Паўкозіц»



Выводзіліся з Пшэрадава.[1]

Рг. – Павел, уладальнік маёнт. Мілашэў у Навагрудзкім пав., які набыў ад Тэадора Васільевіча Юрагі (1631). Яго сын Міхаіл, падстолі навагрудзкі, спадчыннік па бацьку (1667), пакінуў сына Багуслава і ўнука Браніслава, што валодалі тым жа

маёнткам, як сведчыць дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ за 1720.

Сын Браніслава Ануфры, абозны мінскі, шамбялян Двара Польскага, дзедзіч маёнт. Мілашэў, яго сыны Ксаверы і Дызмаз.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1]Месцазнаходжанне не ўдакладнена.

*С.Рыбчонак*

## 139. Пырскія гербу «Юноша»



Рг. - Барталамей, закладны ўладальнік маёнт. Міхноўшчына ў Наваградзкім пав. Пятра і Петранэлі з Сестранцэвічаў Хмялеўскіх (1727), пакінуў сына Антонія, унукаў Юзафа і Тадэвуша, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1800. З іх Юзаф меў сыноў Яна, Вінцэнта і Аўгусціна, а Тадэвуш - сына Юрыя.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

*С.Рыбчонак*

## 140. Пясецкія гербу «Яніна»



Рг. - Мікалай, атрымаў ад кн.Альбрэхта-Станіслава Радзівіла, падканцлера ВКЛ, фальв. Дварэц Абідоўскі ў Наваградзкім ваяв. (1602). Яго сын Грыгоры, згодна рэскрыпта Караля Яна-Казіміра ад 1670[1], кухмістр ВКЛ, пакінуў сына Юрыя, спадчыннага ўладальніка фальв. Дварэц Абідоўскі, які з сынамі Мікалаем, Янам і Станіславам меў справы ў Галоўным Трыбунале ВКЛ (1731) і гродзкім судзе Наваградзкага ваяв. (1732). Мікалай пакінуў сына Юзафа, Станіслаў - Феліцыяна, Ян - Тамаша, Сымона і Юрыя, якія ўплацілі падатак са спадчыннага фальварка ў 1798. Юрый Янавіч меў сыноў Вінцэнта і Яна, Тамаш Янавіч - Міхаіла, Юзафа і Францішка.[2]

Прызнаны ў дваранстве 31(14).03.1799.

---

[1]Кароль Ян-Казімір адрокся ад прэстола ў 1668.

[2]Разам з імі быў прызнаны Міхаіл П., не пазначаны ў генеалогіі.

*З.Яцкевіч*

## 141. Пятровічы гербу «Леліва»



Вядома: Лаўрэнці і Ганна з Сведзінскіх П. валодалі маёнт. Вярховічы ў Берасцейскім ваяв., які пакінулі сынам Яну і Якубу (1647).

- Тадэвуш П., ротмістр наваградзкі, прадаў Мацвею П., скарбніку ашмянскаму, фальв. Лагодкі ў Наваградзкім пав. (1788).

Рг. - Людвік, пакінуў сыноў Дамініка, яго сын Адам, Пятра, яго сыны Адам, Юрый і Сымон, і Юрыя, яго сыны Лукаш, Тамаш, Юзаф і Ян, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1800.[1]

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

[1] Разам з імі выводзіліся іх пляменнікі Людвік, а таксама Сільвестр і Мацвей, сыны Яна П., не пазначаныя ў генеалогіі.

*С.Рыбчонак*

## 142. Дунін-Раецкія гербу «Лебедзь»

Па родаваму паданню паходзілі ад Яна Пятровіча Дуніна, які перасяліўся з Кароны ў Княства, дзе атрымаў ад польскіх Каралёў маёнт. Райца ў Наваградзкім ваяв. і пачаў пісацца Раецкім.



Рг. - Федка, сын Стэфана, валодаў маёнт. Райца, да якога прыкупіў лес Бенды ад баяр гаспадарскіх Хана і Васіля (1524). Яго сыны: Андрэй і Гарасім, з якіх першы памёр беспатомны, а другі пакінуў сына Аляксандра. Апошні спадчыннік маёнт. Райца па бацьку, далучыў да яго прылеглыя землі, што набыў ад Мікалая і Соф'і з Туганоўскіх Садоўскіх, меў сыноў: Фларыяна (беспатом.), Стэфана (беспатом.), Зыгмунта і Самуэля.

Зыгмунт пакінуў сыноў Дамініка (беспатом.) і Міхаіла, што засведчыў тэстамент (1722). Багуслаў, сын Міхаіла, ротмістр Наваградзкага ваяв., уладальнік маёнт.Руднікі, які набыў ад свайго дзядзькі Дамініка (1766). Яго сыны: Павел, паручык войск літ., Ян, ротмістр наваградзкі, і Вінцэнт, шамбялян Двара Польскага, як сведчыць запіс ад Есьмана (1767). З іх Вінцэнт меў сыноў Януарыя і Яна, дзедзічаў маёнт. Руднікі.

Брат Зыгмунта, Самуэль пакінуў сыноў Гедэона, які стаў

ксяндзом, Тадэвуша, што памёр беспатомны, Багуслава, Францішка, Уладзіслава, Юзафа і Адама. З іх Багуслаў меў сыноў Дыянісія, скарбніка Наваградзкага ваяв. па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1780), Віктара (беспатом.), Станіслава (беспатом.) і Казіміра, ротмістра Наваградзкага ваяв. Сыны апошняга: Канстанцін і Францішак, суддзі земскія наваградзкія, уладальнікі маёнт. Райца, Жабердаў, Машэвічы, Палужжа і Кошалеў (акты аб падзеле спадчыны 1778, і тэстамент бацькі 1777).

Стэфан, сын Францішка Самуэлевіча, камісар цывільна-вайсковай і парадкавай камісіі і ротмістр Наваградзкага ваяв., уладальнік маёнт. Скробаў, які набыў ад Юзафа і Яна Валадковічаў (1787) і пакінуў сынам: Пятру, Юзафу, Вінцэнту і Бернарду.

Іншыя сыны Самуэля пакінулі: Уладзіслаў - Ізідара, каморніка Ваўкавыскага пав., Юзаф - Валенція і Іардана, Адам - Антонія.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.[1]

[1]Разам з імі былі прызнаны: Нікадэм і Каэтан, сыны Ігнацыя, якія ў генеалогіі не пазначаны.

*С.Рыбчонак*

## 143. Райкевічы гербу «Слепаворан»



Карысталіся родавым прыдомкам Шчаноўскі.

Рг. - Рай, сын Андрэя Міхайлавіча, уладальнік маёнт. Шчонаў па прывілею Караля Жыгімонта І. Яго жонка Еўдакія Букрэй, сыны Фёдар, Ян (беспатом.), Сазон, Андрэй (беспатом.) і Астафі, якія ад імя бацькі і назвы маёнтка пачалі пісацца Ш.-Р. З іх Фёдар прадаў частку спадчыны Івану і Рэгіне, дачцэ Івана Яцыніча, Маскевічам (1597), пакінуў дачку, што ўзяла шлюб з Стэфанам Рабчыцам, як сведчыць інтрамісія 1660. Астафі таксама меў адну дачку, што ажанілася з Андрэем Трушынскім. Сазон узяў шлюб з Багданай Кульбачанкай Малюшыцкай, ад якой меў сыноў Адама, Мікалая, Эліяша, Багуслава і Яна.

Ян Сазонавіч, дзедзіч маёнт. Шчонаў (1638), меў жонку Размусеўну Грынкевіч, але нашчадкаў не пакінуў. Яго брат Мікалай, арандаваў частку фальв. Гружэннікі Фёдара і Рэгіны з Кмітаў Меляшкевічаў (1624), з двух жонак Алены Вайнянкі і Ганны Невардоўскай

пакінуў чатырох дачок. Адам таксама меў дачок: Хрысціну, што ўзяла шлюб з Пашкоўскім, і Тэадору, у шлюбе за Лешчылоўскім.

Багуслаў і Эліяш, спадчыннікі маёнт. Шчонаў па дзядзьку Андрэю (інтрамісія 1634), з іх Багуслаў меў жонку Апалонію з Куневічаў, перасяліўся ў Рагачоўскі пав.[1] А Эліяш судзіўся з Аляксандрам і Кацярынай Гіблсўнай Швсйкоўскімі (1680), яго жонка Кацярына з Крыўцоў, сыны Ян, Габрыэль (беспатом.), Базыль (беспатом.) і Міхаіл.

З іх Ян пакінуў сына Базыля, які меў жонку з Катлубаеў, яго сын Юзаф, узяў шлюб з Ганнай Усакоўскай, унук Фларыян.

А Міхаіл, уладальнік маёнт. Шчонаў, частку якога пад назвай Стаськаўшчына прадаў Давіду і Самуэлю Р. (1701), яго жонка з Бранюшыцаў Гарасімовічаў, сын Андрэй, дзедзіч маёнт. Равіны і Труднаў, як засведчылі квітам попісавым Пётр-Юзаф Савіч-Корсак, харужы, і Пляцыд-Міхаіл Вольскі, ротмістр Наваградзкага ваяв. (1727). Андрэй узяў шлюб з Ганнай Рамановіч і пакінуў сыноў Казіміра, каменьскага плябана, Ігнацыя (беспатом.), Юрыя, які пражываў на Беларусі[2], і Станіслава, спадчыннікаў маёнт. Гружэннікі ў Наваградзкім ваяв., што засведчыў тэстаментам у 1758.

З іх Станіслаў акрамя спадчыннага маёнтку, які прадаў пазней Узлоўскаму, валодаў яшчэ маёнт. Калдычаў (ці Пракапоўшчына-Пятроўшчына), які набыў ад ротмістра наваградзкага Міхаіла і лоўчыца старадубскага Фелікса Макавецкіх (1769), і фальв. Завоссе, які набыў ад харужага наваградзкага Яна Незабытоўскага (1773). Жонка Станіслава - Роза з Круковічаў, сын Вінцэнт, падчашы Наваградзкага ваяв., спадчыннік па бацьку, прадаў фальв. Завоссе кс. Дамініку Забелу (1788), таксама меў у закладзе фальв. Далматоўшчына.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1]Яго нашчадкі выводзіліся па Магілёўскай губ.
[2]Напэўна, меліся на ўвазе т.зв. беларускія губерні - Віцебская і Магілёўская.

***С.Рыбчонак***

## 144. Рамановічы гербу «Любіч»

Рг. - Стэфан, валодаў маёнт. Калдычаў у Наваградзкім пав., пасля памяняў яго з кн. Радзівілам на маёнт. Завоссе, пакінуў сыноў Лаўрэнція, Мікалая, Юрыя і Філіпа, што стаў манахам баніфратарам.

З іх Лаўрэнці пакінуў сыноў Яна, Мікалая, Станіслава. Са-



муэля і Пятра, што пацвердзіў дэкрэт вышэйзгаданага Філіпа з пляменнікамі (1726). Ян, спадчыннік па бацьку, меў сыноў Антонія і Лаўрэнція, таксама ўладальнікаў маёнт. Завоссе (1744). Антоні пакінуў сыноў Адама, яго сын Вінцэнт, і Пятра, а Лаўрэнці - сына Вінцэнта, што валодалі зямлёй у вак. Завоссе і Скураты.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 145. Бальдвін-Рамульты гербу «Рамульт»

Паходзілі, паводле родавага падання, ад графа фландрскага Балдуіна, удзельніка крыжовага паходу, два нашчадка якога прыбылі ў Карону. Адзін з іх быў біскупам кушвіцкім, а яго брат атрымаў герб "Рамульт" і ўзяў ад яго прозвішча, пакінуўшы ранейшае ў якасці прыдомку.



Рг. - Мікалай Станіслававіч, уладальнік маёнт. Ранля ў Пінскім пав., што набыў ад Яна Марцінавіча Рыбінскага (1592), яго жонка Еўдакія Пятрыкееўна з Касцюшкевічаў, сын Стэфан, спадчыннік па бацьку. Апошні набыў таксама ад Кацярыны Юзафаўны Янікоўскай, у шлюбе за Зыгмунтам Гінейтам, маёнт. Сымаготычы з вв. Малешоў і Юркевічы ў Пінскім пав. (1640), узяў шлюб з Рэгінай з Алешаў, ад якой меў сыноў Міхаіла (нар. 1632) і Яна (нар. 1634), спадчыннікаў па бацьку (1674).

З іх Міхаіл пакінуў сыноў Самуэля і Станіслава. Сын апошняга і Алены з Абуховічаў Базыль меў двух жонак: першая - Юстына Кальвінская, сыны Ануфры і Фердынанд, другая - з Чапляеўскіх, сын Валерыян, якія ўсе былі дзедзічамі вышэйзгаданых маёнткаў, як пацвердзілі рэгенты гродзкія Пінскага пав. Антоні Скакоўскі (1755) і Ігнацы Андрэйковіч (1783). Ануфры таксама спадчыннік па брату Фердынанду (1794), каморнік Пінскага пав., а Фердынанд, ротмістр пінскі.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.[1]

---

[1] Разам з імі выводзіліся Віктар Адамавіч і Міхаіл Адамавіч-Антонавіч Р., што ў генеалогіі не пазначаны.

***С.Рыбчонак***

## 146. Рацы гербу «Топач»



Выводзіліся з Лідзкага пав. Карысталіся гербавым прыдомкам Топач.

Рг. - Павел, спадчынны ўладальнік фальв. Данеўшчына ў Лідзкім пав., меў трох сыноў. Яго сын Ян у 1693 узяў шлюб у касцёле Усслюбскім з Марыяннай Куковіч, якая прынесла ў пасаг фальв. Буйвідаўшчына (Наваградзкі пав.), які адпісала сваім сынам у 1727.

Сыны Яна: Станіслаў, Тамаш, Міхаіл (беспатом.) і Францішак. Станіслаў пад час элекцыі Караля Аўгуста III (1733) трапіў у няволю, а вярнуўшыся з яе памёр беспатомным. Пакінуў сваю частку спадчыннага ўладання Данеўшчына пляменнікам.

Францішак з жонкай Гэленай Веслункоўскай пакінуў сыноў Іаахіма (беспатом.) і Ваўжынца, яго жонка Вікторыя Ваўчэцкая, які прадаў фальв. Данеўшчына Свідэрскаму.

Тамаш з жонкай Канстанцыяй Ісаевіч меў сыноў Юзафа (беспатом.), які прадаў сваю частку фальв. Буйвідаўшчына роднаму брату, і Антонія, спадчыннага ўладальніка гэтага фальварка.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 147. Рэвенскія (Рэвінскія) гербу «Любіч»



Пры вывадзе падалі дакумент па якому Марыя княжна Сямёнавая Рэвенская атрымала прывілей на Краснасёла [Лідзкі пав.? (верагодна Луцкі пав. Валынскае ваяв.)], купленае ў Дычка Васілевіча кн.Сямёнам Рэвенскім пад час панавання Вял. князя Казіміра, а таксама на Рэўна. Кароль Жыгімонт I пацвердзіў гэты прывілей (11.07.1507, 10 індыкт). Але іх не пазначалі як родапачынальнікаў.

Рг. - Войцэх, кашталян цэханоўскі, пакінуў сыноў Стэфана і Сымона, дзедзіча добр Рэўна. Стэфан перасяліўся да краёў Літоўскіх, дзе валодаў рознымі маёнткамі ў Наваградзкім, Слонімскім, Ваўкавыскім і Гарадзенскім паветах. Яго сыны Васіль, Раман, Павел, Фёдар і Іаахім.

З іх Павел меў сыноў Пятра, Васіля і Філіпа. Васіль пакінуў сыноў Іаахіма, Андрэя, Адама і

Яна. Сыны Адама: Ян, Габрыэль, Мікалай, Крыштаф і Леон, з іх Мікалай меў сыноў Міхаіла, Яна, Станіслава і Паўла-Бенядзікта, стольніка парнаўскага, што відаць з дэкрэта Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1703) паміж Рэвенскімі, Курчамі і інш.

Павел-Бенядзікт ад шлюбу з першай жонкай Пакрашымскай меў сына Юзафа, ад другой жонкі з Рудамінаў сына Казіміра (маніфест паміж Р. і Мілеўскімі 1708).

Першы сын Паўла-Бенядзікта Юзаф меў двух жонак, адна - Беліковічаўна, сын Марцін, другая з Завадзкіх, сын Францішак. Апошні ўладальнік маёнт. Вуглы ў Слонімскім пав. (інтрамісія 1787), пакінуў сына Станіслава. А Марцін узяў шлюб з Глінскай ад якога меў сына Міхаіла, паручыка войск пол., што відаць з пленіпатэнцыі (1797), і ўнука Фелікса.

Другі сын Паўла-Бенядзікта Казімір ажаніўся з Іааннай Ленкевіч, пакінуў сыноў Бенядзікта і Мікалая (квіт 1777). Бенядзікт ад жонкі Канстанцыі Тынянкі-Быкоўскай меў сыноў Алазія - ротмістра Ваўкавыскага пав., Антонія - каморніка Ваўкавыскага пав., Міхаіла - рэгента гродзкага і падкаморскага ваўкавыскага, Тадэвуша - рэгента гродзкага слонімскага і Андрэя, што валодалі фальв. Сядзельнікі і Савейкі (інтрамісія 1790). Мікалай Казіміравіч узяў шлюб з Марыяннай Васілеўскай, пакінуў сыноў Антонія і Матэвуша (квіт 1797).

Ян сын Мікалая Адамавіча валодаў маёнт. Малое Сялко, Скробаў, Гневаноўшчына, Зубкаў і інш. у Наваградзкім ваяв. Ян і Рэгіна з Дуброўскіх Р. прадалі маёнт. Скробаў Станіславу і Алене з Малынічаў Яновічам (1719). Яны пакінулі сына Якуба. Апошні ўзяў жонку Крысціну з Палітальскіх, з якой меў сына Францішка, што засведчылі асекурацыйным запісам Міхаіл і Саламея з Храптовічаў Палітальскія, скарбнікі гарадзенскія, у 1753. Францішак Якубавіч, рэгент судоў падкаморскіх Наваградскага ваяв. (інструмент 1783 Адама Вайніловіча, падкаморага наваградзкага), дваранін Скарбу ВКЛ (інструмент 1786 са Скарбу ВКЛ), мастаўнічы Наваградзкі (прывілей 1786 Караля Станіслава-Аўгуста), камісар гранічны наваградзкі (павятовая экзекуцыя 1792), яго жонка Дамініка Доўгелеўна, сын Казімір, уладальнік маёнт. Волца ў Наваградзкім пав.

Прызнаны ў дваранстве 6.(17).12.1798.

***З.Яцкевіч***

## 148. Сакаловічы гербу «Газдава»



Выводзіліся з Лідзкага пав. Пры вывадзе прадставілі матэрыялы па генеалогіі двух галін.

Рг.-1 - Ян Ярашавіч, пакінуў сыноў Станіслава (беспатом.), Гераніма (беспатом.), Сымона і Казіміра, што засведчыў тэстаментам (1705). З іх Казімір меў сыноў Юзафа, што стаў ксяндзом, і Юрыя, у якога быў сын Казімір, што выдалі квіт стрыечным братам (1752). Сымон меў сыноў Тамаша, Андрэя, Францішка і Пятра, што засведчыла тэстаментам яго жонка (1774). З іх Тамаш пакінуў сыноў Якуба і Ваўжынца, а Пётр - сыноў Вінцэнта, Яна і Апалінарыя, уладальнікаў маёнт.Сакалова ў Лідзкім пав.

Рг.-2 - Ян, дзедзіч маёнт.Сакалова і Мантвяны (Лідзкі пав.), меў сыноў Матыса, Лаўрына, Тамаша, Мікалая, Барталамея і Адама, што падзялілі ў 1613 бацькоўскую спадчыну. З іх Тамаш пакінуў сыноў Пятра (беспатом.) і Яна, у якога былі сыны: Геранім (беспатом.), Адам (беспатом.) і Сымон. Пётр - спадчыннік па бацьку, што засведчыў квіт аб падзеле спадчыны паміж ім і Тамашам[1] (1669).

Геранім і Сымон здавалі свае маёнткі ў заклад Станіславу Мізаньцу (1709). З іх Сымон меў сына Юрыя, пра што сведчыць квіт ад Юндзілаў (1731) і ўнука Станіслава, ротмістра смаленскага, па крэдэнсу Эйдзятовіча, харужага і старасты самніцкага (1776), потым будаўнічага сталавіцкага, па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1793), уладальніка маёнт. Малое Падлессе ў Наваградзкім ваяв., які набыў у 1787. Яго сыны: Юрый, Аўгусцін і Ян.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

---

[1]Ён у вывадзе не пазначаецца.

***З. Яцкевіч***

## 149. Сакалоўскія гербу «Агоньчык»



Выводзіліся з Каралеўства Польскага.

Рг. - Якуб, скарбнік Латычэўскай зямлі, дзе жыў у вак. Гарбачы Звягельскай парафіі, у якой у 1740 быў ахрышчаны яго сын з Ганны Лазоўскай - Клеменс. Апошні ў пошуках фартуны пераехаў

у Наваградзкае ваяв. (1766), дзе ажаніўся з Марыяннай Рэмбінскай, атрымаўшы ў пасаг частку фальв. Харольчыцы Наваградзкага пав. У 1778 ён дакупіў дзве часткі гэтага ж фальварку ў сясцёр жонкі: Юдзіты і Разаліі, у шлюбе за Войнам, затым у 1786 у Юзафа Канстанціна Багдановіча, каморніка слонімскага, набыў фальв. Карыцы-Швейбакоўшчына (ці Гаразоўшчына), які таксама далучыў да фальв. Харольчыцы. Меў сыноў: Бенядзікта, Міхаіла і Ігнацыя, спадчыннікаў фальв. Харольчыцы.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 150. Самуйлы гербу «Суліма»



Выводзіліся з Полацкага ваяв., дзе сваякі Яна атрымалі дэкрэт Полацкага правінцыйнага земскага суда (1773).

Рг. - Тэадор Янавіч, пакінуў сына Лукаша і ўнука Яна. Апошні - закладны ўладальнік маёнт. Труднаў у Наваградзкім пав., пакінуў сына Францішка. Таксама прадставілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ад сваякоў з Полацкага пав. за 1797.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).

***З.Яцкевіч***

## 151. Санцэвічы гербу «Ястрабец»



Выводзіліся: Ян, сын Грыгорыя, унук Рамана; Грыгоры, сын Мацвея, унук Сымона; Юзаф, сын Яна, унук Грыгорыя; Ян, сын Антонія, унук Пятра; Сільвестр, сын Людвіка, унук Францішка; Ян, сын Грыгорыя, унук Андрэя; Ян, сын Францішка, унук Андрэя; Андрэй, сын Матэвуша, унук Сымона; Ян, сын Габрыэля, унук Пятра, Санцэвічы, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Наваградзкага пав. за 1797.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 152. Сапешкі гербу «Любіч»

Выводзіліся з Мсціслаўскага ваяв., дзе Феліцыян С. атрымаў дэкрэт Мсціслаўскага правінцыйнага суда (11.03.1775) аб шляхецкім паходжанні.

Выводзіўся Ігнацы Юр'евіч з сынамі Юліянам і Міхаілам



С., які быў пляменнікам Feліцыяна, што пацвердзіў ліст апошняга да брата Юрыя (1785).

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 153. Кошбак-Сапліцы гербу «Кошбак»



Выводзіліся з вак.Сапліцы (першапачаткова называлася Якубкаў) у Наваградзкім ваяв. і яшчэ ў 17 ст. падзяліліся на некалькі галінаў.

Рг.-1 - Пётр, сын Беняша Якубкавіча, уладальнік фальв.Якубкаў (ці Сапліцы), а таксама фальв. Шантыры, які набыў ад Фёдара Грыгор'евіча Шантыра. Брат Пятра Сасін, меў сына Пятра, што арандаваў зямлю ў фальв. Вараная Івана і Марыянны з Скумінаў Бакаў (1603), але ці пакінуў нашчадкаў - невядома. Жонка Пятра - Ганна-Рэгіна, дачка Пятра Жытарайскага, сыны Фёдар, Станіслаў і Ян.

З іх Фёдар, прыкупіў зямлю ў той жа ваколіцы ад Самуэля Сідаравіча і Ганны-Аляксандры з Санютычаў С. (1657), ад жонкі Рэгіны з Курачыцкіх пакінуў сыноў Лаўрына і Аляксандра, што засведчылі падваявода Крыштаф Керсноўскі і пісар гродзкі і дэпутат Наваградзкага Скарбавага суда Ўладзіслаў-Ян Вольскі (1679), дзедзічаў маёнт. Сапліцы (1685, 1686). Сыны Лаўрына: Ян, Якуб, Юзаф і Дзмітры (беспатом.), з якіх Ян меў сына Барталамея, яго сыны Мацвей і Вінцэнт; Якуб меў сына Францішка, яго сын Станіслаў (беспатом.), а Юзаф меў сыноў Яна, яго сыны <u>Вінцэнт</u>, <u>Марк</u>, <u>Станіслаў</u> і <u>Караль</u>, і Мікалая (беспатом.), што ўсе былі спадчыннікамі зямлі ў вак. Сапліцы (1746, 1798).

Другі сын Пятра Беняшавіча, Станіслаў, дзедзіч фальв. Шантыры (1675), ад жонкі Ганны з Санютычаў меў сыноў Пятра і Сідара. Сыны Пятра: Юрый, Ян, Базыль і Людвік. З іх Юрый, падчашы наваградзкі, узяў шлюб з Юстынай Богуш і пакінуў сыноў Войцэха і Ануфрыя (каля 1744), дзедзічаў маёнт. Скробаў і Ястрэбль. <u>Ануфры</u> ўступіў сваю долю спадчыны брату (1774), меў сыноў <u>Вінцэнта</u>, <u>Антонія</u> і <u>Міхаіла</u>. А <u>Войцэх</u>, дзедзіч маёнт. Скробаў і Ястрэбль, прадаў адзін Запас-

ніку, а другі - Рдултоўскаму, пакінуў сыноў Юзафа і Францішка. Другі сын Пятра Станіслававіча, Ян, дзедзіч зямлі ў вак. Шантыры, якую прадаў брату Базылю (1731), пакінуў сыноў Ігнацыя і Антонія, з якіх першы меў сына Міхаіла, а другі - сыноў Якуба і Марціна. Трэці сын Пятра, Базыль, дзедзіч зямлі ў вак.Шантыры, меў сыноў Лаўрына, яго сын Ігнацы, уладальнік зямлі ў той жа ваколіцы, і Пятра, яго сын Антоні перасяліўся ў Аршанскі пав., а чацвёрты - Людвік, стаў ксяндзом.

Другі сын Станіслава Пятровіча, Сідар, дзедзіч зямлі ў вак.Сапліцы, яго сыны Павел, што перасяліўся ў вак. Гарбатовічы і пакінуў сына Яна, і Самуэль. Сыны апошняга Фларыян, Вінцэнт, Багуслаў, Якуб і Юзаф, таксама дзедзічы зямлі ў вак. Гарбатовічы.

Рг.-2 - Мікалай, меў жонку з Бародзічаў і сыноў Тэадора, Станіслава і Ўладзіслава. З іх Тэадор узяў шлюб з Семірадзкай, яго сыны Аляксандр, што ад жонкі з Райкевічаў нашчадкаў не меў, і Казімір. Сын апошняга і Мінакоўскай Ян ад жонкі з Гарбатоўскіх пакінуў сыноў Юзафа (беспатом.) і Стэфана, якi ад жонкі з Мікульскіх меў сыноў Дамініка, Пятра і Яна (усе беспатом.), а таксама Людвіка, яго жонка з Кукевічаў, сыны Леапольд і Элеўтэры.

Другі сын Мікалая, Станіслаў узяў шлюб з Ваўчэцкай і пакінуў сына Сідара (беспатом.), а трэці - Ўладзіслаў, ажаніўся з Тарнаўскай, ад якой меў сыноў Базыля (беспатом.), Марціна, яго жонка з Чыжоў, Сымона, яго жонка Свідэрская, і Антонія, яго жонка Енчэўская, што сталі па бацьку дзедзічамі зямлі ў вак.Сапліцы (1789). Сыны Марціна: Ігнацы, што перасяліўся ў Слуцкі пав., і Гіляры, манах дамініканскага закону, сын Сымона - Ігнацы, памёр беспатомным, сыны Антонія: Міхаіл, узяў шлюб з Мікульскай, і Людвік, што пражываў на Русі.[1]

Рг.-3 - Ян-Казімір, уладальнік фальв. Губічы і Трасцейкі ў Навагрудзкім ваяв., яго сын Антоні-Павел і ўнук Ян прадалі спадчыну Юзафу Несялоўскаму (каля 1797).

Разам з вышэйзгаданымі з вак. Сапліцы выводзіліся Мікалай, Антоні з сынам Клеменсам, Ігнацы з сынамі Станіславам і Юзафам Сапліцы.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

---

[1]Магчыма, маюцца на ўвазе т.зв. заходнеўкраінскія губерні.

***С.Рыбчонак***

## 154. Сасіновічы.[1]

Рг. - Міхаіл, уладальнік маёнт. Куневічы, Курачыцы і Трасцейкі ў Наваградзкім пав., з якіх адзін атрымаў у спадчыну ад бацькі Давіда і маці Ганны, нар. Дашкевіч, С., другі - па смерці родных братоў Самуэля і Леона, а трэці - набыў ад Міхаіла Дашкевіча (1718), пакінуў сыноў Станіслава, яго сын Юзаф, Антонія і Ігнацыя.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1] Герб не пазначаны.

***С.Рыбчонак***

## 155. Секлюцкія гербу «Кушаба»[1]



Рг. - Мікалай, сын Самуэля, набыў ад Стэфана Ізоўскага маёнт. Ізва-Ваўканоша (1673), пакінуў сыноў Пятра, Міхаіла і Якуба, што падзялілі спадчыну паміж сабой (1715). Якуб меў сыноў Паўла, Антонія і Марціна. З іх Павел пакінуў сыноў Андрэя і Ігнацыя, сын апошняга Валерыян. Антоні меў сыноў Юзафа, Францішка і Станіслава, а Марцін - Юзафа і Міхаіла, якія ўсе былі ўладальнікамі фальв. Ізва-Ваўканоша.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

---

[1] У арыгінале герб названы "Кашуба", але малюнак дакладна адпавядае вышэй указанаму.

***А.Шпунт***

## 156. Семірадзкія гербу «Тшаска»



Ужывалі родавы прыдомак Рамашкевіч (Romaszkiewicz), выводзіліся з Падолля.

Рг. - Самуэль, перасяліўся ў Мінскае ваяв., пакінуў сыноў: Геранімa і Казіміра, з якіх апошні набыў ад Забельскіх фальв. Люцын. Сыны Казіміра: Валенці і Ян, з якіх першы - спадчыннік па бацьку, набыў таксама маёнт. Стараельня і Еленка, якія пакінуў сынам Антонію, Францішку і Юрыю. З іх Юрый валодаў фальв. Сецэвічы і Чомбраў (1783), яго сыны: Францішак, рэгент земскі наваградзкі, і Феліцыян.

Другі сын Самуэля і брат Казіміра, Геранім, стольнік плоцкі, набыў маёнт. Ярошыцы, Паўлюкоўшчына, Плужыны і Чомбраў, што перадаў сыну Яну дароўным запісам (1716).

Ян, стараста губскі, узяў шлюб з дачкой ваяводы берасцейскага Курча, ад якой меў сыноў: Антонія, Дамініка, Міхаіла і Францішка, што сталі спадкаемцамі па бацьку (тэстамент 1764). Міхаіл пакінуў сыноў Элеўтэрыя і Тэафіла, з якіх першы быў дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1771), цывільна-вайсковым камісарам, абозным Наваградзкага ваяв. па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1793), і нарэшце, рэгентам земскім наваградзкім.

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

***С.Рыбчонак***

## 157. Сенькоўскія гербу «Крыўда»



Рг. - Юзаф, меў у закладзе ад мсціслаўскага ваяводы і віткоўскага старасты Юрыя Сапегі маёнт. Малая Лотва (1725), яго жонка Ганна з Аўдыцкіх, сын Ігнацы, што засведчыў тэстаментам у 1730. Сын апошняга Міхаіл (нар. у 1762), палкоўнік Гарадзенскага пав.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

## 158. Скіркоўскія гербу «Кетліч II»



Рг. - Якуб Грыгор'евіч, валодаў маёнт. Лаза-Трасцейкі, які набыў ад Станіслава Мікалаевіча і Алены Яўхімаўны Мінакоўскіх (1626), і пакінуў сыну Юрыю. Апошні здаваў спадчыну ў заклад Мікалаю і Ганне з Лазоўскіх Дашкевічам (1683), яго жонка Алена з Стрыжоў, сыны Мацвей і Ян, дзедзічы маёнт. Трасцейкі (1716), з якіх першы меў сына Леона (яго тэстамент 1771). Сыны Леона: Станіслаў, яго сыны Тамаш і Дамінік, Антоні, яго сын Караль, Сымон, Тамаш і Андрэй, - уладальнікі па бацьку зямлі ў вак. Трасцейкі.[1]

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

---

[1] Разам з імі выводзіліся Якуб і Антоні С., напэўна, не сыны Леона.

***С.Рыбчонак***

## 159. Скуратовічы гербу «Задора»

Зямяне Наваградзкага ваяв.

Вядома: Андрэй, Павел, Марцін, Антоні, Стэфан, Фёдар, Іаахім і Эліяш С. памянялі



маёнт. Калдычаў (1659) на зямлю кн. Міхаіла Радзівіла, падчашага ВКЛ, якая пазней атрымала назву маёнт.Скураты;

- Грыгоры С., уладальнік маёнт. Скураты, што пацвердзіў квіт на ўплату падаткаў (1624):

- Давід Стэфанавіч С., уладальнік маёнт.Скураты (1676), частку якога яго жонка Ганна з Цытовічаў адпісала свайму сыну Сымону С. (1713);

- Ян-Эліяш С., уладальнік маёнт.Скураты (1686, 1702);

- Рэфармацыйны запіс Андрэя С. Марыянне з Адамовічаў С. на маёнт. Скураты (1726).

- Марцін С., уладальнік маёнт. Скураты (1731).

- Рафаіл С., уладальнік маёнт. Скураты (1798);

- Якуб С., уладальнік маёнт. Скураты (1799);

- Антоні С., уладальнік фальв. Мількевічы (1799).

Выводзіліся: Юзаф з сынамі Янам, Францішкам і Каралем; Якуб з сынамі Станіславам і Юзафам; Ігнацы з сынам Антоніем, Рафаіл, Антоні, Людвік з сынамі Міхаілам і Казімірам С.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 160. Снарскія гербу «Мурдэліё»



Рг. - Крыштаф, уладальнік маёнт. Уснара ў Навагрудскім пав., меў сыноў Мельхіёра і Грыгорыя, з якіх першы - дзедзіч таго ж маёнтка, як засведчыў земскі суддзя Рэчыцкага пав. Мікалай Нярошынскі (1644), пакінуў сына Грыгорыя, што прадаў частку спадчыны Лаўрыну і Міхаілу Белакосам (1662). Сын апошняга Ян узяў у пасаг за жонкай Тэкляй, дачкой Мікалая Ўсовіча, маёнт. Лапоўцы (ці Лаповічы), частку якога меў у закладзе Міхаіл Усовіч (1710), пакінуў сына Тамаша (яго тэстамент 1758), спадчынніка па бацьку.

Сыны Тамаша: Ян, што перасяліўся ў Гарадзенскі пав., меў сыноў Тамаша і Юзафа, і Адам, уладальнік фальв. Дарэў-Зарэчча і Трацякоўшчына Наваградзкага пав., як сведчыць дароўны запіс ад бабруйскага старасты Міхаіла і Ганны з Чарноўскіх Быкоўскіх-Лопатаў (1775). Сыны Адама: Юзаф-Дамінік і Ян-Непамуцэн.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 161. Станкевічы гербу «Магіла»



Выводзіліся: Базыль з сынамі Тамашам і Антоніем; Ян-Матэвуш з сынам Пятром; Антоні з сынамі Вінцэнтам і Юзафам; Тадэвуш з сынам Янам і братамі Міхаілам, Андрэем і Юзафам С., якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Ваўкавыскага пав. за 1800.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 162. Стаўскія гербу «Корчак»



Ужывалі радавы прыдомак Быліна (Bylino).

Рг. - Антоні, сын Юзафа Андрэевіча, служыў харужым у панцырнай харугве стэнгвільскага старасты, а таксама суддзі гранічнага, генерала Кіеўскага ваяв., кіраўніка Украінскага і Падольскага аддзелаў той жа харугвы Міхаіла Цёлак-Камароўскага (1771). Потым крайчы мсціслаўскі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1788), яго сыны Адам і Людвік.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***А.Шпунт***

## 163. Стацэвічы гербу «Любіч»



Выводзіліся з Лідзкага пав.

Рг. - Стэфан, пакінуў сына Фабіяна (нар. у 1720). Сын апошняга Юзаф (нар. у 1751), ротмістр Навагрудзкага пав. (1793), атрымаў у пасаг за жонкай Ганнай Стахоўскай фальв. Лоўцы (ці Марозавічы), меў сыноў Яна і Францішка.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***А.Ганущ***

## 164. Стралкі гербу «Астоя»

Выводзіліся з Пінскага пав., як сведчыць попіс мясцовай шляхты за 1528.

Вядома: Юрый-Казімір Крыштафавіч Здановіч з жонкай Хрысцінай, дачкой Андрэя Кміты, прадалі фальв.Санькоўшчына ў Навагрудскім ваяв.



Аляксандру і Ганне (Псялта?) С. (1682). Пётр, Марцін і Андрэй С. судзіліся з Палхоўскімі і інш. (1728).

Рг. - Аляксандр, меў сыноў Пятра (беспатом.), Марціна (беспатом.) і Андрэя, які пакінуў сыноў Пятра (яго тэстамент 1740) і Марціна (яго дароўны запіс 1752), што ўступілі спадчынны фальв. Санькоўшчына дзядзьку Дамініку. Апошні пакінуў сыноў Ігнацыя, яго сын Юзаф, Яна, яго сыны Юзаф, Юрый і Марцін, Казіміра, яго сын Канстанцін, і Міхаіла.[1]

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Разам з імі выводзіліся Міхаіл з сынамі Янам і Марцінам, Ігнацы з сынам Юзафам, і Андрэй з сынам Дамінікам.

***С.Рыбчонак***

## 165. Стыпулкоўскія гербу «Дзях»

Выводзіліся з Бельскай зямлі Падляскага ваяв., дзе С. валодалі маёнт.Боркі і Стыпулкі.

Рг. - Марцін меў сына Грыгорыя і ўнукаў Валенція, які перасяліўся ў Наваградзкае ваяв., дзе набыў фальв.Белас, Станіслава, Сымона і Юзафа, якія засталіся на спадчынных землях. Валенці меў сыноў Вінцэнта і Ігнацыя. Гэта пацвярджала сведчанне 1773 ад ураднікаў Бельскай зямлі Падляскага ваяв.



Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

***З.Яцкевіч***

## 166. Грынкевічы-Суднікі гербу «Леліва»



Зямяне Наваградзкага і Троцкага ваяв.

Вядома: тэстамент Казіміра С. за 1675;

- судовы працэс 1674 паміж Анастассяй Казіміравай з Мерлаў, маці, Юзафам, Багуславам і Станіславам, сынамі, С., і Янам, бацькам, і Станіславам, сынам, С.;

- дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ па справе Багуслава С. з Самуэлем Камінскім, пісарам гродзкім наваградзкім, аб прэтэнзіях па закладу фальв. Пархімовічы (1694);

- судовы працэс паміж Янам

і Юрыем Станіслававічамі і дзядзькам Станіславам-Фларыянам Г.-С., сакратаром і дваранінам ЯКМ (1699-1701);

- Тамаш С., ленны ўладальнік 5 валок зямлі па прывілею кн. Ганны з роду Сангушкаў Радзівіл, канцлеравай ВКЛ (1722), якую пакінуў унуку Юзафу Янавічу, а той сваім сынам Андрэю і Яну, ды іншым нашчадкам.

Выводзіліся: Андрэй[1] з сынамі Ануфрыем і Ігнацыем, ды пляменнікам Юзафам; Юзаф з сынамі Францішкам і Нікадэмам, Якуб з сынамі Янам, Вінцэнтам і Юзафам; Ян з сынамі Міхаілам і Паўлам; Базыль і Юзаф, браты родныя; Аляксандр, Ян, Юзаф і Банавентура, таксама браты родныя; Стэфан з сынам Каэтанам; Базыль з сынамі Каралем і Антоніем; Мацвей, Юзаф і Сымон, браты родныя; Базыль з сынамі Каралем, Янам, Пятром, Юзафам, Антоніем і Францішкам, а таксама Юзаф Г.-С.

Прызнаны ў дваранстве 30.05.1800.

---

[1] Напэўна, сын Юзафа Янавіча.

***З.Яцкевіч***

## 167. Сухадольцы гербу «Абданк»[1]



Рг. - Фёдор, уладальнік маёнт. Бардзячы і Перасекі ў Наваградзкім ваяв., ад шлюбу з Рэгінай Кашыц пакінуў сыноў Самуэля (беспатом.), Стэфана, Паўла (беспатом.), Пятра, Давіда (беспатом.) і Яна, якія падзялілі спадчыну паміж сабой у 1652. З іх Стэфан прадаў сваю долю ў маёнт. Перасекі і перасяліўся ў Віленскі пав., пра Яна звестак не захавалася, а Пётр спадчыны не атрымаў, бо пражываў у Полацкім ваяв. Сын Пятра Ян, уладальнік маёнт. Савін у Слонімскім пав., які набыў ад Францішка Кушаля (1719), пакінуў 5 сыноў, у т.л. Антонія. Сыны апошняга: Тадэвуш, падпалкоўнік войск пол., Караль, суддзя бярозаўскі, Вінцэнт, харужы 2-й брыгады войск літ., і Ян, паручык Скарбавай харугвы ВКЛ, адкупілі частку былой спадчыны ў маёнт. Бардзячы (інтрамісія 1797).

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1] У арыгінале малюнак дакладна адпавядае гербу «Сыракомля».

***А.Шпунт***

## 168. Сухарэбскія гербу «Астоя»

Ужывалі родавы прыдомак Воўчак (Wolczek).

Рг. - Самуэль і Ян, сыны Марціна, уладальнікі фальв. Тараевічы, які набылі ад Фёдара і Кацярыны з Мінкевічаў, Яна і Марыянны з Сідараў, Івана і Аўдаксіі з Шпакоў Тараевічаў (1653). Сыны Самуэля: Феліцыян і Сымон, валодалі таксама фальв. Волца, з іх першы пакінуў сына Гераніма, яго сын Клеменс, а другі - сына Станіслава.

Брат Самуэля Ян пакінуў сыноў Міхаіла і Пятра, што перасяліліся ў Карону, Юрыя (бес-патом.) і Тэадора, што стаў спадчыннікам фальв. Тараевічы (1699). Сын апошняга Міхаіл меў сыноў Аляксандра, Тадэвуша, Тамаша, Пятра і Стэфана, з якіх Стэфан узяў жонку з Сапліцаў, яго сыны Лаўрэнці і Казімір, таксама набыў з братам Тадэвушам фальв. Трасцейкі ад Ігнацыя і Цэцыліі з Сапліцаў, бацькоў, і Яна, сына, Дашкевічаў (1787).

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.[1]

[1]Разам з імі выводзіліся Францішак з сынам Аляксандрам і Міхаіл з сынам Антоніем В.-С.
***С.Рыбчонак***

## 169. Сухоцкія гербу «Астоя»

Магчыма ўжывалі родавы



прыдомак Юхневіч (Juchnicwicz).

Вядома крэдэнс ураднікаў і абывацеляў Ваўкавыскага пав. на сойміку 1689 Сымону-Антонію з Лаўрыновіч С.

Рг. - Станіслаў Сымонавіч, пакінуў сына Міхаіла, што набыў фальв. Дарэў-Леўкаўшчына ў Наваградзкім пав ад Антонія Зараўскага (1758). Сын Міхаіла Юзаф, таксама ўладальнік фальв. Кавердзякаўшчына, які набыў ад Яна і Брыгіды з Гаслаўскіх Урачымскіх (1762), ад шлюбу з Разаліяй Яновіч меў сыноў Міхаіла, Вінцэнта і Францішка, дзедзічаў маёнт.Дарэў. Разам з імі выводзіліся Францішак, сын Станіслава, унук Сымона, з сынамі Юзафам і Вінцэнтам.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.
***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 170. Сымановічы гербу «Побаг»

Выводзіліся з Мерацкага пав. Троцкага ваяв.

Рг. - Тэадор, ад шлюбу з Марыяннай Яцунскай меў сыноў Яна і Міхаіла. Апошні - дзяржаўца Падгайскага ( ці Стульгівальскага ) староства[1] па



прывілею Караля Станіслава-Аўгуста, таксама ўладальнік маёнт. Маштакжа, дзе фундаваў за індультам віленскага біскупа Зенковіча капліцу (1755), узяў шлюб з Беатай Бялавескай. Сыны Міхаіла: Юзаф і Ян, законнікі іезуіцкія, Леанард, пробашч вейшыскі і бержніцкі, Баніфацы, Вінцэнт і Антоні, дочкі: Соф'я, у шлюбе за Андрэйкавічам, ды Францішка, у шлюбе за Міхаілам Стрыжэўскім. З іх Баніфацы, ротмістр наваградзкі, дзедзіч маёнт. Ліпніца, пакінуў сыноў Рамуальда і Мацвея.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1] У Мерацлаўскай парафіі, у 1799 у Польскай Прусіі.

***З.Яцкевіч***

## 171. Табартоўскія гербу «Паўкозіц»

Рг. - Самуэль, скарбнік наваградзкі, ад жонкі Ганны з Лопатаў Быкоўскай пакінуў сына Адама, што пацвердзіў дакумент аб апецы маці з малалетнім сынам (1724). Пазней Адам, уладальнік маёнт. Малюшыцы-Вуглы ў Наваградзкім ваяв., яго жонка Іаанна з Керсноўскіх, дачка лоўчага старадубскага, пакінуў сыноў Юзафа і Нікадзіма і дачку, якія прадалі спадчыну Феліцыяну Казімірскаму ў 1773 і набылі ад Тамаша Войніча фальв. Ваўканоша ў тым жа павеце (1795).



Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 172. Тарасовічы гербу «Крыўда»



Выводзіліся: Станіслаў, ротмістр Наваградзкага пав., з сынамі Янам, Ігнацыем і Адамам, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Ваўкавыскага пав (1798).

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 173. Гедройць-Тоўцікі гербу «Топач»

Рг. - Мікалай, згодна прывілея на шляхецтва Караля Яна-Казіміра ад 1650, за вайсковыя



заслугі атрымаў герб "Топач" і прыдомак "Гедройць", што відаць з судовага дэкрэта 1751 з Суднікамі ў ардынацыі Нясвіжскай. Сыны Мікалая: Міхаіл (нар. у 1686) і Ян, ленныя ўладальнікі зямлі ў засценку Залоцце Мірскага графства па прывілею ад кн. Ганны з Сангушкаў Радзівіл, канцлеравай ВКЛ (1722). Міхаіл меў сыноў Казіміра (беспатом.) і Юзафа (нар. у 1720), якім і пакінуў у спадчыну засценак Залоцце.

Сыны Юзафа: Стэфан (нар. у 1757) і Ян, спадчыннікі вышэйзгаданага ўладання. Стэфан меў сыноў Міхаіла і Вінцэнта, яго брат Ян - сыноў Казіміра-Ваўжынца і Юзафа.

Прызнаны ў дваранстве 20.06.1800.

***З.Яцкевіч***

## 174. Трoскі гербу «Троска»

Рг. - Аляксандр, войскі Наваградзкага ваяв. па прывілею караля Яна III, у 1666 узяў шлюб з Марыяннай Пратасовіч, ад якой меў сыноў Мацвея, Яна, Станіслава, Казіміра, Міхаіла, Францішка, Яна, Адама, Юзафа, Марціна, Тамаша і Бенядзікта. З іх Тамаш пакінуў сына Ігнацыя і ўнукаў Яна і Рафаіла, а Бенядзікт пакінуў сыноў Мацвея, Фларыяна і Ігнацыя. Апошні меў сыноў Міхаіла і Юзафа, спадчынных уладальнікаў фальв. Астраўкі



Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

***З.Яцкевіч***

## 175. Трускоўскія гербу «Боньча»



Ужывалі гербавы прыдомак Драгаслаў (Drogoslaw).

Рг. - Казімір, ад жонкі Агаты з Івашкевічаў меў сына Андрэя, які ўзяў шлюб з Ганнай Віткоўскай. Іх сын Антоні, унук Ігнацы, які ад жонкі Ганны з Вольскіх пакінуў сына Францішка. Апошні - каморнік наваградскі, судзіўся з падчашым віленскім Марцінкевічам, Дышлевічамі, Аганоўскімі і інш. абывацелямі Лідзкага пав. (1779, 1780, 1782). У пасагу за Францішкай Семірадзкай узяў

фальв. Гараінаўшчына ў Наваградзкім пав., яго сыны Казімір і Гіпаліт.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***С.Рыбчонак***

## 176. Трушынскія гербу «Рагаля»

Ужывалі родавы прыдомак Сасовіч (Sosowicz).

Вядома: ліст Караля Жыгімонта I наваградзкаму ваяводзе Яну Янавічу Забжэзінскаму ў адказ на скаргу Івана Мішкавіча, Ігнацыя Сасовіча Т., Меня Малышэвіча і Меня Хадаровіча з пацвярджэннем, каб яны са сваіх спадчынных земляў у маёнт.Праценёвічы і Качыцы, наданых іх продкам кн. Вітаўтам, ніякай павіннасці на карысць Наваградзкага замка ЯКМ не выконвалі (1521).

- Люба, дачка Астафія Райкевіча, жонка Андрэя С.-Т., уладальніца фальв. Шчонаў, адказала адну палову маёмасці сынам Грыгорыю, Мікалаю і Фёдару, а другую - мужу (1652).

- Ісідар Т., уладальнік зямлі ў фальв. Шчонаў (1712).

- Ян Аляксандравіч Вышынскі прадаў фальв. Равіны ў Наваградзкім ваяв. Лукашу і Марыянне з Парфяновічаў С.-Т. (1672).

- Самуэль С.-Т., каморнік наваградзкі па патэнту падкаморага Гераніма-Алаізія Жабы (1721).

- Станіслаў Т. набыў фальв. Русілаўка-Ваўканоша ў Наваградзкім ваяв. ад маці Канстанцыі з Крыштафовічаў, у першым шлюбе за Янам, у другім - за Казімірам Курачыцкім (1737).



- Стэфан і Казіміра з Патрыкоўскіх С.-Т. прадалі спадчынную па бацьку Мікалаю зямлю ў фальв. Шчонаў Сымону Т. (1791).

Выводзіліся. Стэфан з сынамі Марцінам, Ігнацыем і Мацвеем, Андрэй, Сымон і Ян з сынам Марцінам, уладальнікі фальв. Шчонаў; Базыль з сынамі Клеменсам і Янам, Францішак, Тамаш з сынамі Сымонам і Якубам, Ян з сынамі Канстанцінам і Францішкам, Дамінік з сынам Юзафам, Пётр і Андрэй, родныя браты, уладальнікі зямлі ў вак. Равіны; Юрый з сынамі Клеменсам, Ігнацыем і Адамам і братам Адамам, таксама з Равінаў; Ігнацы з сынамі Вінцэнтам і Людвікам і братам Леонам, уладальнікі фальв. Русілаўка-Ваўканоша.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798 (11.01.1799).

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 177. Туганоўскія гербу «Масальскі»



Рг. - Сямён Іванавіч, уладальнік маёнт. Туганавічы ў Наваградзкім ваяв. па прывілеях Караля Жыгімонта I (1510, 1529). Яго сыны: Міхаіл і Іван, падзялілі бацькаву спадчыну ў 1566. Іван узяў шлюб з Рэгінай Адахоўскай, пакінуў сыноў: Андрэя, Станіслава, Яна і Мікалая, аб чым сведчыць запіс аб падзеле маёмасці за 1595. Сын Яна Самуэль атрымаў ад маці Рэгіны Сулістроўскай спадчыну, якую пакінуў сынам: Казіміру, Яну (беспатом.), Паўлу і Габрыэлю (беспатом.), як сведчыць тэстамент бацькі (1682).

Казімір пакінуў сына Станіслава (дэкрэт 1756), які узяў шлюб з Розай Вольскай, яго сыны: Казімір і Антоні. З іх апошні разам з сынамі Казімірам, Станіславам і Міхаілам судзіўся з Верашчакам (1789).

Другі сын Самуэля Павел меў жонку Соф'ю з Семірадзкіх і сыноў: Адама (беспатом.) і Юзафа - спадчыннікаў па бацьку (тэстамент 1716). Сыны Юзафа: Марк, войскі наваградзкі, Ігнацы, пісар таго ж павета, дзедзіч фальв. Рутка, Агароднікі, Каспер, Тадэвуш і Антоні (абодва апошнія - манахі), што прадалі спадчынны па бацьку фальв. Ястрэбль Яблонскаму (1768). З іх Марк, уладальнік фальв.Смолчыцы, пакінуў сыноў Яна, рэгента наваградзкага, і Вінцэнта, а Каспер - сына Ігнацыя.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***С.Рыбчонак***

## 178. Узлоўскія гербу «Тапор»



Вядома: Адам Эйсымонтавіч У., падпісаў элекцыю Караля Ўладзіслава IV

- Ленарт Эйсымонтавіч, падсудак ваўкавыскі, уладальнік маёнт. Сідоркі.

- Крыштаф Эйсымонтавіч, пісар гродзкі наваградзкі.

Рг. - Андрэй, дзедзіч маёнт. Узлоў у Слонімскім пав. Яго сын Дамінік валодаў таксама фальв. Тучын у Мінскім ваяв., які пакінуў сыну Казіміру (тэстамент 1691). Апошні, падстолі полацкі і скарбнік наваградзкі, дзедзіч фальв. Дорагаў, Мастыцічы ў Наваградзкім і Узлоў у Слонімскім пав., меў у закладзе

маёнт. Міцэвічы (Наваградзкі пав.). Яго жонка Канстанцыя з Цэдроўскіх, сыны Антоні (беспатом.), Францішак, Аляксандр. Дамінік і Багуслаў, што падзялілі спадчыну паміж сабой (1745).

З іх Аляксандр, чашнік старадубскі, валодаў закладным фальв. Міцэвічы, таксама дзедзіч маёнт. Валоўка, Заазер'е, Міратычы, Чомбраў, Грыцэвічы і Ўзлоўцы, ад жонкі з Гінтэраў меў сыноў Роберта (беспатом.), <u>Вінцэнта</u>, шамбяляна Польскага Двара, і <u>Ігнацыя</u>, суддзю земскага кобрынскага.

Дамінік узяў шлюб з Урублеўскай, яго сыны <u>Міхаіл</u> і <u>Зыгмунт</u>, дзедзічы фальв. Вінкаў у Слуцкім пав.

Багуслаў, дзедзіч фальв. Валоўка, Заазер'е, Чомбраў, Дорагаў, Грыцэвічы і інш., ад жонкі Малгажаты з Семірадзкіх пакінуў сыноў Яна (беспатом.), Вінцэнта і <u>Юзафа</u>. Апошні, ротмістр і камісар гранічны Наваградзкага пав., спадчыннік маёнт. Дорагаў (1780) і Чомбраў, яго сыны <u>Казімір</u>, <u>Дамінік</u>, <u>Францішак</u>, <u>Ігнацы</u> і <u>Ян</u>.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 179. Уланоўскія гербу «Суліма»

Вядома: Самуэль У., спад-



чынны ўладальнік маёнт. Бухаўшчына, што засведчылі квітамі паборцы Наваградзкага ваяв. Мікалай Пачапоўскі (1627) і Аляксандр Каменскі (1628).

- Самуэль з жонкай Канстанцыяй з Беліковічаў Панфіловічы прадалі фальв. Малое Сялко (Наваградзкі пав.) Яну і Марыянне Панфіловічаўне У. (1715).

- Павел з жонкай Канстанцыяй з Куковічаў Панфіловічы прадалі тры нівы ў фальв. Малое Сялко Юзафу і Разаліі з Жукоўскіх У. (1745).

- дароўны запіс Самуэля Панфіловіча Мікалаю і Тэрэзе з Панфіловічаў У. на 1/2 частку фальв. Малое Сялко (1762).

Выводзіліся: <u>Якуб</u>, <u>Ігнацы</u>, <u>Ян</u> і <u>Антоні</u>, сыны Міхаіла, унукі Юзафа, праўнукі Яна, уладальнікі фальв. Малое Сялко.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***З.Яцкевіч***

## 180. Фуровічы гербу «Вуж каранаваны»

Ужывалі родавы прыдомак Неўдоўскі.

Вядома: справа татарына Яцка Ўлана аб непрызнанні права выданага яму Васілём і



Мікаласм Міхайлавічамі Н.-Ф. на пусташ Буравізчына-Гнеўкаўшчына (1634);

- закладное права ад Грыгорыя і Алены з Падрэцкіх Н.-Ф. на маёнт. Малюшыцы (1676).

Рг. - Тамаш, спадчыннік маёнт. Волца, як засведчыў квіт паборцы і рэгента наваградзкага гродзкага Яна-Антонія Бранца (1725), пакінуў сына Яна-Антонія, што набыў маёнт. Парадневічы ў Наваградзкім ваяв. Яго сын Антоні прадаў маёнт. Парадневічы старасце пулкінаўскаму Яну Івашкевічу (1771), пакінуў сыноў Вінцэнта, Дамініка, Антонія і Каэтана.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак***

## 181. Хадароўскія гербу «Корчак»

Па родаваму паданню паходзілі з Венецыі ці з Венгрыі, адкуль праз Польшчу патрапілі ў Княства.

Рг. - Ян, пакінуў сына Даніэля. Апошні ўзяў шлюб з Вішнявецкай, ад якой меў сыноў Юзафа, яго жонка Марыянна Міроўна, Яна, яго жонка Гальцоўна, Крыштафа, яго жонка з Фелькерзамбаў, і Якуба, яго жонка Газ(ц)лераўна, сын Казімір (нар. у 1744)[1].



Сыны Яна Даніэлевіча - Францішак (беспатом.), Стэфан і Юзаф, з якіх Юзаф быў спадчыннікам маёнт. Хадароўшчына ў Лідзкім пав. (1716), меў жонку Петранэлю з Мараўскіх і сына Казіміра (нар. у 1708), а Стэфан, атрымаў квіт ад брата Юзафа ў 1750, меў жонку з Шрэтэраў, сына Яна (нар. у 1740) і ўнука Стэфана, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Слонімскага пав. за 1798.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

---

[1]Хросныя метрыкі са Слуцкага евангельскага збору.

***З.Яцкевіч***

## 182. Хабалтоўскія-Харацкевічы гербу «Рох II»

Выводзіліся з Аршанскага пав.

Рг. - Антоні, валодаў маёнт. Труханавічы ў Аршанскім пав., які пазней прадаў, перасяліўся ў Наваградзкае ваяв., пакінуў сына Яна і ўнука Мікалая.

Апошні меў сыноў Стэфана (нар. у 1726), яго сын Антоні, Андрэя, яго сыны Юзаф (нар. у 1757), Вінцэнт і Ігнацы, Яна, яго сыны Матэвуш і Сымон, якія пры вывадзе ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абываццеляў Аршанскага пав., у т.л. сваяка Адама Х. (нар. у 1772), калежскага сакратара, за 1797.

Прызнаны ў дваранстве 20.06.1800.

***С.Рыбчонак***

## 183. Хацкевічы гербу «Магіла»



Ужывалі родавы прыдомак Ціхановіч (Ciechanowicz).

Па родаваму паданню паходзілі ад Ціхана Х., уладальніка па прывілею гр. Іініча пяці валок зямлі ў Мірскім графстве (1566)[1], з абавязкам выконваць вайсковую службу.

Выводзіліся: Францішак і Юрый з сынам Францішкам Х.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Разам з Ціханам тым жа прывілеем атрымалі зямлю Грынь і Васіль Сідаровічы.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 184. Хлявінскія гербу «Радван»



Па родаваму паданню паходзілі ад Міхаіла Багдановіча, ураджэнца Кіеўскага ваяв., які служыў пад началам кн.Канстанціна Астрожскага і прымаў удзел у розных кампаніях. За прапановай апошняга перад узяццем Смаленска Глінскім быў узнагароджаны Каралём Жыгімонтам I в.Папротчыцы ў Прапойскім старостве Рэчыцкага пав. (1514). Ад жонкі з роду Голубаў меў сына Яна, з якога менавіта і пачаўся род Хлявінскіх.

Ян служыў пад началам кн.Міхаіла Юр'евіча Радзівіла, троцкага, а пазней і віленскага ваяводы, гетмана ВКЛ, за што атрымаў ад Караля Жыгімонта-Аўгуста ва ўласнасць дзяржаву Хляўно ў Рэчыцкім пав. (1551, 1563), ад назвы якой і пачаў пісацца Хлявінскі. Узяў шлюб з Агнешкай Хамічоўнай, ад якой меў сыноў: Юрыя, Якуба, Багдана, Лукаша і Пятра, якія сталіся бацькавымі спадчыннікамі (тэстамент 1596).

Юрый атрымаў сваю долю ў Папротках, удзельнічаў у вайне Караля Стэфана з Масковіяй, у тым ліку быў пры адваёве

Полацка. Ад шлюбу з Горскай пакінуў сыноў: Канстанціна, Грыгорыя і Філона. З іх першы ад шлюбу з Барадзічоўнай меў сына Аляксандра, а астатнія служылі ў гусарскай харугве мсціслаўскага падкаморага Багдана Стэцкевіча і вызначыліся адвагай у вайне з Масковіяй (Шэкінаўская кампанія). Асабліва пашанцавала Грыгорыю, ротмістру Рэчыцкага пав. З абозу пад Смаленскам ён адлучыўся ў Хляўно па асабістых справах, аднак ноч заспела яго ў Прапойску. Пад час святочнай імшы ў гонар Божага Нараджэння, калі ўсе жыхары былі ў царкве, на мястэчка напала маскоўскае войска. Грыгоры праявіў сябе як выдатны военачальнік, арганізаваў са сваімі людзьмі адпор, разбіў захопнікаў і ўзяў вялікі палон, за што быў узнагароджаны Каралём Уладзіславам IV. Як Грыгоры, так і Філон адказалі сваю спадчыну дзядзьку Лукашу.

Другі сын Яна, Якуб таксама быў удзельнікам войнаў за панаваннем Каралёў Стэфана і Жыгімонта III, у т.л. быў пры ўзяцці Смаленска полацкім кашталянам Зяновічам. Меў жонку з роду Злоцкіх (з Кароны) і сыноў: Марціна, Мікалая, Крыштафа і Яна. З іх Мікалай і Марцін служылі ў гусарскай харугве ў Інфлянтах пад час вайны са Швецыяй, за што першы атрымаў ад Караля Жыгімонта III прывілей на в.Мегічы. Марцін памёр ад ранаў, атрыманых пад Быхавам, пакінуўшы ад жонкі Непшычанкі сына Якуба. Апошні служыў у харугве свайго дзядзькі Мікалая, у сутычцы з маскавітамі пад Мядзелем быў паранены ў галаву і трапіў у палон, дзе знаходзіўся некалькі гадоў, а пасля вяртання служыў у пяцігорскай харугве. Вышэйзгаданы Мікалай пад час вайны з казакамі быў падпаручыкам пад началам Самуэля Лукомскага, вызначыўся ў сутыкненні пад Мглінам, дзе атрымаў два раненні, пазней служыў пад началам свайго сястрана Стэфана Няроўшынскага, а пасля смерці апошняга быў ротмістрам той жа харугвы на працягу дзесяці гадоў, праявіў вялікую адвагу ў баю пад Кушлікамі, памёр беспатомным. Крыштаф быў манахам іезуіцкага закону ў Вільні. Яго брат Ян доўгі час служыў у кварцяным войску (наймітам) за межамі радзімы, пазней быў дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ, паслом на Сойм ад Аршанскага пав., паборцам. Меў жонку з Баратынскіх, суддзянку земскую аршанскую, і сыноў Станіслава, Мікалая і Дамініка. З іх Станіслаў і Мікалай служылі ў пяцігорскай харугве войск літ. У т.л. Мікалай адзначыўся ў бітве пад Хоцімам, дзе быў па-

ранены ў галаву, атрымаў у спадчыну па бацьку маёнт. Вацеры ў Аршанскім пав.

Трэці сын Яна, Багдан, з маладых гадоў у часы панавання Караля Стэфана служыў у розных харугвах на Украіне, пад началам гетмана Вішнявецкага. Прадаў сваю долю спадчыны ў маёнт. Папроткі і Хляўно роднаму брату Якубу. Ад Нуркаўны Шапшанкі, дачкі віцебскага суддзі, меў сыноў: Яна, Аляксандра, Даніэля і Грыгорыя, якія ўсе адзначыліся на вайсковай службе. У т.л. Ян - у Інфлянтах супраць Пунтуса, за што таварышы празвалі яго "Пунтусам", Аляксандр ваяваў разам з ім, Даніэль - супраць казакаў пад началам Яна Паца, харужага літ., вызначыўся ў сутыкненні пад Белай Царквой у складзе харугвы Рудаміны, пасля чаго хутка памёр, Грыгоры таксама загінуў на вайне.

Пяты сын Яна, Пётр з маладых гадоў ваяваў на Украіне з казакамі, дзе быў удзельнікам шмат якіх бітваў. З жонкай Кубліцкай пакінуў сыноў Яна, Юрыя, Багдана і Базыля. З іх Ян узяў шлюб з Нестрыечанкай. Юрый спачатку служыў у Італіі, потым пры кн. Радзівілу, а пазней зноў у Італіі паручыкам пешай харугвы, дзе і быў забіты. Багдан пад час вайны з казакамі служыў у панцырнай харугве пад началам Паца, а таксама ваяводы віленскага Сапегі, потым у харугве каронНага маршалка Любамірскага, загінуў у сутычцы з татарамі. Базыль таксама ваяваў з казакамі, даслужыўся ў розных харугвах да годнасці паручыка, пазней - падстолі віцебскі. Яго сыны Станіслаў і Лаўрэнці. З іх Станіслаў, палкоўнік Эйрагольскага пав. Жамойцкага княства, меў сына Міхаіла, ротмістра Велёнскага пав., дзедзіча маёнт. Целаў у тым жа княстве. А Лаўрэнці быў суддзёй гродзкім Гарадзенскага пав. Яго сын Тадэвуш, суддзя гродзкі таго ж павета, дзедзіч маёнт. Астравец і Бакатаны (Гарадзенскі пав.).

Чацвёрты сын Яна, Лукаш, у часы Жыгімонта III таксама быў удзельнікам шматлікіх войнаў, у т.л. з Масковіяй і Турцыяй, адзначыўся пад Хоцімам у складзе харугвы полацкага кашталяна Мікалая Зяновіча. Узяў шлюб з Катылянкай, ад якой меў сыноў: Яна, Мікалая, Тамаша і Даніэля. З іх Ян адразу пасля школы служыў паручыкам у харугве пад началам смаленскага ваяводы Гансеўскага ў Інфлянтах, асабліва праславіўся ў бітве пад Прозарам, дзе ў прысутнасці Караля першым перабраўся цераз роў, за што атрымаў ва ўзнагароду в.Лабаноўцы са 100 сялянамі ля Магілёва, а праз некалькі гадоў

2 тыс. злотых ад казны і яшчэ 3 вёскі ў Старадубскім пав. Пазней той жа Ян з Самуэлем Лукомскім, маючы толькі дзве харугвы, сутыкнуліся з казакамі агульнай лічбай 1115 чалавек пад Рэлітай і прымусілі іх адступіць, у той бітве Ян атрымаў раненне рагацінай у горла. Будучы камендантам Гомеля, мужна супрацьстаяў аблозе 40 тыс. войска Падабайлы, адбіў усе штурмы і там загінуў. Меў ад Уластоўскай сына Казіміра, які стаў іезуітам. Малодшы брат азначанага Яна, Мікалай, паручык гусарскай брыгады, гераічна загінуў пад Смаленскам.

Яшчэ адзін сын Лукаша - Тамаш стаў спадчыннікам усіх маёнткаў па бацьку, пісар, потым падсудак, і нарэшце, суддзя земскі Рэчыцкага пав. Яго сыны - Уладзіслаў, стольнік рэчыцкі, Ян-Багуслаў, войскі таго ж павета, і Антоні, ксёндз. З іх Уладзіслаў пакінуў сыноў: Пятра, плябана, Аляксандра, Ігнацыя, манаха іезуіцкага закона, Станіслава, стольніка Рэчыцкага пав., Антонія і Юзафа, якія ўсе, акрамя Станіслава, памерлі беспатомнымі. Сыны Станіслава: Ян, Мікалай і Якуб.

Другі сын Тамаша, Ян-Багуслаў пакінуў сыноў: Антонія (беспатом.), Аляксандра, войскага і падстарасту судовага рэчыцкага, Марціна, скарбніка, і Бенядзікта, крайчага таго ж павету. Ад войскага Аляксандра паходзяць Марцін, суддзя гродзкі, і Казімір, маршалак Рэчыцкага пав.; ад скарбніка Марціна - Тадэвуш, войскі; а ад крайчага Бенядзікта - Ігнацы, падстараста судовы рэчыцкі, і Алена, у шлюбе за стольнікам старадубскім Вышынскім. Сын Тадэвуша Марцінавіча Адам, уладальнік маёнт. Стараельня ў Наваградзкім ваяв.

Нарэшце, родны брат Тамаша, Даніэль, падстараста старадубскі, меў сыноў: Яна-Даніэля, падстарасту таго ж павета, Самуэля і дачку Саламею, у першым шлюбе за Зубоўскім, у другім - за Рымшам.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

***С.Рыбчонак***

## 185. Хмялеўскія гербу «Радван»



Рг. - Мікалай, валодаў вёскай Хмялёва ў Ліўскай зямлі, якую прадаў, і набыў зямлю ў шляхецкай вак. Скалімава (ці Пташкі) Падляскага ваяв. Яго сыны: Ян, Тамаш і Валенці, які меў сыноў Станіслава, Паўла і Якуба, спадчынных уладальнікаў маёнт. Скалімава-Пташкі, аб чым засведчыў Люб-

лінскі дэкрэт трыбунальскі 1608. Якуб заклаў сваю частку маёнт. Скалімава-Пташкі свайму брату Паўлу ў 1612 за 90 злотых пол. і перасяліўся на Літву.

Сыны Якуба: Пётр, Ян і Аляксандр. Апошні, згодна свайго тэстамента 1669, меў сына Андрэя. Сын Андрэя, Мацвей сваю частку маёнт. Скалімава-Пташкі прадаў Станіславу Х. у 1749, пакінуў сыноў Яна (нар. у 1742) і Стэфана (нар. у 1747). У Стэфана былі сыны: Юзаф (нар. у 1783) і Адам (нар. у 1790).

У якасці доказу на шляхецтва прад'явілі пасведчанне ад ураднікаў і абывацеляў Слонімскага пав. ад 1798.

Прызнаны ў дваранстве 9(20).12.1798.

***З.Яцкевіч***

## 186. Хомічы гербу «Окша»



Зямяне Лідзкага і Наваградзкага пав.

Вядома: прывілей Караля Жыгімонта-Аўгуста ад 1568 аб дазволе Пятру Паўлавічу Х., зямяніну ЯКМ, пабудаваць у сваім маёнт. Данава (Лідзкі пав.) карчму пры дарозе вялікай з Мучы да Палстакаў на Вільню;

- канфірмацыйны прывілей на наданне Юрыем Ілінічам 5 валок зямлі ў маёнт. Сяльцо ў Мірскім графстве Х.;

- Ян і Сымон Х. набылі ў Ігнацыя і Схалястыкі Церпіцкіх фальв. Шабаншчына ў Наваградзкім пав. (1780).

Выводзіліся: Сымон і Антоні, сыны Юрыя, унукі Юзафа; Станіслаў, сын Яна, унук Юрыя, праўнук Юзафа; Мікалай і Павел, сыны Юзафа, унукі Сымона, праўнукі Паўла; Юзаф, сын Юрыя, унук Стэфана, праўнук Сымона; Адам, сын Міхаіла, унук Рамана, праўнук Юзафа; Тамаш, сын Францішка, унук Лукаша; Базыль з сынамі Ігнацыем і Майсеем; Юзаф з сынам Сымонам; Базыль з сынам Пятром; Бенядзікт з сынамі Сымонам, Мікалаем і Паўлам; Базыль з сынам Янам, унукам Станіславам; Вінцэнт і Станіслаў, браты родныя; Тэадор з сынам Тамашам; Юзаф, Тэадор, Адам і Міхаіл, сыны Сымона; Леанард, Караль і Францішак, сыны Антонія; Фелікс і Сільвестр, сыны Юзафа; Францішак, Тамаш, Міхаіл і Антоні, сыны Адама; Антоні, Францішак і Вінцэнт, сыны Тамаша; Міхаіл, сын Паўла Х.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 187. Літавор-Храптовічы гербу «Адравонж»

Ужывалі родавы прыдомак Літавор (Litawor).

Па родаваму паданню і згодна Каяловічу паходзілі ад Данілы па прозвішчу Літавор, што меў двух сыноў Івашку і Яцка. Апошні з іх пакінуў чатырох нашчадкаў: Данілу, Міцька, Васіля і Багдана, якія падзялілі паміж сабой родавы маёнт. Шчорсы ў Наваградзкім пав.

Рг. - Багдан меў сыноў: Базыля, намесніка уладзімірскага (канфірмацыйны прывілей Вялікага князя Аляксандра на купленыя маёнткі 1495), Мікалая, Дзімітра, Яна, маршалка вялікага літоўскага, Тэадора, падскарбія літоўскага, і Марціна, як вядома з Літоўскай Метрыкі (Кн. 5, стар. 54; кн. 6, стар. 14; кн. 10, стар. 115, 133). З іх Марцін, у часы панавання Караля Аляксандра падпісаў чарговую польска-літоўскую вунію (1501). канюшы надворны, намеснік інфлянцкі (1497), атрымаў ад таго ж Караля в. Колчыцы (1503), таксама намеснік жамойцкі, пазней - канюшы троцкі па прывілею Караля Жыгімонта I (1524) і маршалак надворны літоўскі. Жонка Ганна з князёў Талачынскіх, сын Багдан, які далучыў да маёнт. Шчорсы зямлю, набытую ад Нялюбы Мішкавіча Шчарбовіча (1539). дзедзіч маёнт. Шчорсы (квіт на выплату падаткаў 1552), таксама пакінуў фундуш Колчыцкай царкве (1545). Жонка Багдана-Еўдакія Горская, сыны: Багдан (беспатом.) і Пётр, спадчыннік Шчорсаў па бацьку (1577). Ад першай жонкі Марцыяны з роду Зубкаў Пётр дзяцей не меў, ад другой - з кн. Чартарыйскіх - пакінуў сына Багдана, што судзіўся з Вайніловічамі і інш. суседзямі ў 1610, таксама пацвердзіў фундуш Колчыцкай царкве (1598). уладальнік Шчорсаў (квіт на выплату падаткаў 1607) і маёнт. Дарэўня ў Гарадзенскім пав., рэферэндары ВКЛ і сакратар ЯКМ. Жонка Кацярына з Длужнеўскіх, суддзяў плоцкіх, з якой меў сыноў: Яна (беспатом.), Альбрэхта і Міхаіла, што падзялілі паміж сабой у 1612 бацькаву спадчыну. З іх Альбрэхт узяў шлюб з Манькоўскай і пакінуў чатырох сыноў (пра якіх невядома).



Міхаіл жа, падстолі наваградзкі па прывілею Караля Уладзіслава IV (1633), першая жонка - Базылія Аўсяная, сын - Эліяш. другая - з Саковічаў. сыны: Ян. Багдан, Міхаіл і Адам. якім пакінуў спадчыну (тэстамент

1646)[1]. З усіх апошні па прывілею Караля Яна-Казіміра кашталян наваградзкі (1668), павялічыў свае ўладанні землямі, што набыў ад Эліяша Х. (1665). Жонка Адама - Эльжбета, дачка цівуна троцкага і полацкага старасты Паца, сын - Міхаіл, уладальнік Шчорсаў пасля бацькі (тэстамент 1703). Міхаіл жа падпісаў элекцыю Караля Аўгуста II (1698), як стараста вербельскі. Меў жонку - Феліцыянну Керсноўскую, дачку лоўчага наваградзкага, і сыноў Яна і Марцыяна.

Ян служыў гусарам пад началам польнага літоўскага гетмана Дэнгофа (1728), таксама дэпутат на Трыбунал (1731), стольнік Наваградзкага ваяв. і камісар ад войска на Скарбавы Трыбунал (1733), пасол на канвакацыйны Сойм (1736), зосельскі стараста, харужы каралеўскай пяцігорскай брыгады (1736), пасол на Гарадзенскі Сойм (1748) і Варшаўскі (1748), кашталян берасцейскі (1748), кашталян наваградзкі (1757). Жонка Ганна Ромер, войская вількамірская, ад якой меў трох сыноў, якія ўсе памерлі ў малалецтве.

А Марцыян, стараста вербельскі, дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ, з жонкай Рэгінай Война, дачкой падчашага наваградзкага, пакінуў сына Іаахіма і дачку Ганну, у шлюбе за пісарам земскім гарадзенскім, а пасля харужым надворным літоўскім і старастам гарадзенскім Каралем Храптовічам.

Іаахім служыў у гусарскай брыгадзе каралевіча Ксаверыя, дэпутат Галоўнага Трыбунала ВКЛ, стольнік Наваградзкага ваяв. (1752), пасол ад ваяводства на Варшаўскі Сойм (1756), пасол ад Старадубскага пав. і Наваградзкага ваяв. на Варшаўскі Сойм (1758), палкоўнік Вялікай булавы ВКЛ у пяцігорскай брыгадзе. Пасля смерці Караля Аўгуста III у Літоўскай канфедэрацыі маршалак ад Наваградзкага ваяв. і тады ж пасол на элекцыі Караля Станіслава-Аўгуста (1764), таксама пасол ад войска на каранацыйны Сойм таго ж Караля, сакратар літоўскі, маршалак Галоўнага Трыбунала ВКЛ (1766), пасол ад ваяводства на Варшаўскі Сойм, дэпутат камісіі па ўкладанню Канстытуцыі 1773, падканцлер літоўскі (1773) пасля смерці свайго цесця Антонія Пшэздзецкага, камісар Адукацыйнай камісіі і Дэпартаменту Акадэміі школ літоўскіх. На Сойме 1791 абраны міністрам замежных спраў. Па рашэнню Таргавіцкай канфедэрацыі здаў канцылярыю і касу каронпаму канцлеру Малахоўскаму, а пячатку Каралю перад Гарадзенскім Соймам. Жонка Канстанцыя Пшэздзецкая, сыны Адам і Ірынеўш, паміж якімі падзя-

ліў усю спадчыну (1795).

Прызнаны ў дваранстве 2(13).12.1798.

---

[1]Дарэчы, ваяводам навагрудзкім на той час быў Юрый Л.-Храптовіч з іншай галіны.

***С.Рыбчонак***

## 188. Чапскія гербу «Леліва»

Выводзіліся: Ігнацы, Антоні і Вінцэнт, сыны Антонія, унукі Міхаіла, абывацелі Варанчанскай парафіі, якія ў якасці доказу на шляхецтва прадставілі сведчанні адураднікаў і абывацеляў Навагрудзкага пав. за 1797 і 1800.



Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***З.Яцкевіч***

## 189. Чаркоўскія гербу «Абданк»

Вядома: Фелікс Аляксандравіч Ч., падстолі навагрудзкі, з жонкай Аленай Галаўнёй уступіў маёнт. Грыцэвічы ў Навагрудзкім пав. роднаму брату Ваўжынцу, таксама падстолію навагрудзкаму, і яго жонцы Гальшцы з Крыўцоў (1670), валодалі яшчэ маёнт. Нача ў тым жа павеце.



Рг. - Францішак, пакінуў сына Іаахіма, які ўзяў шлюб з Ганнай Багушоўнай і меў сына Ігнацыя. Апошні ажаніўся з Розай Лінкевіч, дачкой чашніка мінскага, яго сыны Геранім, у шлюбе з Урсулай Пратасевіч, дачкой суддзі земскага слуцкага, і Мікалай.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

***А.Шпунт***

## 190. Чэўжыкі гербу «Газдава»

Вядома: Грыгоры і Мікалай Ч., уладальнікі зямлі ў маёнт. Калдычаў, які атрымалі іх продкі, па прывілеях Каралёў Жыгімонта II Аўгуста (1564) і Стэфана Баторыя (1570)[1], якое наданне канфірмаваў (1646) кн. Аляксандр-Людвік Радзівіл, маршалак ВКЛ, з вызваленнем ад усялякіх павіннасцей акрамя вайсковай службы, што было пацверджана ў 1658 кн. Мі-



хаілам-Казімірам Радзівілам, падскарбім ВКЛ.

Выводзіліся: Антоні, сын Стэфана, унук Грыгорыя, з сынамі Рафаілам, Міхаілам і Станіславам, спадчыннікі зямлі ў вак. Калдычаў. Юзаф з сынам Людвікам, Тэадор і Ян, сыны Людвіка, унукі Стэфана, праўнукі Грыгорыя. Разам з імі выводзіліся Дыянісі і Бенядзікт, не пазначаныя ў генеалогіі.

Прызнаны ў дваранстве 30.05.1800.

---

[1] Відавочная памылка ў тэксце.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 191. Чэчоты гербу «Астоя»

Выводзіліся са Смаленскага ваяв., дзе валодалі спадчыннымі маёнткамі, што аказаліся захопленымі пры вайне з Масковіяй. Узамен іх за вайсковыя заслугі Ч. атрымалі па прывілею Жыгімонта-Аўгуста фальв. Ярашэў з 7 пусташамі і 5 службамі двара Моўчадскага ў Слонімскім пав. (1545), якое наданне было пазней канфірмавана Каралём Жыгімонтам III (1631) і Уладзіславам IV.

Рг. - Васіль Данілавіч, меў сыноў Дзмітрыя, Канстанціна, Івана і Федара, якія падзялілі паміж сабой спадчынны фальв. Ярашэў (1592). Дзмітры, напэўна, меў сыноў Аляксандра (беспатом.) і Андрэя, якія прадаў частку фальв. Ярашэў свайму дзядзьку Канстанціну Васілевічу (1609), а яшчэ адну частку і двух падданых - свайму брату Станіславу (1616). Фёдар Васілевіч меў сыноў Фёдара, Льва, Івана і Канстанціна (беспатом.). Фёдар Фёдаравіч прадаў 1/3 частку фальв. Ярашэў Вышамірскаму ў 1624, Леў і Іван падзялілі спадчыну ў 1636, з іх Іван, відаць, меў сына Юзафа, што ажаніўся з Аленай Кміта, якія набылі валоку зямлі ў фальв. Ярашэў у 1658 ад Ганны Бруханьскай, у першым шлюбе за Эліяшам Кмітам, у другім - за Жыгімонтам Ч., і 2 нівы там жа ад Андрэя-Баляслава і Гальшкі Даўлюдавай Ч. у 1666. Сыны Юзафа Іванавіча: Міхаіл, Януш, Грыгоры і Ян, спадчыннікі фальв. Ярашэў згодна тэстамента бацькі ў 1677.



Міхаіл Юзафавіч, мастаўнічы слонімскі, набыў частку фальв. Ярашэў ад Антонія і Петранэлі Ч. (1764), меў жонку Елізавету з Шукевічаў і сыноў Мікалая, Іаахіма і Бенядзікта, з якіх апошні - мастаўнічы слонімскі па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1790) і спадчыннік фальв. Ярашэў пасля ўступнага запісу ад братоў (1796).

Леў Фёдаравіч пакінуў сыноў Леона, Лукаша і Антонія. Лукаш, відаць, меў жонку Анастассю з Гацкіх, пакінуў сыноў Стэфана, Леона і, верагодна, Аляксандра (1676). Леон Львовіч, спадчыннік фальв. Ярашэў, меў сыноў Яна, Сымона, Юзафа і Станіслава. Апошні ўзяў шлюб з Схалястыкай Войніч (?), ад якога меў сыноў Жыгімонта, Тамаша і Леона.

Леон Станіслававіч меў жонку Тэафілю Луцкевіч (?) і пакінуў сына Яна, Тамаш меў жонку Разалію Луцкевіч (?) і пакінуў сына Адама, каморніка ваўкавыскага, а Жыгімонт пакінуў сына Ўладзіслава. Юзаф Леонавіч пакінуў сына Якуба, падчашага наваградзкага па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1786), мечніка сталавіцкага, уладальніка часткі фальв. Ярашэў па дзеду Антонію празванай Антонаўшчына (1796) і фальв. Насейкі (1799), яго сын Бенядзікт. Сымон Леонавіч меў сына Якуба, які, верагодна, быў каморнікам наваградзкім, і прадаў маёнт. Мастыцічы з вв. Мастыцічы і Лаховічы (?) Дамініцы з Тулоўскіх Ч., жонцы чашніка смаленскага.[1] Сыны Якуба Тамаш і Ян, у якога былі сыны Францішак і Караль, спадчыннікі фальв. Зубкаў. Ян Леонавіч, спадчыннік фальв. Ярашэў, яго жонка Сузанна Раманаўна (?), сыны Францішак і Антоні, яго жонка Петранэля Яновіч. Апошні пакінуў сыноў Ігнацыя і Антонія-Тадэвуша, пісара (1794) і рэгента (1796) земскага наваградзкага, якія прадалі частку спадчыннага фальв. Ярашэў-Антонаўшчына (1796), а набылі зямлю ў вак. Завоссе (1799).

Канстанцін Васілевіч пакінуў сыноў Паўла і Стэфана, з якіх апошні ўзяў шлюб з Тэкляй Рыла і пакінуў сыну Габрыэлю сваю долю спадчыны ў фальв. Ярашэў (1670). Габрыэль закладаў частку спадчыны слонімскім бенедыкцінкам (1674, 1693)[2], меў сына Мікалая і ўнукаў Барталамея і Яна. Ян разам з жонкай Барбарай Жураўскай (?), меў сыноў Станіслава, рэгента гранічнага і земскага наваградзкага (1796), Марціна і Францішка. Барталамей Мікалаевіч пакінуў сыноў Феліцыяна і Юрыя, ротмістра наваградзкага, які адрокся на карысць брата ў 1777. Феліцыян разам з Дамінікай Тулоўскай мелі сыноў Ігнацыя і Ксаверыя, што, магчыма, быў мечнікам смаленскім.

Сын Паўла Стэфанавіча ад жонкі з Войзбунаў Якуб набыў фальв. Русоцін ад Вірловічаў (1666), пакінуў сына Міхаіла,

што адпісваў арэндныя грошы 2500 злотых пол. жонцы Леона Ваўчэцкага. Сыны Міхаіла: Юрый (беспатом.), Казімір, Юзаф і Філіп, падзялілі спадчынны фальв. Русоцін у 1736. З іх Казімір прадаў разам з братам Філіпам сваю долю спадчыны Лукашу Камінскаму (?) ў 1755, ад жонкі Петранэлі Быкоўскай (?), верагодна, меў сыноў Яна і Францішка, каморніка наваградзкага, а Філіп пакінуў сыноў Людвіка, Ваўжынца, Яна-Міхаіла і Мацвея, між якімі падзяліў маёмасць (тэстамент 1760).[3]

Ян Філіпавіч пакінуў сыноў Юзафа і Тадэвуша, у якога быў сын Ян-Антоні, Ваўжынец пакінуў сыноў Ігнацыя і Антонія, а Міхаіл - Вінцэнта і Казіміра.

Прызнаны ў дваранстве 31.12.1798(11.01.1799).[4]

---

[1]Мажліва, Браніслава Ч.

[2]Справа з бенедыкцінкамі цягнулася да канца 18 ст., пра што сведчыць рэестр дакументаў, пададзены іх старэйшай Тэафіляй Пшысецкай у 1775.

[3]У прыватнасці, дзеду знакамітага фальклырыста Яну дастаўся селянін Грышка Самсон.

[4]Разам з імі выводзіліся: Міхаіл, ротмістр наваградзкі, і Браніслаў, чашнік смаленскі, сыны Барталамея Ч.

***З.Яцкевіч***

## 192. Шантыры гербу «Любіч»



Паходзяць з зямянаў Наваградзкага ваяв. Згодна родавага падання Ілля Шчарбовіч па мянушцы Шантыр - дзяржаўца па прывілею Караля Жыгімонта I (1531) земляў, якімі раней валодала жонка Федкі Тулмуча з далучэннем да іх пусташы Пуганоўшчына, што пазней займелі назву фальв. Шантыры.

Вядома: права вячыстае ад Фёдара Грыгор'евіча Ш. Мікалаю Сямёнавічу Ш. (1625), а таксама маніфест Мікалая Сямёнавіча Ш. свайму пляменніку Яну Адамавічу за 1642:

- квіт Яна Ш. роднаму брату Самуэлю з прычыны атрымання розных папераў (1683).

Рг. - Самуэль, меў ад першай жонкі сыноў Міхаіла і Казіміра, і ад другой Дароты з Гарбатоўскіх (яс тэстамент 1714) - сына Рамана, спадчыннікаў фальв. Шантыры. З іх Міхаіл з жонкай Марыяннай, дачкой Захарыўша Палажэйкі, прадаў сваю частку спадчыны брату Раману ў 1718, а пазней дараваў таму ж 100 злотых пол. (1733). А Раман, спадчыннік па

бацьку і брату фальв. Шантыры, пакінуў яго сынам ад шлюбу з Тэкляй Сапліцай Юзафу і Адаму, што засведчыў тэстаментам у 1757. З іх Адам меў сыноў Яна і Тэадора, у якога ў былі сыны Вінцэнт і Бальтазар, спадчыннікі зямлі ў вак. Шантыры.

Разам з імі выводзіліся: Антоні, сын Тамаша, унук Казіміра, з сынам Якубам і пляменнікам Станіславам; Станіслаў, сын Міхаіла, унук Самуэля, праўнук Крыштафа, з сынамі Тамашам і Дамінікам, а таксама Ігнацы, магчыма, сваяк Станіслава Міхайлавіча, і родныя браты Ян, Юзаф і Сымон Ш., непазначаныя ў генеалогіі.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

***С.Рыбчонак, З.Яцкевіч***

## 193. Шпігальскія гербу «Побаг»



Паходзілі з Ашмянскага пав.

Вядома: ліст Караля Жыгімонта III аб замене земляў з маёнт. Ш. у Ашмянскім пав. на каралеўскія землі ў Наваградзкім пав. (1621).

Рг. - Самуэль, меў сына Рафаіла Скалубу[1], які валодаў фальв. Зубкаў у Наваградзкім ваяв. (квіт падатковы 1715). Яго сыны: Міхаіл, Аляксандр, Дамінік і Мікалай, што пацвердзілі крэдэнсамураднікі і абывацелі Ашмянскага пав. (1738). Згодна квіта 1728 ад Яна Браньца, рэгента гродзкага наваградзкага, Міхаіл і Мікалай дзедзічы вышэй згаданага маёнтка. Мікалай пакінуў сваім сынам Леону, Пятру і Бенядзікту (нар. у 1733) фальв.Зубкаў (квіт 1740). Бенядзікт меў сыноў Антонія, Казіміра, Ігнацыя і Міхаіла.

Прызнаны ў дваранстве 22.06.1800.

---

[1]Мажліва Скалуба - родавы прыдомак.

***З.Яцкевіч***

## 194. Шцэлі гербу «Газдава»



Выводзіліся: Казімір, паручык 6-га рэгіменту войскаў літ., і Юзаф, сыны Станіслава, унукі Юрыя, што прад'явілі ў якасці доказу на шляхецтва сведчанне ўраднікаў Наваградзкага пав. за 1799.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***С.Рыбчонак***

## 195. Шчаноўскія гербу «Драгаслаў»



Ужывалі родавы прыдомак Астрэйка (Ostreyko).

Вядома: замена зямлі Мікалая з Філонам Сасінавічам А.-Ш. у вотчынах Грыгароўская і Дзямідаўская, а таксама сенажаці і лесу Шчаноўскага (1626).

- Мікалай і Марыянна з Керсноўскіх Астрэйкі здавалі ў заклад маёнт.Шчонаў Андрэю і Дароце з Бжазоўскіх Багуцкім (1644).

Выводзіліся: Банавентура з сынамі Марцінам і Андрэем, Казімір-Гіляры[1] і Ян, браты, А.-Ш.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]Магчыма Казімір і Гіляры.

***А.Шпунт***

## 196. Шылінгі гербу «Шылінг»

Рг. - Мікалай Людвік, падчашы навагрудзкі, меў сына Рэйнгальда-Людвіка, скарбніка інфлянцкага (яго тэстамент 1732), які ад жонкі Соф'і з Шульцаў пакінуў сыноў Аттона-Крыштафа (нар.1716), што памёр у малалецтве, і Адама-Людвіка (нар. 1713)[1], капітана войск



пол. Сын апошняга Караль-Густаў-Ігнацы (нар. у 1758)[2], шамбялян Двара Польскага па прывілею Караля Станіслава-Аўгуста (1789), а пазней дэпутат Галоўнага Суда ВКЛ, як засведчылі крэдэнсам урадніki і абывацелі Навагрудзкага пав. (1799), уладальнік маёнт.Палужжа і Ясенец у тым жа павеце.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

---

[1]Метрыкі з Кейданскага збора.
[2]Нарадзіўся ў Слуцку.

***С.Рыбчонак***

## 197. Шымкевічы гербу «Касьцеша»



Выводзіліся з Лідзкага пав.

Рг. - Мацвей, у якасці доказу на шляхецтва прад'явіў сведчанне ўраднікаў і абывацеляў Навагрудзкага пав. за 1798.

Прызнаны ў дваранстве 30.05.1800.

***А.Ганущ***

## 198. Яблоньскія гербу «Ясеньчык»



Выводзіліся, напэўна, з мясцовасці Самсоны[1], назва якой замацавалася ў якасці родавага прыдомка.

Рг. - Казімір, падстолі мазырскі, уладальнік маёнт. Бердаўка ў Навагрядзкім ваяв., які пакінуў сыну Яну, гараднічаму навагрядзкаму. Сыны апошняга: Казімір, войскі навагрядзкі, а потым падстолі мазырскі, прадаў спадчыну Пацею (1786), Юзаф, стражнік навагрядзкі, Тадэвуш, суддзя гродзкі навагрядзкі, і Сымон, шамбялян Двара Польскага. З іх Казімір меў сына Антонія і жыў у Слуцкім пав., Юзаф - сыноў Міхаіла, Станіслава і Віктарына, пражывалі таксама ў Слуцкім пав., Тадэвуш, уладальнік маёнт. Каменка ў Навагрядзкім пав., пакінуў сыноў Фелікса і Міхаіла, а Сымон, дзяржаўца Навасёлкаўскага староства ў тым жа павеце, - сыноў Караля, Вінцэнта, Тэафіла і Леапольда.

Прызнаны ў дваранстве 10(21).12.1798.

---

[1]Месцазнаходжанне не пазначана.

***С.Рыбчонак, А.Шпунт***

## 199. Янкоўскія гербу «Агоньчык»



Рг. - Станіслаў дзедзіч фальв.Малое Сялко ў парафіі Навагрядзкай, меў жонку Марцыянну з Шацілаў і сына Тадэвуша (нар. 1730). Апошні валодаў фальв. Шчонаў, які прадаў Булгарыну, харужаму ваўкавыскаму ў 1772, з жонкай Тэрэзай з Райкевічаў меў сына Мікалая (нар. у 1759, Навагрядзкі парафіяльны касцёл). Мікалай Тадэвушавіч, каморнік Навагрядзкага ваяв. (па патэнту 1794 ад Адама Вайніловіча, падкаморага навагрядзкага), арандаваў маёнт.Лоўчыцы ў Навагрядзкім пав., меў жонку Ангелю Чэрнікоўну, ротмістраўну слонімскую, ды сыноў Міхаіла і Людвіка.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***З.Яцкевіч***

## 200. Янкоўскія гербу «Ястрабец»

Паходзілі з вак. Янкава Ломжынскага пав. Мазавецкага ваяв. і мелі пасведчанне ад мясцовай шляхты за 1632.

Адны перасяліліся ў Менскае ваяв., дзе Васіль Ліпніцкі



арандаваў у Себасцьяна і Крысціны з Брындзаў Я. фальв. Баршчэўнікі (1652). А іншыя - ў Наваградзкае ваяв., дзе Сусанна з Быкоўскіх, па першаму мужу Крыштафава Рабчыцава(?)[1], па другому Янава Я., валодала двума частками фальв. Раеўшчына-Зацержаў, якія ўступіла свайму мужу (1675) і дзе Я. пражывалі да часу вывада.

Рг. - Ян, ротмістр харугвы Нясвіжскай ардынацыі, арандаваў у ваяводы віленскага Караля Радзівіла фальв. Яцынаўшчына і Парэй (1784) і фальв. Халаймоўшчына (1786) Наваградзкага пав., меў братоў Мацэвуша, Іаахіма і Антонія.

Разам з імі выводзіліся: Мацвей, паручык той жа харугвы, з сынамі Антоніем, Вінцэнтам, Юстынам і Калікстам; Бенядзікт з сынам Ігнацыем; Ігнацы з сынамі Міхаілам, Гілярыем і Андрэем, у якога былі сыны - Вінцэнт, Станіслаў, Мікалай і Ян; Стэфан з сынамі Каралем і Юзафам; Якуб з сынамі Янам і Антоніем; Пётр таксама з сынамі Янам і Антоніем; Станіслаў з сынамі Каралем і Янам; Міхаіл з сынамі Сымонам і Пятром; і яшчэ Міхаіл з сынамі Каралем, Фларыянам і Казімірам Я.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

---

[1]У арыгінале напісана “Rorczycowa”.

***З.Яцкевіч***

## 201. Яновічы гербу «Радван»



Па родаваму паданню паходзілі ад Войцэха Я., маршалка і охмістра пры двары Караля Аляксандра, таксама ўладальніка маёнт. Дорагаў у Наваградзкім ваяв., набытага ад жонкі Івашкі Гайцэвіча.

Рг. - Аляксандр, пакінуў сыноў Юрыя, Станіслава, Мацвея і Казіміра, якія ў часы “Патопа” пабывалі ў маскоўскім палоне[1], а таксама Войцэха і дачку Ганну, што ўзяла шлюб з Якубам Чачотам (квіт 1671).

Сыны Войцэха: Станіслаў, Павел і Ян. З іх Станіслаў меў сыноў Антонія (беспатом.), Вінцэнта (беспатом.), Мацвея і Базыля. Апошні пакінуў сына Яна-Ануфрыя, а Мацвей, стараста маласялецкі, рэгент гродзкі і ляндвойт наваградзкі, пакінуў сына Вінцэнта, уладальніка фальв. Галынка ў Наваг-

радзкім пав., набытага ад Тамаша Воўка-Ланеўскага, чашнікавіча смаленскага (інтрамісія 1794).

Павел, валодаў закладным фальв. Калдычаў-Завоссе ў Наваградзкім ваяв. Якуба Антонавіча і Разаліі з Сальмановічаў Берасьневічаў, абозных Полацкага ваяв. (1758), меў сыноў Юзафа (беспатом.) і Міхала, што засведчыў тэстаментам у 1759, з якіх апошні пакінуў сыноў Уладзіслава, Адама і Юзафа.

Сыны Яна Войцэх-Павел, што стаў ксяндзом, і Юзаф, спадчыннікі па бацьку маёнт. Гацішча ў Наваградзкім пав. Юзаф пакінуў сыноў Станіслава і Ігнацыя, што прадаў маёнт. Антонію Дахновічу-Гаціскаму, ротмістру Наваградзкага ваяв., у 1780.

Прызнаны ў дваранстве 3(14).03.1799.

---

[1] Пра нашчадкаў іх невядома.

***З.Яцкевіч***

## 202. Яроцкія гербу «Равіч»



Рг. - Аляксандр-Станіслаў, скарбнік старадубскі, за ваенныя заслугі атрымаў ад Караля Яна III восем валок зямлі ў в. Тарасевічы Камянецкага ключа Гарадзенскай эканоміі (1676), якую прадаў пазней паручыку каралеўскага войска Вайтулевічу (1716), меў сына Багуслава, што валодаў фальв. Лазоўцы ў Наваградзкім пав. Сын Багуслава Марцін, уладальнік маёнт. Навасады ў тым жа павеце, які пакінуў у спадчыну (1770) сыну Казіміру, скарбніку мазырскаму.

Прызнаны ў дваранстве 19(30).01.1799.

***А.Шпунт***

# СЛОЎНІК ТЭРМІНАЎ

Абозны вялікі ВКЛ - службовая асоба ў войску ВКЛ, якая арганізоўвала ваенныя лагеры (абозы) для Вял. князя і войска пад час баявых дзеянняў. Аналагічная пасада мелася і ў кожным павеце для забеспячэння абоза на тэрыторыі дадзенага павета.

Абшыт - адстаўка, звальненне; ліст, які атрымліваў вайсковец пры звальненні ў адстаўку.

Аб'юрата - уступка якой-небудзь рэчы пад прысягай, адрачэнне ад памылак.

Аб'юрата дымоў - паказанне колькасці сялянскіх дымоў (двароў) у маёнтку, пацверджанае прысягай.

Адукацыйная камісія - дзяржаўная ўстанова па кіраўніцтву народнай асветай у РП і ВКЛ, першая такога кшталту ў Еўропе. Заснавана Соймам 1773-1775 гг. пасля роспуску ордэна іезуітаў, які да гэтага больш за ўсё апекаваўся адукацыяй.

Алтарыя - 1) алтар у каталіцкім касцёлё ў асобным памяшканні; 2) фундуш на ўтрыманне такога алтара. Пры алтарыі мог быць свой святар - алтарыст.

Асэсар - чыноўнік у судзе, які прымаў ад асоб плату за ўнясенне прыватных дакументаў у актавыя кнігі і за судаводства.

Аўдытар - 1) член суда, які вядзе следства; 2) прысутны (сведка) пры складанні і чытанні акта.

Афіцыял - намеснік біскупа, у адсутнасці якога выконвае яго абавязкі.

Брыгада - вайсковае падраздзяленне, якое складаецца з некалькіх палкоў; звычайна выступае ў войску як асобная адзінка.

Будаўнічы - службовая асоба ў павеце, якая наглядала за грамадзкімі будынкамі і іх будаўніцтвам, збірала падаткі на іх утрыманне.

Булава вялікая ВКЛ - упраўленне(штаб) гетмана вялікага ВКЛ.

Булава польная ВКЛ - упраўленне(штаб) гетмана польнага ВКЛ.

Бургграбі - 1) упраўляючы ці наглядчык замка, палаца або дома; 2) кіраўнік судовай адміністрацыі ў горадзе.

Ваявода - службовая асоба ў ВКЛ, якая ўзначальвала адміністрацыйна-судовую ўладу ў ваяводстве. Пад час войнаў ваявода ўзначальваў ваяводскае апалчэнне шляхты, засядаў у Радзе ВКЛ.

Возны, енерал - службовая асоба ў ВКЛ, ніжэйшая пасада выканаўчай улады ў павеце; яго абавязкі: уручэнне позваў у суд;

агляд месца здарэння (злачынства), ахвяр злачынства і складанне рэляцыі аб гэтым; афіцыйнае ўвядзенне асоб у валоданне маёнткамі і іншай маёмасцю і складанне інтрамісійных лістоў.

Войскі ВКЛ - службовая асоба ў войску ВКЛ, ад'ютант гетмана.

Войскі павятовы - службовая асоба ў ВКЛ. У час войнаў, калі шляхта з паспалітым рушаннем выпраўлялася ў паход, войскі наглядаў за парадкам у павеце і апекаваў тых, хто застаўся ў маёнтках. Падначальваўся павятоваму старосту.

Гараднічы - 1) службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік шляхты, якая жыве ў горадзе; начальнік гарнізона замка (у павеце), або намеснік кашталяна (у ваяводстве); 2) службовая асоба ў Расійскай Імперыі, начальнік гарадской паліцыі (да 1865).

Гетман вялікі ВКЛ - галоўнакамандуючы войскам ВКЛ.

Гетман польны ВКЛ - намеснік вялікага гетмана, які камандаваў войскам ВКЛ непасрэдна пад час бітваў ("у полі") і пры абароне межаў краіны.

Дароўны запіс - прыватны дакумент, складзены паводле пэўнай формы, які вызначае ўмовы перадачы якой-небудзь маёмасці ад адной асобы другой у вечную ўласнасць.

Дваранін гаспадарскі (каралеўскі) - службовая асоба пры двары Вял. князя (Караля), якая выконвала розныя даручэнні манарха.

Дваранін Скарбу ВКЛ - службовая асоба пры Скарбавай камісіі ВКЛ, якая выконвала даручэнні падскарбія.

Дзяржаўца - часовы ўладальнік вялікакняжацкага (дзяржаўнага) маёнтка - дзяржавы, які плаціў у дзяржаўны скарб кварту - чацвёртую частку ад даходаў з маёнтка.

Дэкрэт - рашэнне суда або пастанова Сойма, запісаныя ў актавую кнігу.

Дэпутат Трыбунала ВКЛ - член (суддзя) Галоўнага Трыбунала ВКЛ, якога выбірала шляхта на павятовых Сойміках ад кожнага павета па аднаму тэрмінам на адзін год.

Застава (заклад) - перадача якой-небудзь маёмасці (маёнтка, зямлі, падданага) за пазычаную суму грошай на пэўны тэрмін з правам далейшага выкупу, прычым крэдытор карыстаўся ўсімі даходамі з гэтай маёмасці.

Зямянін гаспадарскі (каралеўскі) - шляхціч, уласнік нерухомай маёмасці (маёнтка, зямлі), які абавязаны несці земскую ваенную службу Вял. князю (Каралю).

Інтрамісія - афіцыйнае ўвядзенне (падача) у валоданне нерухомай маёмасцю (маёнткам, зямлёй, падданымі).

Калежскі сакратар - цывільны чын X класа Табеля аб рангах, які адпавядае ваеннаму чыну паручыка.

Камісар - член камісіі, якая прызначалася Каралём (каралеўская камісія) або павятовым судом (павятовая камісія) для разгляду спрэчак паміж шляхтай, пераважна аб межах маёнткаў, правах на маёмасць і г.д.

Камісар гранічны - член камісіі, прызначанай для размежавання спрэчных участкаў зямлі паміж маёнткамі.

Камісія вайсковая - камісія (дзяржаўная ўстанова), прызначаная для падтрымкі парадку ў раскватараваных на пастой у паселішчах войсках і судаводства сярод вайскоўцаў.

Камісія парадкавая - камісія (дзяржаўная ўстанова), прызначаная для нагляду за каралеўскімі гарадамі і мястэчкамі; заснавана ў 1768, разглядала гарадскія прывілеі, вызначала і распараджалася гарадскімі даходамі і г.д.

Камісія цывільна-вайсковая - судовая ўстанова, якая існавала ў паветах замест земскіх і гродзкіх судоў пад час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай у 1792-1793. У яе склад уваходзілі чыноўнікі цывільныя і ваенныя.

Каморнік - землямер.

Канонік - у каталіцкім касцёле - член капітулы (рады вышэйшых іерархаў касцёла); таксама ганаровы тытул, які даецца святарам.

Канфедэрацыя - саюз шляхты, духавенства або гарадоў, утвораны для ўздзеяння на палітычнае становішча ў краіне і для абароны ўласных інтарэсаў.

Канфірмацыя - пацвярджэнне, зацвярджэнне, прызнанне найвышэйшай інстанцыяй (Каралём) заканадаўчых актаў, якія прымаў Сойм, або прывілеяў на валоданне маёнткамі, зямлёй і прыгоннымі, выдадзеных розным асобам яго папярэднікамі.

Канцлер ВКЛ - вышэйшая службовая асоба, начальнік канцылярыі Вял. князя, у адсутнасці апошняга кіраўнік дзяржавы.

Канцлер каронны - вышэйшая службовая асоба ў Польшчы, начальнік канцылярыі Караля.

Канюшы надворны ВКЛ - службовая асоба, якая загадвала стайнямі вялікакняжацкага двара, пазней ганаровая пасада.

Кашталян - службовая асоба ў ВКЛ, камендант замка і камандуючы замкавым гарнізонам у ваяводскім цэнтры; намеснік ва-

яводы пад час ваенных дзеянняў.

Квітанцыя (квіт, квітацыйны ліст) - запіс аб уплаце грашовай пазыкі або падатку.

Крайчы ВКЛ - службовая асоба пры двары Вял. князя, якая наглядала за рэзаннем і сартаваннем мяса для вялікакняжацкага стала, пазней ганаровая пасада.

Крэдэнс - прыватны ліст-пасведчанне прадстаўнікоў шляхты выдадзены асобе ў пацверджанне яе належнасці да шляхецкага стану (саслоўя).

Кухмістр - службовая асоба ў ВКЛ, загадчык вялікакняжацкай кухні, пазней ганаровая пасада.

Леннае права - права, пры якім уласнік перадае валоданне нерухомай маёмасцю (маёнткам) якой-небудзь асобе за пэўную службу, часцей за ўсё вайсковую, з правам наследавання нашчадкамі па мужчынскай лініі. Гэтае права выкарыстоўвалі манархі, узнагароджваючы за службу шляхту дзяржаўнымі маёнткамі. Па спыненні мужчынскай лініі ўладальніка маёнтак зноў пераходзіў да яго ўласніка.

Ліст - агульная назва ўсіх відаў афіцыйных і прыватных дакументаў.

Лоўчы - службовая асоба ў ВКЛ, пры двары Вял. князя адказваў за паляванне і наглядаў за паляўнічымі ўгоддзямі, пазней ганаровая пасада; у паветах былі адпаведныя пасады.

Люстрацыя - рэвізія маёнткаў (пераважна дзяржаўных) з мэтай падрабязнага апісання іх стану, даходаў і павіннасцей насельніцтва. Правядзеннем люстрацыі кіраваў люстратар.

Маніфест - 1) публічная заява асобы перад судом супраць парушальніка яго правоў; пратэст, скарга, занесеная ў судовыя кнігі для наступнага разгляду ў судзе; 2) урачыстая адозва вярхоўнай улады да народу, а таксама палітычных партый і аб'яднанняў да грамадства, у якой змяшчаецца іх праграма, становішча і г.д.

Маршалак вялікі ВКЛ - вышэйшая службовая асоба, старшыня Рады ВКЛ, наглядаў за парадкам і этыкетам пры двары Вял. князя.

Маршалак вялікі каронны - вышэйшая службовая асоба ў Польшчы, старшыня Сойма Рэчы Паспалітай.

Маршалак земскі павятовы - кіраўнік павятовай шляхты, старшыня земскага суда і павятовых Соймікаў.

Маршалак надворны ВКЛ - службовая асоба, намеснік вялікага маршалка, кіраўнік адміністрацыі вялікакняжацкага двара;

зрэдку таксама называўся охмістрам (гл.).

Маршалак Трыбунала ВКЛ - старшыня Галоўнага Трыбунала ВКЛ.

Мастаўнічы - службовая асоба ў ВКЛ, меў абавязак нагляду за мастамі і бродамі ў павеце.

Мернічы - службовая асоба ў ВКЛ, меў абавязак вымярэння зямлі.

Метрыка ВКЛ - умоўная назва архіва канцылярыі Вялікага князя літоўскага, зараз захоўваецца ў Маскве, у Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў, фонд 389.

Метрыка Каронная - умоўная назва архіва канцылярыі Караля польскага, зараз захоўваецца ў Варшаве, у Архіве галоўным актаў даўніх.

Мечнік - службовая асоба ў ВКЛ, якая насіла меч Вял. князя, пазней ганаровая пасада; аналагічная пасада была і ў паветах.

Намеснік Жмудскі - службовая асоба ў ВКЛ, намеснік Жмудскага (Жамойцкага) старасты, кіраўнік судовай адміністрацыі Жмудскага староства.

Намеснік Інфлянцкі - службовая асоба ў ВКЛ, затым у Польшчы, намеснік інфлянцкага ваяводы, кіраўнік судовай адміністрацыі Інфлянцкага ваяводства.

Охмістр - тое ж, што і маршалак надворны ВКЛ.

Паборца - службовая асоба ў ВКЛ, якая збірала падаткі з насельніцтва.

Падваявода - службовая асоба ў ВКЛ, намеснік ваяводы, звычайна ўзначальваў гродзкі суд у ваяводскім цэнтры.

Падкаморы - службовая асоба ў ВКЛ, старшыня падкаморскага суда, які разглядаў спрэчкі шляхціч аў аб межах паміж маёнткамі.

Падканцлер ВКЛ - намеснік канцлера ВКЛ.

Падканюшы - службовая асоба ў ВКЛ, намеснік канюшага, пазней ганаровая пасада.

Падскарбі вялікі (земскі) ВКЛ - вышэйшая службовая асоба, якая загадвала дзяржаўным скарбам; начальнік Скарбавай камісіі, наглядаў за вялікакняжацкімі маёнткамі, кіраваў зборам падаткаў у краіне, вёў улік дзяржаўных выдаткаў.

Падскарбі надворны ВКЛ - службовая асоба, намеснік вялікага падскарбія, загадваў скарбам двара Вял. князя.

Падстараста судовы - службовая асоба ў ВКЛ, намеснік старасты, звычайна ўзначальваў гродзкі суд у павятовым цэнтры.

Падстолі - службовая асоба ў ВКЛ, якая наглядала за стравамі за сталом Вял. князя пад час урачыстых прыёмаў, пазней ганаровая пасада.

Падсудак - памочнік суддзі, праводзіў дасудовую падрыхтоўку спраў.

Падчашы - службовая асоба ў ВКЛ, якая трымала чашу Вял. князя з віном пад час піршастваў, пазней ганаровая пасада.

Парафія - ніжэйшая адміністрацыйная адзінка ў касцёльнай арганізацыі (прыход), якой кіруе пробашч.

Паручык (Паручнік) - малодшы афіцэрскі чын у войску ВКЛ, звычайна камандзір харугвы пяхоты, адпавядае сучаснаму воінскаму званню старэйшага лейтэнанта.

Пасол - дэпутат Сойма Рэчы Паспалітай, выбіраліся шляхтай на Сойміках па два паслы ад кожнага павета.

Патэнт - пасведчанне на атрыманне шляхецтв ці пасады; пацвярджэнне шляхецкай годнасці.

Пісар - кіраўнік канцылярыі суда і захавальнік актавых кніг; пад яго кіраўніцтвам пісцы запісвалі ў кнігі натарыяльныя акты, судовыя рашэнні і г.д. У канцылярыях розных судоў былі свае пісары: у канцылярыі Вял. князя - пісар вялікі ВКЛ, таксама пісары - скарбавы, земскі, гродзкі, вайсковы і г.д.

Плябан - адна з назваў каталіцкага святара, кіраўнік касцёльнай гаспадаркі.

Пробашч - адна з назваў каталіцкага святара, кіраўнік парафіі.

Прывілей - 1) акт манарха, які дае пэўным асобам або цэлым саслоўям акрэсленыя правы або скасоўвае агульнае права ў адносінах да асоб і саслоўяў; 2) фундацыйны дакумент; 3) права закладання новых гарадоў і мястэчак, выданае манархам.

Прыдомак - частка прозвішча (або дадатак да прозвішча), што магла мець розныя варыянты паходжання: 1) ад назвы герба, так званы "гербавы прыдомак", напрыклад, Кошбак-Сапліцы гербу «Кошбак»; 2) ад родавага маёнтка ці мясцовасці, з якой выводзіўся род, напрыклад, з Пшэрадава Пшэрадоўскія; 3) ад родавага імя, мянушкі, прозвішча, напрыклад, Літавор-Храптовічы ад родапачынальніка Літавора, т. зв. "родавыя прыдомкі"; 4) ад зліцця (аб'яднання) прозвішчаў ў выпадках шлюба, перамены прозвішча і г.д. У 19 ст. прыдомкі адміраюць, замацоўваюцца ў якасці часткі двайнога прозвішча, або становяцца першым прозвішчам.

Ротмістр - афіцэр войска ВКЛ, камандзір роты пяхоты або

харугвы язды (кавалерыі), адпавядае сучаснаму воінскаму званню капітана.

Рэгент гродзкі - службовая асоба ў ВКЛ, загадчык канцылярыі гродзкага суда, які наглядаў за правільнасцю вядзення актавых кніг. Адпавядае пасадзе пісара земскага суда.

Рэгімент - частка (аддзел) войска.

Рэфармацыйны запіс - запіс мужам сумы грошай, забяспечанай на яго нерухомай маёмасці (маёнтку) або на яе частцы, жонцы за яе пасаг, унесены ў двор мужа.

Рэферэндары ВКЛ - службовая асоба, прызначаемая Вял. князем; першапачаткова прымаў скаргі і перадаваў канцлеру для прадстаўлення Вял. князю, пазней паведамляў рашэнні Вял. князя на пададзеныя скаргі, назіраў за парадкам падачы скаргаў; таксама дарадца Вял. князя. З 1766 - старшыня рэферэндарскага суда.

Сакратар вялікай пячаткі ВКЛ - службовая асоба, памочнік канцлера, які прыкладаў вял. пячатку ВКЛ да дакументаў, якія выходзілі з вялікакняжацкай канцылярыі.

Сакратар гаспадарскі - службовая асоба ў ВКЛ, дарадца Вял. князя, які непасрэдна займаўся справаводствам у канцылярыі Вял. князя.

Сакратар малой пячаткі ВКЛ - службовая асоба, памочнік падканцлера, які прыкладаў малую пячатку ВКЛ да дакументаў, якія выходзілі з вялікакняжацкай канцылярыі.

Сойм - сход усіх саслоўяў, як прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай, г.зн. Караля польскага і Вял. князя літоўскага, сената і паноў-рады, шляхты, выбранай ад кожнага павета і ваяводства ў пэўнай колькасці, якія называліся пасламі. Збіраліся наступныя Соймы: канвакацыйны - скліканы па смерці Караля; элекцыйны - скліканы для выбрання Караля; каранацыйны - скліканы пад час каранацыі; ардынарыйны - збіраўся кожныя два гады; экстраардынарыйны - надзвычайны, скліканы ў сувязі з якой-небудзь важнай падзеяй; вальны -усеагульны, у якім удзельнічалі ўсе правінцыі краіны; канфедэрацыйны - скліканы канфедэрацыяй.

Скарбнік - службовая асоба ў ВКЛ, якая падначальвалася вял. падскарбію ВКЛ; адпаведная пасада ў павеце - захавальнік павятовага скарба і падаткаў, сабраных з насельніцтва павета.

Станаўнічы - службовая асоба ў войску ВКЛ, якая распараджалася расквартараваннем войск у паселішчах.

Стараста - службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік судовай адміністрацыі павета; за службу атрымліваў ад Вял. князя дзяржаўны маёнтак - стараства - у часовае або пажыццёвае валоданне; у павятовым цэнтры звычайна старшыня гродзкага суда.

Стольнік - службовая асоба ў ВКЛ, якая адказвала за сервіроўку вялікакняжацкага стала, пазней ганаровая пасада; аналагічная пасада была і ў павеце.

Стражнік - службовая асоба ў войску ВКЛ, камандуючы памежнымі войскамі, асноўны абавязак якога складаўся ў ахове межаў краіны, абароне ад нападаў, пераважна татар. Аналагічныя пасады былі і ў паветах.

Суд гранічны - спецыяльны суд, які разглядаў скаргі шляхцічаў аб межах маёнткаў.

Суд гродзкі - павятовы суд для вырашэння крымінальных спраў паміж шляхтай; яго ўзначальвалі ў ваяводскім цэнтры - ваявода, або падваявода, у павятовым цэнтры - стараста, або падстараста. Члены суда - тры суддзі і пісар (рэгент). Дзейнічаў пастаянна ўвесь год і падзяляўся на рочкі (сесіі невялікай працягласці).

Суд земскі - павятовы суд для вырашэння грамадзянскіх спраў паміж шляхтай; яго ўзначальваў звычайна земскі (павятовы) маршалак. Члены суда - суддзя, падсудак, пісар. Дзейнічаў перыядычна - тры шасцітыдневыя сесіі (рочкі) у год.

Суд кампрамісарскі - таксама палюбоўны, трацейскі; складаўся з камісараў (суддзяў), якіх выбралі самі спрэчныя бакі. На судзе вырашаліся ў асноўным маёмасныя спрэчкі паміж шляхтай. Апеляцыі накіроўваліся ў Трыбунал ВКЛ толькі ў выпадку непагаднення паміж камісарамі абодвух бакоў.

Суд падкаморскі - павятовы суд, які вызначаў спрэчныя межы паміж маёнткамі; яго ўзначальваў падкаморы, якому падпарадкоўваліся каморнікі.

Суддзя - службовая асоба ў ВКЛ, член судовага органа, які выконваў функцыі правасуддзя.

Сурагатар - службовая асоба ў ВКЛ, намеснік (памочнік) старасты ў гродзкім судзе, тое ж, што падстараста судовы (гл.).

Трыбунал Галоўны ВКЛ - вышэйшы апеляцыйны суд у ВКЛ, рашэнні якога мелі сілу Соймавых пастаноў. Заснаваны ў 1581, пачаў працаваць у 1582. Складаўся з дэпутатаў, якіх выбірала шляхта ад кожнага павета, узначальваў маршалак Трыбунала.

Трыбунал скарбавы ВКЛ - вышэйшы апеляцыйны суд у ВКЛ па разгляду спраў аб скарбавых нядоімках, спрэчках паміж

дзяржаўнымі і шляхецкімі маёнткамі. Заснаваны ў 1609, пасяджэнні праходзілі пасля заканчэння кадэнцый Галоўнага Трыбунала, склад членаў як у апошнім.

Тэстамент - завяшчанне, прававы акт, распараджэнне, складзеныя па вызначанай форме наконт асабістай маёмасці на выпадак смерці.

Ураднік - чыноўнік; асоба, якая займае пэўную пасаду ў адміністрацыйнай або судовай установе (урадзе).

Фундуш, фундушавы запіс - ахвяраванне, запіс маёмасці або грошай касцёлу, царкве, кляштару.

Харугва - 1) баявы сцяг падраздзяленняў войска ВКЛ; выдавалася перад паходам з дзяржаўнага скарба кожнаму харужаму; 2) вайсковае падраздзяленне кавалерыі ў войску ВКЛ, узначальваемае харужым; асноўныя харугвы - дворная, якая фарміравалася пры двары Вял. князя, і павятовая, якая фарміравалася з павятовай шляхты ў кожным павеце пры паспалітным рушанні; буйныя феадалы фарміравалі ўласныя харугвы.

Харужы - службовая асоба ў войску ВКЛ, сцяганосец, камандзір харугвы. Харужыя былі - дворны, земскі і павятовыя.

Цівун - службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік цівунства - асобнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі, якая ахоплівала некалькі вялікакняжацкіх маёнткаў, дзе ён выконваў судовае і адміністрацыйнае кіраўніцтва і збор падаткаў з жыхароў гэтага цівунства. Існавалі, напрыклад, Віленскае, Троцкае цівунства.

Чашнік - службовая асоба ў ВКЛ, віначэрпі, які пры стале Вял. князя кіраваў раздачай віна; пазней ганаровая пасада. Аналагічная пасада была і ў паветах.

Шамбялян - тое ж, што і падкаморы.

Элекцыя - акт выбрання Караля і Вялікага князя.

Юрыздыка - 1) заселеная мясцовасць (тэрыторыя) у межах вялікакняжацкага горада або ў яго наваколлі, якая не падпарадкоўваецца гарадзкой уладзе, а належыць якому-небудзь асобнаму ўраду (суду), або мае ўласныя правы; 2) агульная назва для судоў шляхецкіх, гродзкіх, старасцінскіх.

**Г. Брэгер**

# Імянны паказальнік

**В**



**Г**

Д



Е

## С

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

беспатом. - беспатомны
в. - вёска
вак. - ваколіца
ваяв. - ваяводства
ВКЛ - Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае
вял. - вялікі
гр. - граф
губ. - губерня
ДДС - дваранскі дэпутацкі сход
інш. - іншы(я)
кн. - князь, кніга
літ. - літоўскі
маёнт. - маёнтак
мяст. - мястэчка
нар. - нарадзіўся
пав. - павет
пол. - польскі
прус. - прускі
Pr. - родапачынальнік ад лацінскага protoplasta - заснавальнік роду
р. - рака
рас. - расійскі
РП - Рэч Паспалітая
ст. - стагоддзе
фальв. - фальварак
ЯКМ - Яго Каралеўская Міласць

# НАЗВЫ ГЕРБАЎ З УКАЗАННЕМ РОДАЎ, ЯКІЯ ІМІ КАРЫСТАЛІСЯ

**Абданк, 1** — Абламовічы, 1; Бялапятровічы, 22; Гарабурды, 42; Сухадольцы, 167; Чаркоўскія, 189.

**Агоньчык, 2** — Аганоўскія, 3; Клачкоўскія, 90; Магнушэўскія, 104; Парфяновічы, 128; Пацыны, 131; Сакалоўскія, 149; Янкоўскія, 199.

**Адравонж, 3** — Крышылоўскія, 97; Пантусы, 127; Літавор-Храптовічы, 187.

**Анцута, 4** — Анцуты, 7; Гаўрылкевічы, 47.

**Асарыя, 5** — Брахоцкія, 16.

**Астоя, 6** — Гаўрылкевічы, 48; Гудвіловічы, 52; Данілевічы, 60; Пажарыцкія, 126; Пулкатыцкія, 136; Стралкі, 164; Сухарэбскія, 168; Чэчоты, 191.

**Астрог, 7** — Заельскія, 73.

**Боньча, 8** — Отэнгаузы, 124; Трускоўскія, 175.

**Бродзіц, 9** — Бародзічы, 12.

**Брохвіч, 10** — Коршуны, 93.

**Вуж каранаваны, 11** — Фуровічы, 180.

**Газдава, 12** — Бр(ж)азоўскія, 17; Гадачэўскія, 39; Падгайскія, 125; Сакаловічы, 148; Чэўжыкі, 190; Шцэлі, 194.

**Гейштар, 13** — Венцкевічы, 28.

**Глебка, 14** — Ісаевічы, 80.

**Граблі, 15** — Маклокі, 108.

**Грыф, 16** — Быхоўскія, 21; Ражыцкія-Гэмскія, 54.

**Далэнга, 17** — Гарэльскія, 45; Залескія, 74.

**Дангэль, 18** — Контрым-Дамейкі, 58.

**Дар, 19** — Маджарскія, 105.

**Джэвіца, 20** — Духноўскія, 63.

**Дзях, 21** — Стыпулкоўскія, 165.

**Драгаслаў, 22** — Бухавецкія, 20; Шчаноўскія, 195.

**Дэшына, 23** — Дэшыны, 64.

**Еліта, 82** — Вайцэхоўскія, 25; Дабрыньскія, 56.

**Еліта змен., 83** — Вярэйскія, 38.

**Задора, 24** — Скуратовічы, 159.

**Знін, 25** — Грыцкевічы, 51.

**Касьцеша, 27** — Берасьневічы, 13, 14; Верашчакі, 29; Шымкевічы, 197.

**Заўвага: лічба пасля назвы герба адпавядае яго нумару на каляровай уклейцы, лічба пасля прозвішча абазначае нумар артыкула ў гербоўніку, пад якім змешчаны гэты радавод.**

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

# Малы гербоўнік наваградзкай шляхты

***Аўтарскі калектыў:***
А.Ануш, А.Леўчык, С.Рыбчонак, А.Шпунт,
Зм.Яцкевіч.

Заг. РВА *П.П.Журкевіч*
Рэдактар *А.І.Валахановіч*
Камп'ютарная падрыхтоўка выдання
*Ж.А. Рыбчонак, А.А. Паляковай*

Здадзена ў набор 16.05.96. Падпісана ў друк 16.12.96. Фармат 60x84 1/16. Друк афсетны. Друк. арк. 10,6. Ум.-выд. арк. 11,5. Тыраж 300 экз. Зак. 19.

Надрукавана на рызографе БелНДІДАС.
Аператар Г.Ф.Алейнік

Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы. Ліцэнзія ЛВ № 113.
220000, Мінск, вул. Крапоткіна, 55.